

www.minkult.me

# ТОЛЬКІ ПРОЗА

Ахроменка

Балахонаў

Бычкоўскі

Глобус

Дзічэнка

Казарцаў

Календа

Калейчык

Садоўскі

Заміроўская

Уласенка

«Мінкульт» створаны дзякуючы краўдфандынгавай платформе «Улей» і ўласна людзям, якія ахвяравалі грошы

РУП «Акадэмкніга», Алена Броўка, Ірына Гасюк, Вольга Сінькевіч, Арцём Каламіец, Яўгеній Дыко, Ана Марынкевіч, Дзьмітры Аленаў, Юлія Андрыенка, Люба Аладз'ева, Екацярына Чырцік, Натальля Бойка, Вадзім Алькенаў, Den R, Саша Белькава, Уладзіслаў Мазанік, Андрэй Саротнік, Іван Арленка, Mrs. Dharma Komau, Ільля, Уладзіслаў Мамотаў, Настасься Карнацкая, Уладзіслаў Башарымаў, Каміла Уцюкава, Антон Барысенка, Яўгенія Барысевіч, Глеб Шульнін, Міхаіл Міласерны, Іра Кл, Ксенія Краўчанка, Алесь Сухадолаў, Павал Хаміцкі, Сьвятлана Глухава, Максім Шапялевіч, Хрысьціна Рыбенкова, Jona Torgu, Аліна Калтачэнка, Віктар Сяргейчык, Лера Мурашко, Аляксандр Урбановіч, Сьвятлана, Андрэй Шырвінт, Уладзімір Садоўскі, Алена Шпак, Дзьмімтрый Сергіенка, Яўген Казарцаў, Аляксандра Пятровіч, Аліса Пятрова, Вольга Шахновіч, Аляксандр Шарстук, Аляксандр Дзічэнка, Андрэй Дзічэнка, Дзьмітры Андрончык, Сяргей Адзінец, Ігар Кудраўцаў, Сяргей Гульцоў, Mike Mak, Сяргей Енін, Каця Міхеева, Сяргей Балахонаў, Віка Біран, н, Уладзіслаў Гурыновіч, Дзьмітры Гаўрычэнка, Ксенія, Дар, Кацярына, Міхаіл Рубін, Вольга Почкаева, Ганна Дзягель, Марыя Гуліна, Яўген Шапчыц, Юлія Касьцюкевіч, Віталь Куціла, Павал Шукевіч, Анастасія Кавалёва, Сафія Емяльянава, Тацьцяна Марчук, Аляксандр Дзьмітранок, Віктар Шніп, Воля Міклашэвіч, Фелікс Аксёнцаў, Кацісаныч, Анастасія Андрэйчанка, Іван Арленка, Дзьмітры Латыш, Алеся Лацінская, Тацьцяна Валодзіна, Аляксандр Карась, Антон Макарэвіч, Лена Дзянісава, Ганна Арэшнікава, Аляксандр Забаўскі, Яўгенія Сернікава, Антон К, Рыгор Дорын, Дзьмітры Пранчук, Северына В.А., Ана Мазаляка, Ірына Герасімовіч, Натальля Косар, Сяргей Лось, Аляксандр Бугаеў, Аляксей Аніська, Екацярына Курзінер.

Асобны дзякуй за падтрымку праваабарончай арганізацыі Human Constanta.

А таксама: Ірыне Герасімовіч і Сяргею Еніну.

# ЗЬМЕСТ

**Уладзіслаў Ахроменка** 7
Нясвіжская крыза,
альбо Вернуты рай
*(Раман. Часткі 3–10.*
*Працяг, пачатак у «Мінкульце-2»)*

**Сяргей Балахонаў** 41
Матрунін перавоз

**Алесь Бычкоўскі** 51
Каменнае сэрца

**Адам Глобус** 61
Ц

**Андрей Диченко** 69
Партия войны

**Евгений Казарцев** 97
Не отпускай

**Сяргей Календа** 103
Ціхая вуліца

**Дмитрий Колейчик** 107
Третья ракета

**Уладзімір Садоўскі** 110
Я не знаю,
што будзе заўтра

**Татьяна Замировская** 121
• Поправки
• Сад для игры в волка

**Антось Уласенка** 140
• Адбіць у чужынцаў
кляйнотаў сваіх
*Постсінгулярная казка*
• Найлепшая маскіроўка

# Проста нейкая фантастыка

Зьмест і тэматыка трэцяга «Мінкульту» – фантастыка!

Тая, што сталася нашай паўсядзённасьцю, і тая, якая цяпер ствараецца на падмурках сучаснага грамадзтва.

Што навокал мяняецца? Як будзе далей? Што мы можам адсачыць і прапанаваць зьмяніць? Папярэдзіць у сваіх апавяданьнях альбо параўнаць з тым, што ўжо адбылося, і мы ўжо дажываем у сваім пакаленьні «1984», і далей будзе толькі горш – невядома і адначасова вядома, бо літаратура, асабліва фантастыка, містыка, відзежы і прароцтвы, заўжды краналася таго, што павінна адбыцца, што мусіць існаваць тут і цяпер у космасе і павінна быць прамоўленым.

Фантастычны «Мінкульт» кранецца маладой фантастычнай літаратуры, параўнае і пакажа, як, што і навошта нам тут і цяпер пражыць, за чым варта сачыць і чаго – пазьбягаць.

2020-ы – складаны год, які шмат чаго зьменіць у нашым жыцьці, і як калісьці Бакача стварыў «Дэкамерон», каб адцягнуць увагу ад пандэміі, так і з трэцім «Мінкультам»: тэксты пачалі зьбірацца акурат да сусьветнага карантыну, і цяпер надышоў час падтрымліваць літаратуру, як і агулам мастацтва, бо бяз гэтага нам у спадчыну можа застацца толькі грэчка, туалетная папера і мы, самі па сабе, злосныя і трывожныя. Варта памятаць: пасьля сярэднявечнай пандэміі прыйшло Адраджэньне. Новы нумар часопіса будзе фантастычны, месцамі страшны і містычны, але знойдзе, як адгукнуцца ў вашым сэрцы, галоўнае толькі быць адкрытым да Сусьвету і несьці дабро, якое нашмат мацнейшае за ўсе астатнія пачуцьці, але і самае складанае.

Зьмест нумару цікавы і непаўторны.

Мы працягваем друкаваць раман Уладзіслава Ахроменкі.

Апавяданьне Сяргея Балахонава пра дзіўныя здарэнні ў старым Гомелі і яго ваколіцах, натхнёнае народнай песьняй зь берагоў Сожа: «На ціхенькім Дунаю, Дунаю // перавоз дзеўка дзяржала, дзяржала».

Алесь Бычкоўскі напісаў пра тое, як на Зямлю ўпаў вялікі метэарыт, і не звычайны, а з палімернай арганікай, якая зараз жа прынялася перайначваць на свой лад усё прыроднае асяроддзе і людзей.

Адам Глобус распавёў містычныя гісторыі пра ўнівэрсам «Цэнтральны».

«Партыя Вайны» Андрэя Дзічэнкі – гэта дзіўная сумесь постпанку і альтэрнатыўнай рэальнасьці.

Героя Яўгена Казарцава, здаецца, паланіў Лошыцкі парк.

Я, Сяргей Календа, паспрабаваўшы па-свойму асэнсаваць чацьвёрты Біблейскі Запавет, напісаў для часопісу апавяданьне пра дзіўныя стасункі ў адной сям'і, дзе ўсё падаецца звычайным, але насамрэч...

Галоўны герой прозы Дзьмітрыя Калейчыка абсалютна ўпэўнены, што зямля плоская, і спрабуе гэта даказаць.

Гераіня Уладзіміра Садоўскага трапляе ў час, калі ў Курапатах рыхтаваліся да расстрэлу інтэлігенцыі…

Таццяна Заміроўская напісала два апавяданьні, адно зь якіх пра тое, як магчыма згубіцца, сеўшы ў самалет, а другое – пра гульню ў воўка.

І напрыканцы ў часопісе надрукаваныя два апавяданьні ад Антося Ўласенкі: сумесь фэнтэзі і фантастыкі, што па-майстэрску інтэрпрэтуе «Хобіта», і падарожжы па плянэтах у бязьмежным космасе.

У сучасным культурным асяродзьдзі не хапае разнастайнай мастацкай прозы, дыскусіяў вакол літаратурнага працэсу, і таму нам усім неабходны новы, малады і амбітны праект – такі як «Мінкульт».

Для кожнага такое простае і звыклае слова «мінкульт» загучала гэтак па-рознаму.

Хтосьці ўбачыў тут тролінг бюракратыі, хтосьці сьціпла вырашыў, што гэты часопіс будзе банальна зьнішчаць высокую культуру, хтосьці абураўся, што выданьне займаецца прапагандай, але не сказаў, прапагандай чаго, а некаму падалося гэта ўсё нават абмежаваньнем беларускай прозы сталіцай: «Мінская культура».

Няхай будзе як мага больш цытаваньняў, прачытаньняў, дыскусіяў і проста добрай прозы, якую варта было б разьмясьціць на старонках новага часопісу.

А мы нагадаем: часопіс супраць цэнзуры, супраць любых камітэтаў, якія спрабуюць кантраляваць мастацтва.

*© Сяргей Календа*
*Мінкульт 2020*
*Андрэй Сушко*
*Human Constanta*

Ад рэдактаркі

Рукапісы ў «МК» не гараць і не рэцэнзуюцца. Яны рэдагуюцца пры патрэбе, аднак мая рэдактура не разгульваецца шырэй за літаратурную: усе тэксты выходзяць да чытачоў, захоўваючы аблічча аўтара.

Сяргей Календа папрасіў мяне падзяліцца ўражаньнямі ад кожнага твору. У прадмове да нумару маецца па сказе-анатацыі да зьмесьціва – раз; я не шукаю лёгкіх шляхоў – два; таму вось, трыма словамі крэсьлю посмак-прынаду на тэксты фантастычнага, трэцяга «Мінкульта».

Уладзіслаў Ахроменка –
Чытаем, чытаем, чытаем.

Сяргей Балахонаў –
Гомель маёй душы.

Алесь Бычкоўскі –
Што такое чалавек?

Адам Глобус –
Глобус заўсёды Глобус.

Андрей Диченко –
Эсхатология ломкого омута.

Евгений Казарцев –
Какое сегодня число?

Сяргей Календа –
Направа, клей, кампот.

Дмитрий Колейчик –
Верь и делай.

Уладзімір Садоўскі –
Што будзе сёння?

Татьяна Замировская –
Страшно, правда, страшно.

Антось Уласенка –
Дзякуй, дзядзька Толкін!

*Ліда Наліўка*

# УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА

## НЯСВІЖСКАЯ КРЫЗА, АЛЬБО ВЕРНУТЫ РАЙ

Працяг. Пачатак у «Мінкульце-2».

**Глава 3**

Над Нясвіжам распаўзалася бясконцая шызая хмара. Вадзяная завісь шчыльна запаўняла прастору між зямлёю і небам, фарбавала ў шэрань апусцелыя вуліцы. Сыры вецер лапатаў кумачовай расцяжкай «Дагонім і перагонім Амерыку!», нацягнутай між дамамі на Ленінскай.

Маладжавы дзядзька з абліччам местачковага настаўніка пільна аглядаў фасад двухпавярховіка, размытага дажджом. У вуглавым верхнім акне цьмяна зеланеў фікус, якога яшчэ паўгадзіны таму не было.

– Сцёпа на месцы. Бач, сігналізуе, што ўжо можна ў госці, – абвесціў ён вынікі агляду спадарожніку, што стаяў за спінай.

Спадарожнік прыўзняўся на дыбачкі, прыгладзіў вузкай інфантыльнай далонькай мокрыя кудлы і нервова пачухаў кволую, бы ў маладога папа, бародку.

– Мінулым разам Сцяпан самавар у акно выстаўляў, – прыгадаў ён прыдушаным фальцэтам. – А цяпер чамусь вечназялёную расліну. Нешта тут, Іосіф, не тое!

– Усё слушна, хлопча. Умоўныя знакі трэба мяняць. Закон канспірацыі. І ўвогуле, Фіма, перастань называць мяне Іосіфам, як людарэза Сталіна! Звяртайся да мяне па-наску, па-беларуску: дзядзька Язэп.

– То і ты не называй мяне больш Фімам! – паказальна абурыўся суразмоўца. – У мяне ёсць прыгожае рускае імя Епіфаній. А Фімамі, Хаімамі і Абрашамі хай розныя пархатыя называюцца!

Дождж злітна шчоўкаў у бліскучых лістах. Глянцавы асфальт дыміўся вадзяным пылам. Язэп з Епіфаніем шпарка праскокалі праз калюжыны да пад'езда, затупацелі па сходах, страсанулі кроплі перад камунальнымі дзвярыма.

Суха пракруціўся ключ, бразнуў ланцужок. У дзвярным праёме намалявалася ссушаная карга з круглымі вочкамі істэрычкі і з ордэнам Леніна на зашмальцаваным халаце. Яна аблапала незнаёмцаў бессаромным ліпучым поглядам і канстатавала нядобра:

– А вось і сябручкі нашага дармаеда Сцёпкі… Што – зноў свае антысавецкія бугі-вугі слухаць будзеце?..

Епіфаній збянтэжана адступіў і завібраваў, бы стрэлка компаса ў анамальнай зоне. Язэп нетаропка расшпіліў плашч, дэманструючы медаль «Партызану Айчынай вайны» на штрыфелі пінжака.

– У нас мерапрыемства, – добразычліва-афіцыйным голасам патлумачыў ён.

– Якое такое мерапрыемства? – не зразумела старая.

– Якое, якое… Партызанскае!

За спінаю каргі прашаркалі тапкі. Хлопец з інтэлігентным тварам і высокай набрыялінінай чупрынай далікатна адсунуў бабку, прапусціў гасцей у цёмны калідор, завешаны анучнымі вузламі, драбінамі і тазамі.

– Гэта мае фрэнды. А вы да сябе лепш ідзіце, пакуль я добры.

– Ведаю я тваіх хрэндоў! – вышчарылася камунальная суседка, назіраючы, як з даджжавікоў гасцей нацякаюць густыя калюжыны. – Ідэалагічныя дыверсанты, якія пад савецкіх людзей маскуюцца… як і ты сам!.. Ат, заяўлю на вас у адно месца – будзеце ведаць!..

Гаспадар вырачыў вочы і з дэманстратыўным тупатам насунуўся на старэчу – тая зляканым пацучком шмыгнула ў свой пакой. Бразнулі металёвыя дзверы, з кулямётнай хуткасцю зашчоўкалі засаўкі.

– Ну забіце, забіце мяне, вычварэнцы!.. Чуеце?.. Забіце!.. – беспакарана завішчэла яна.

– А НУ ЦІХА, СТАРАЯ КУРВА, А ТО ЗАРАЗ САНІТАРАЎ ВЫКЛІЧУ, – ЛЯНОТНА АДРЭАГАВАЎ СЦЯПАН І АДЧЫНІЎ ДЗВЕРЫ СВАЙГО ПАКОЯ. – ПЛІЗ, МАЙ ФРЭНД!..

– Я табе, смаркач малалетні, не курва, а ветэран Вялікай Айчыннай і ўдарнік сацыялістычнай працы! – інтанаваны істэрыкай фальцэт праціснаў нават з-за жалезных дзвярэй.

Цёмны пакойчык лашчыў вока свойскай утульнасцю. Каля чэхаславацкай канапы цёплым золатам праменіўся модны таршэр. Са здымкаў на сценах пазіралі Элвіс Прэслі, Мэрылін Манро і Эрнэст Хэмінгуэй. Фікуса на падваконні ўжо не было – у акне шарэла нацягнутая коўдра.

– А святламаскіроўка нашто? – Епіфаній з сарамлівай пажадлівасцю ўтаропіўся ў эратычную паставу галівудскай зоркі. – Гэта, напэўна, нейкая прадажная дзеўка імперыялізму?

– Вокны пры нашых сустрэчах лепш завешваць. Тут жа паўсюль КГБ, самі павінны разумець! – сур'ёзна патлумачыў гаспадар. – А на здымку – так, самая клёвая гёрл ін зэ Юнайтэд Стэйтс. Ат, я б ёй засадзіў па самыя памідоры!..

– Ды ў яе, Сцяпан, тыпова семіцкі твар, – Епіфаній высілкам волі адвёў вочы ад вуснаў галівудскай акторкі. – Гэта яна наўмысна ў бляўку пафарбавалася і прозвішча змяніла, каб нас, славянаў, у зман звесці!..

– А я вось чуў, што яе сапраўднае прозвішча – Марыя Манарэвіч і што бацька гэтай дзявулі з нашых ваколіц, які ў Амерыку да рэвалюцыі эміграваў, – паведаміў Язэп з кансператыўна-патрыятычнымі інтанацыямі. – Мне неяк адзін дзядок з калгасу «Чырвоны шлях» расказваў. І валасы ў Мэрылін Манро льняныя, і вочы блакітныя, як у нашых беларускіх дзяўчатак, найпрыгажэйшых у свеце... Сур'ёзна, Сцёпа: наша яна, тутэйшая!

– Ага – як я кітаец. Вы ўжо дасталі, чувакі: аднаму яўрэі паўсюдна мрояцца, другому – беларусы… І ўвогуле – сто разоў прасіў: не называйце мяне Сцяпанам. Для сваіх я – Сціў, гэтае імя мне пасуе куды больш... Ну што, бізнэс крыху пазней, а пакуль павячэраем?..

Язэп цыркавым рухам расшпіліў пінжак з дзяржаўнай узнагародай. З-за пояса выторкваліся тры вялізныя вінныя пляшкі, бы ў матроса, які збіраецца кінуцца пад фашысцкі танк.

Епіфаній сарамліва выцягнуў з кішэні загорнутае ў газету колца каўбасы. Сціў выставіў на стол шырачэзную чыгуновую патэльню, ссунуў накрыўку, і ў столь шугануў чароўны водар дранікаў з зашкваранымі салам і цыбуляй.

– Камон эўрыбадзі! – гаспадар адкаркаваў пляшку і гасцінна схіліў рыльца над гранчакамі. – Ну што, дзіар фрэндс… За перамогу амерыканскага імперыялізму!..

Тост змусіў Епіфанія ўцягнуць галаў у плечы і злякана азірнуцца. Язэп спакойна ўзважыў шклянку ў руцэ, з асалодай выпіў і пацэліў відэльцам у найпрыгажэйшы дранік. Сціў скептычна пасмакаваў віно, адставіў шклянку, выдыхнуў са скрухай:

– І чаму я ў гэтай краіне нарадзіўся? У Амерыцы апошні негрытос ці беспрацоўны такі дрынк нават і нюхаць не стаў бы!

– А мне калісь дзядуля-дваранін расказваў, што ў царскай Расеі за рупь-цэлковы можна было цэлы месяц сыта-п’яна жыць, – паведаміў Епіфаній і прысмактаўся да гранчака, бы немаўля да цыцкі Мадонны.

– А я вось у адной кніжцы чытаў, што раней нашыя нясвіжскія хлопцы-літвіны медавуху пілі, а потым тваіх маскальскіх дваранаў шаблямі шматавалі, бы тых свінняў! – Язэп вачыма паказаў гаспадару, каб той наліваў па новай.

Сціў набулькаў па гранчаках, уключыў радыёлу. Зялёнае вока індыкатара па-канспіратарску падміргнула, чароўным ліхтаром успыхнула шкляная панэль, і на ёй знакамі іншасвету праявіліся словы «Стакгольм», «Франфуркт», «Нью-Ёрк»… Гаспадар засяроджана круціў колца наладкі. Чырвоны слупок пад шклом сунуўся між гарадамі з хуткасцю слімачка. Радыёшоргаты і эфірныя перашкоды праслойваліся мілітарнымі маршамі, касмічным гольчатымі пасвістамі і абрыўкамі рэплік на незразумелых мовах. Слупок паволі прапоўз надпіс «Стамбул» і спыніўся за які міліметр ад «Лондана». Радыёла зарохкала сытым парсючком, і па пакойчыку паплыла саксафонная мелодыя Чарлі Паркера – салодкая і шчыльная, бы пасціла.

– Йес, «Голас Амерыкі»! – Сціў пераможна ўскінуў кулак. – Хай жыве рэакцыйная заходняя культура!..

У КАЛІДОРЫ ПРАНІЗЛІВА ВІСКНУЛА МАСНІЧЫНА. МАЛАДЗЁН ПРЫКЛАЎ ПАЛЕЦ ДА ВУСНАЎ І НА ДЫБАЧКАХ ПАСУНУЎСЯ ДА ДЗВЯРЭЙ. ПРЫЦІСНУЎСЯ ВУХАМ ДА ДРАЎЛЯНАЙ ПАВЕРХНІ, ПАСМІХНУЎСЯ ПРАСВЕТЛЕНА І ПОМСЛІВА.

– Трымай!.. – Сціў з усяе мацы штурхануў дзверы вонкі.

З калідора кантужана заенчыла, загаласіла і залаялася, але гукі гэтыя адразу перакрыліся гудкімі грымотамі ночваў, якія зляцелі са сцяны. Гаспадар вызірнуў з пакоя і тутака ж вярнуўся са стэтаскопам, якім камунальная шпегунка падслухоўвала размовы.

– …заўтра ж, заўтра ж заяўлю на цябе, куды трэба! – заходзілася ветэранша з-пад бляшаных ночваў. – На Калыму пойдзеш!.. Без права ліставання!..

– Заявіце… Калі вам у вар’ятні паперу і асадку дадуць, – спакойна парыраваў Сціў. – Нас тут трое: два камсамольцы і ветэран партызанскага руху, настаўнік моладзі. І ўсе падпішамся, што вы псіхапатка. Ну што, май літл бэйба… падабаюцца перспектывы?

Старая папярхнулася, усхліпнула і загаласіла з інтанацыяй жабрака ў прыгараднай электрычцы:

– Медычны інвентар хоць аддай, падла антысавецкая!.. Я без яго ціск не змагу памераць!..

Гаспадар прыадчыніў дзверы, гідліва выкінуў трафей у калідор.

– Каб вас на ім удавілі!..

…Залаты саксафон салодка спяваў пра капіталістычнае замежжа – далёкае і ірэальнае, бы планета Альфа Цэнтаўра. Вадасцёкавая труба за акном ракатала нябеснай вільгаццю. Гаспадар выцягнуў з-пад канапы куфэрак, правярнуў ключ, выклаў пакет з англамоўным надпісам.

– Ну што, фрэнды, цяпер – бізнэс. У Мінску заўчора быў. Новыя фільмы для падвышэння культурнага ўзроўню працоўных Нясвіжскага раёна атрымаў. З пасланцамі вольнага свету пабачыўся. Вось табе, Епіфаній, «Жыція святых», прынтэд ін Мюнхен. А вось часопіс з голымі бабамі, мэйд ін Амерыка. Усё, як ты і замаўляў, – Сціў урачыста выклаў перад госцем папяровую цагліну з бляклымі старaславянскімі пісьмёнамі на вокладцы і прыкрыў яе глянцавым часопісам з напаўаголенымі прыгажунямі.

Шчымлівы блюз Чарлі Паркера змяніўся завадным «You can't catch me» Чака Бэры. Сціў разняволена пасміхнуўся, пляснуў у далоні і заторгаўся пад рок-н-рольны рытм.

– Цяпер ты, Язэп. Твой старажытны кінжал я прадаў супервыгадна. Сорак даляраў, з якіх мае дзесяць – камісійныя, – гаспадар працягнуў госцю тры купюры з партрэтам прэзідэнта Гамільтана. – Імперыялісты пытаюцца, ці ёсць яшчэ што падобнае?

– Пакуль няма, – Язэп з цікаўнасцю разглядаў экзатычныя купюры, якія адным сваім выглядам сімвалізавалі капіталістычную эксплуатацыю прыгнечанага пралетарыяту. – Але па хуткім часе штосьці абавязкова з'явіцца. Хлопцы каля замка ўвесь час нешта выкопваюць – і да мяне, у школьны музей Баявой славы…

ШЧЫМЛІВЫ БЛЮЗ ЧАРЛІ ПАРКЕРА ЗМЯНІЎСЯ ЗАВАДНЫМ «YOU CAN'T CATCH ME» ЧАКА БЭРЫ. СЦІЎ РАЗНЯВОЛЕНА ПАСМІХНУЎСЯ, ПЛЯСНУЎ У ДАЛОНІ І ЗАТОРГАЎСЯ ПАД РОК-Н-РОЛЬНЫ РЫТМ.

Епіфаній пажадліва таргануў папоўскай бародкай, крыху павагаўся і пацягнуўся да часопіса.

– Гэта, вядома ж, справа не мая, а кліента, – свецкім тонам заўважыў Сціў. – Але спалучэнне, пагадзіся, даволі дзіўнае: праваслаўныя святыя і агаленыя барухі.

– Сам вялікі падзвіжнік Іаан Кранштацкі вучыў, што чалавека трэба любіць і ў граху, – Епіфаній са здранцвелым ад напругі тварам шаргацеў старонкамі. – А таму спярша трэба дазнацца, што ёсць грахом…

– Ледзь не забыўся: з цябе яшчэ дзесяць рублёў. Натуральна – новымі грашыма, – дадаў фарцоўшчык.

– За што? Я ж з табою мінулым разам наперад разлічыўся!

– За рызыку, май дзіар фрэнд. Гэта, як ты не ў курсе, – адразу два артыкулы крымінальнага кодэкса. Калі знойдуць – са мною пракурор наперад разлічыцца!.. Гадкоў гэтак мінімум на восем …

– Амерыканскія грошы схавай куды падалей, гэта гатовы артыкул па валютных махінацыях, – папярэдзіў Сціў. – Між іншым, таксама зразумець не магу: а нашто табе ў Нясвіжы тыя даля…

Апошнія словы гаспадара патанулі ў жахлівым металёвым грукаце – нібы на дах зваліўся стратэгічны бамбавоз.

Чака Бэры ў радыёле зрэзала, як не было. Сціў злякана скамянеў у мудрагелістым рок-н-рольным па. Язэп хутка-хутка сунуў даляры пад абрус і паклаў рукі на стол, бы на дошчыце. Епіфаній зблядне́ў, абхапіў голаў ружовымі далонькамі і палез пад стол.

Згары хаатычна бразгацела, рыпела і валтузілася, аднак неўзабаве

пачварныя вібрацыі аформіліся ва ўпэўненыя мерныя крокі. Важка спружыніў бляшаны дах, гатовы праваліцца ў кожны момант. На тварах прысутных з'явіўся выраз, які бывае ў нававбранцаў пры масаваным артабстрэле. Раптам злавесныя гукі сцішыліся, але, калі Сціў і ягоныя госці ўсё ж наважыліся набраць ратамі паветра, з-за акна ржава і пагрозліва заскрыгатала, танютка ценькнула шыба, і пранізлівы жаночы лямант з-за сцяны пугаю сцегануў па вушах.

Ці не хвіліну з пакою ветэраншы нібы раўла сірэна супрацьпаветранай абароны, і на гэты немы гук, бы на шампур, нанізваліся рыканне, хрумсценне, скавытанне і мяўканне. Гарматным ядром гахнулі металёвыя дзверы, па калідоры панічна прачвякалі старэчыя падэшвы, гудка адшчоўкнуў замок…

І ўсё сцішылася.

Першым прыйшоў да цямы Епіфаній. Ён вылез з-пад стала, ніякавата агледзеў цёмную пляму ў прамежнасці ўласных нагавіцаў і сутаргава прапхнуў праз спаралізаваную гартань:

– Гэта быў КГБ!..

* * *

Начальнік Нясвіжскага райаддзела КГБ Вікенцій Дамінікавіч Пяткевіч дапытваў пацярпелую мо з паўгадзіны. Пацыентку даставілі ў райбальніцу амаль аголенай – калі не лічыць ашмётка кумачовай расцяжкі з надпісам «…гонім Амерыку!», якой яна была абгорнутая. Са слоў ветэраншы, яна падабрала тканіну на вуліцы Ленінскай, калі ўцякала ад амерыканскага гвалтаўніка-дыверсанта, які амаральна раcпрануў небараку ў камунальным пакоі.

– Дык ён вас згвалціў? Ці хацця б спрабаваў? – спагадліва запытаў таварыш маёр мо ў пяты раз. – Факт злачынства меў месца? Вы толькі не хвалюйцеся – гэта застанецца выключна між намі. Слова чэкіста і камуніста!..

– …я ж вам кажу: разбіў шыбу – і да мяне!.. – шкляным ад слязлівасці голасам енчыла ветэранша. – Без букета, без пацалункаў, без пяшчотаў… хіба не хабёл?!.. Нават слова добрага не прамовіў, усё гырчэў і гырчэў, бы той сабака. А калі ордэн Леніна садраў разам з халатам – я не вытрымала і ўцякла!

– Пра Леніна мы ўжо чулі, – з падкрэсленай павагай нагадаў камітэтчык. – Давайце яшчэ раз: як той амерыканскі дыверсант выглядаў? Толькі з усімі падрабязнасцямі!..

– Чорны, бы той Поль Робсан. І такі ж палкі. Бачыце? – старэча з сарамлівым гонарам прадэманстравала доўгую гематому ўпоперак шыі. – Стэтаскопам хацеў мяне задушыць… жыўчык гэтакі! Маім уласным стэтаскопам, якім я штовечар ціск вымяраю! Вы хоць ведаеце, як у мяне ўвечары пульс скокае?

– Ведаю, разумею і вельмі вам спачуваю, – з анёльскай вытрымкай засведчыў Вікенцій Дамінікавіч. – Новы стэтаскоп магу асабіста падарыць вам хоць зараз. То давайце яшчэ раз прыгадаем прыкметы злачынца: рост, прыблізная вага, тып твару, форма носа, разрэз вачэй, сацыяльнае паходжанне…

Колькі ні спрабаваў Пяткевіч высветліць дадзеныя нападніка для будучай «Анкеты арыштаванага», пацярпелая напалягала выключна на нястачы ў яго галантнасці, а таксама – на антысавецкім зборышчы, якое адбывалася ў суседнім пакоі акурат падчас здарэння.

Зборышча дысідэнтаў цікавіла Вікенція Дамінікавіча менш за ўсё; ён ужо азнаёміўся з агентурнымі паведамленнямі і не знайшоў там нічога вартага ўвагі. Блытаніна з імёнамі ў справаздачах даносчыкаў вынікала з найгалоўнейшай нацыянальнай рысы беларусаў – падсвядомага жадання

існаваць у чужынскім аблічча. Таварыш маёр выдатна разумеў гэтую рысу; ён і сам быў тутэйшым…

Малады аграном Яфім Шыла, агентурная мянушка «Вафлёныш», інфармаваў, што падчас выканання аператыўнага задання стаў сведкам злосных антысавецкіх выпадаў грамадзян Сцяпана Грыба і Іосіфа Мамонькі. Пры гэтым грамадзянін Іосіф Мамонька вельмі спагадліва выказваўся пра беларускіх нацыяналістычных недабіткаў на службе польска-літоўскіх феадалаў, Пілсудскага, Гітлера і ЦРУ, а таксама заклікаў забіваць шаблямі прадстаўнікоў вялікага расійскага народа, за што і атрымаў ад грамадзяніна Сцяпана Грыба тысячу даляраў.

Кінамеханік Сцяпан Грыб, агентурная мянушка «Гліст», даносіў, што падчас выканання аператыўнага задання наўмысна справакаваў грамадзяніна Яфіма Шылу набыць антысавецкую літаратуру рэлігійнага-парнаграфічнага характару, прытым грамадзянін Яфім Шыла такую літаратуру набыў. Таксама паведамлялася, што грамадзянін Іосіф Мамонька раскрадае фонды самадзейнага музея пры школе, прадае іх за валюту на Захад і дапускае правакацыйныя выказванні, якія зневажаюць ленінскую нацыянальную палітыку.

Найбольш грунтоўнае паведамленне, як і зазвычай, паступіла ад школьнага настаўніка Іосіфа Мамонькі, агентурная мянушка «Правакатар». У ім фігуравалі вялікадзяржаўны шавінізм і рэакцыйны клерыкалізм грамадзяніна Яфіма Шылы, прапаганда заходняга ладу жыцця грамадзянінам Сцяпанам Грыбам, а таксама сувязі апошняга з прадстаўнікамі рэакцыйных колаў Злучаных Штатаў, імаверна – рэзідэнтамі ЦРУ.

Пры гэтым сведчанні пра напад на камунальную суседку грамадзяніна Грыба ва ўсіх траіх былі практычна аднолькавымі: крокі па даху, разбітая шыба і – шалёнае скавытанне, ад якога хацелася імгненна памерці.

Падначаленыя Пяткевіча паспрабавалі было адшукаць якія сляды жахлівага монстра, але залева змыла ўсё магчымае. Зрэшты, можна было абысціся і без слядоў. Жудасная пачвара, безумоўна, жыла недзе ў самім Нясвіжы; ніякіх трывожных сігналаў з суседніх вёсак і хутароў не паступала, не кажучы ўжо пра Гарадзею, Клецк, Капыль і Баранавічы. Заставалася супаставіць прыблізную хуткасць, з якой тая істота імаверна перасоўвалася, з найбліжэйшым месцам, прыдатным для схованкі.

Што і было зроблена таварышам маёрам пры дапамозе мапы Нясвіжскага раёна, цыркуля, хранометра і ніткі.

Найбольш прыдатным месцам, як то не дзіўна, быў санаторый, які месціўся ў былым замку былых князёў Радзівілаў. Дакладней, нават не сам санаторый, а адзін таямнічы замкавы закутак, дзе начальнік Нясвіжскага райаддзела КГБ ні разу не быў і трапляць куды не меў аніякага жадання.

**Глава 4**

Прамень кінапраектара прасек у антрацытным чарноцці залы жоўты празрысты конус. У будцы механіка застракатала, на экране засноўдаліся размытыя цені. Джон Кенэдзі паклаў нагу на нагу, намацаў у скрыначцы цыгару, прыпаліў ад паслужліва працягнутай запальнічкі Алена Далеса.

Цені на экране гусцелі, акрэсліваліся ў чалавечыя контуры і неўзабаве аформіліся ў даўжэзную вайсковую калону. Па дарозе крочылі салдаты ў шэрых шынялях, з шэрымі тварамі пад шэрымі пілоткамі. Цывільны натоўп паабапал дарогі бязрадасна вітаў чарговых чужынцаў. Па-над галовамі месцічаў хаатычна вытыркаліся плакаты з партрэтамі

суворых дзядзькаў у вайсковых фрэнчах і з надпісамі ератычнай кірыліцай.

Прэзідэнт Злучаных Штатаў некамфортна закруціўся ў фатэлі. Барбарская вайсковая форма муляла вочы, вушы рашпілем шкрабала шамаценне кінастужкі, якое падсвядома ўспрымалася як шорганне салдацкіх падэшваў. Джэкі пытальна глянуў на дырэктара ЦРУ.

– Савецкая хроніка, верасень 1939 года, – патлумачыў Ален Далес. – Акупацыя Саветамі ўсходняй Польшчы, канкрэтна – горада Нясвіжа. Глядзіце, зараз будзе самае цікавае…

Аператар на колькі секунд выхапіў буйны план: гіганцкі плакат са Сталіным і невысокі мужчына пад ім. Цень правадырскага партрэта гіганцкім чорным брылём накрывала пукаты лоб. Валявое падбароддзе з гранёнай, бы ад цвіка, ямінкай, акуратна падстрыжаныя валасы на каменным чэрапе… Хітраваты сялянскі твар відавочна маскаваў небяспечную і разумную жорсткасць. Мужчына прывітаў чырвонаармейцаў і стрымана пасміхнуўся.

Савецкая хроніка змянілася нацысцкай: напаўразбураны бамбёжкамі горад, высокая каробчатая пабудова з чорнымі пісягамі пажараў і чорны п’едэстал без помніка. Перад п’едэсталам маршыраваў доўгі шыхт маладзёнаў з наіўна-патрыятычнымі тварамі. Па-над шыхтам лунаў незнаёмы сцяг – бялюткі, з падоўжнай цёмнай паласою. Паабапал плошчы пагрозліва блішчэлі каскі Вермахта. За імі, на тле свастык і партрэтаў Гітлера, пасміхаліся нацысцкія афіцэры, прытым сярод нардычных фізіяномій мільгаў хітраваты сялянскі твар з харызматычным падбароддзем – той самы.

ПА-НАД ШЫХТАМ ЛУНАЎ НЕЗНАЁМЫ СЦЯГ – БЯЛЮТКІ, З ПАДОЎЖНАЙ ЦЁМНАЙ ПАЛАСОЮ. ПААБАПАЛ ПЛОШЧЫ ПАГРОЗЛІВА БЛІШЧЭЛІ КАСКІ ВЕРМАХТА.

– Нямецкая хроніка, люты 1944 года, – пракаментаваў Ален Далес. – Акупацыя немцамі савецкай Беларусі, канкрэтна – горада Мінска.

Тытунёвы дым звіваўся ў сляпучым конусе кінапраектара. Залатыя акуляры спецслужбоўцы напружана блішчэлі ў паўцемры. Прэзідэнт нервова ўпячатаў цыгару ў попельніцу.

– Нашто мне ўсё гэта?

– Спадзяюся, вы пазналі персанажа на абедзвюх стужках? – голас Алена Далеса прагучаў злавесна і роўна, бы палёт кажана. – Заўважце, містар Кенэдзі: амаль усе людзі, якіх вы толькі што бачылі, даўно ўжо згнілі дзе-небудзь пад Сталінградам, у Нармандыі ці ў лагерах для вайскапалонных. А гэты хітры і трывушчы чалавек перажыў іх усіх. Нашы дэтэктывы пераглянулі дзясяткі кіламетраў кінастужак, пакуль яго адшукалі. Па ўсіх прыкметах, гэта і ёсць ваш найбольш верагодны забойца… Той самы, пра якога прадказвала чараўніца з БССР на даху хмарачоса. Памятаеце яе словы? Смерць прыйдзе з Беларусі, з Мінска, ад чалавека, які скончыў адмысловую школу, дзе навучаюць забіваць…

– Хто ён такі? – млява зацікавіўся прэзідэнт.

– Сапраўдны вервольф, здольны існаваць толькі ў чужым абліччы, – жорстка засведчыў дырэктар ЦРУ. – Служыў у савецкай паліцыі. Служыў у нямецкай паліцыі. Скончыў нацысцкую дыверсійна-выведвальную школу, дэсантаваўся ў БССР. Там яго нібыта зліквідавалі, прытым – нават тройчы. Пасля доўгіх ліхтугаў перабраўся ў Нямеччыну, потым у ЗША, атрымаў грамадзянства. Некаторы час супрацоўнічаў з нашай контрвыведкай, але потым адышоў ад спраў. Дзевяць гадоў

як жыве ў Паўночнай Фларыдзе, на ўласнай ферме непадалёк Джэксанвіля. З беларускай дыяспарай кантактаў не падтрымлівае. Паводле дадзеных ФБР, займаецца сельскай гаспадаркай, але насамрэч ягоная ферма – толькі прыкрыццё для працоўнага лагера з нялюдскімі ўмовамі, кшталту Бухенвальда ці Калымы.

Стужка нарэшце скончылася. У зале запалілася святло. Прэзідэнт, стомлены сузіраннем чорна-белых сусветаў, скептычна касавурыўся на дырэктара ЦРУ, які голасам абвінаваўцы Нюрнбергскага трыбуналу пералічваў усе правіны героя кінахронікі – былыя, цяперашнія і будучыя.

Кенэдзі цярпліва выслухаў, пацёр пальцамі скроні.

– Дапусцім, усе фармальныя прыкметы супадаюць: БССР, Мінск, супраца з камуністамі і нацыстамі, сакрэтная дыверсійна-выведвальная школа, – амаль пагадзіўся ён. – Але нашто яму мяне забіваць?

– Пра матывы мы можам адно толькі здагадвацца. Але гэта не азначае, што іх няма.

– У мяне ёсць ахова, якой я цалкам давяраю. Гэты ваш фермер-дыверсант з Фларыды… ён што – Супермэн? Капітан Амерыка?

– Значна горш: нацыяналіст-прагматык, далёкі ад рамантычных слінаў, сопляў і лозунгаў. А таму здольны падпарадкаваць сваёй волі каго заўгодна. Паглядзіце самі, – у руках цээрушніка бліснуў глянцавы здымак. – Ферма-канцлагер у Фларыдзе, пра якую я гаварыў.

На пляцы перад сядзібай дысцыплінавана шнуравалася з тузін маладзёнаў і дзявуль, апранутых у ватоўкі гулагаўскага тыпу, з віламі, рыдлёўкамі і шуфлямі. На флагштоку нахабна і ўрачыста лунаў сцяг памерам з чвэрць футбольнага поля, такі ж самы, як і над шыхтом у Мінску: бялюткі, з падоўжнай цёмнай паласою. Маладзёны ў ватоўках натхнёна пазіралі на сцяг і прыкладалі да грудзей рукі – напэўна, спявалі нейкі гімн. Амерыканскі прэзідэнт нават пазнаў аднаго са зняволеных: гэта быў унучаты пляменнік Джона Ракфелера, надзвычай шалапутны юнак, які тры месяцы таму бясследна знік са свецкага жыцця Нью-Ёрка.

Далас задаволена перахапіў здзіўлены погляд Кенэдзі.

– Ад Ракфелераў ніякіх заяў пра знікненне юнака не было, хаця яны выдатна ведаюць, дзе ён цяпер. І Ракфелеры – далёка не адзіная сям'я, чые дзеткі задарма працуюць на гэтага вылюдка. Калі камуністычна-нацысцкі пярэварацень з Беларусі здолеў падпарадкаваць сваёй волі самых уплывовых людзей Злучаных Штатаў, то зробіць тое ж самае з вашымі ахоўнікамі ён зможа і пагатоў!

Аргумент прагучаў пераканаўча. Паветра ў кіназале набрыняла пагрозай, рыхтык нябёсы перад навальніцай. Прэзідэнт заклапочана падціснуў вусны.

– І што вы прапануеце?

– Аўтамабільная катастрофа. Падзенне ў шахту ліфта. Няспраўны электрапрыбор. Раптоўнае самагубства, у рэшце рэшт, – дырэктар ЦРУ, як заўсёды, быў рашучым, жорсткім і энергічным.

Кенэдзі выпрастаўся, адкашляўся і прамовіў з інтанацыямі старшыні Вярхоўнага суда:

– Містар Далес, мушу нагадаць вам, што Злучаныя Штаты Амерыкі – дэмакратычная краіна. І мы не дазволім ужываць падобныя метады да нашых грамадзян!

Спецслужбоўца глянуў на прэзідэнта, бы на дзіцёнка, які затрымаўся ў развіцці, але прамаўчаў. Прымружыўся на белы прамакутнік экрана, нібы маляваў на ім нейкі мудрагелісты план.

– Вельмі шкада… Тады ёсць яшчэ адзін варыянт, як ад яго пазбавіцца, – мовіў ён задуменна. – І гэты варыянт

цалкам легітымны. Толькі каштаваць ён будзе значна даражэй.

Маўчанне прэзідэнта было ацэненае Аленам Далесам як згода.

– Цяпер пераходзім да галоўнага: высадка нашых вайскоўцаў на Кубе. Аналітыкі Пентагона прапануюць неадкла…

– А як завуць гэтага хлопца? – нечакана перабіў Джэкі.

– У яго вельмі багата імёнаў і прозвішчаў, і нават мы не ведаем, якое з іх сапраўднае. Па нашай картатэцы ён праходзіць як Агент Z, і нам гэтага дастаткова.

* * *

Франтаваты «крайслер-дэсота» прашаргацеў праз ранішні лясок і спыніўся перад мураваным мастком. Кіроўца, не стары яшчэ дзядзька з вострым пацучыным профілем і дбайна зачасанай лысінкай, выклаў на стырно мапу, спраўдзіў месца, куды прыехаў, і, задаволіўшыся вынікам, выйшаў з машыны.

За мастком узвышалася фундаментальная брама з жалезнымі дзвярыма, якія нявольна асацыяваліся з ядзернымі сховішчамі і панамскімі шлюзамі. Па-над брамай бялела акуратная шыльда з апакаліпсічным надпісам: «Новая Зямля». Праваруч-леваруч брамы цягнуўся бясконцы бетонны плот не менш чым у пятнаццаць футаў вышынёю, з металёвымі дзідамі і спіралямі Бруна. Для канчатковага падабенства з класічным канцлагерам бракавала хіба што вышак з пражэктарамі і кулямётамі.

Візіцёр глянуў у бакавое люстэрка, прыгладзіў лысінку – белую і роўную, як дзірка ў шкарпэтцы. І, рэпетуючы ў галаве дэбют размовы з гаспадаром фермы-канцлагера, пакрочыў да брамы.

Пад мастком важка плёхнула. Госць націснуў кнопку званка, паправіў гальштук, змахнуў з пінжачнага штрыфеля драбінкі перхаці і расцягнуў вусны ў службова-прыязнай пасмешцы. Знізу плёхнула зноў, і на бултыханне наклалася доўгае ліпучае шаргаценне, нібы па граверы цягнулі мех з сырым мясам. Мужчына павярнуўся на гук і – скамянеў.

Проста на яго сунулася даўжэзнае бервяно. Масіўнае, у чорна-зялёнай пласцінiстай броні і з драпежным цмокавым хвастом, яно паўзло з бяздушным аўтаматызмам, бы штурмавы танк на пясочніцу.

Візіцёр злякана войкнуў і ўліп у жалезныя дзверы на манер барэльефа. Тым часам пачвара спынілася ў якім ярдзе і крыважэрна расчарэпіла вільготную пашчу з дужымі жоўтымі ікламі.

НА ТВАРЫ ГОСЦЯ З'ЯВІЎСЯ ВЫРАЗ, ЯКІ БЫВАЕ Ў ЛАБАРАТОРНЫХ ПАЦУЧКОЎ ПЕРАД ПРЭПАРАЦЫЯЙ НАЖЫВА. ЁН ЗНОЎКІ НАЦІСНУЎ КНОПКУ І, НЕ ДАЧАКАЎШЫСЯ З'ЯЎЛЕННЯ ГАСПАДАРА, ПАНІЧНА СКОЧЫЎ У РОЎ.

Вынырнуў, чмыхнуў бросняй і бязладна закалашмаціў рукамі па паверхні. Вырачаныя ў жаху вочы фіксавалі каламутнае зяленіва, цьмяна падфарбаванае сонцам. Неўзабаве сусвет праясніўся і запульсаваў у хваравітай стэрэаметрыі: рухомыя колы на вадзе, цёмнае падбрушша моста і памост з высокімі ботамі, начышчанымі да люстранога бляску.

І тут згары ратавальна працягнулася далонь, за якую тапелец сутагава ўхапіўся…

Рэптылія сядзела на тым жа самым месцы, дзе і хвіліну назад. Бугрыстая зялёна-чорная спіна адлівала мярзотным глянцам. Шкляныя бурштынавыя вочкі паглядалі з халоднай агрэсіяй.

– Бобік, у копанку, – скамандаваў мужчына ў люстраных ботах.

Кракадзіл пакрыўджана зварухнуў грэбністым хвастом, але паслухмяна развярнуўся і з наждачным шоргатам папоўз да рова.

– Прабачце, не прадставіўся… – агаломшаны візіцёр прыклаў далоньку да мокрага пінжака.

– Я і так зразумеў, адкуль вы.

– У якім сэнсе? – сумеўся госць.

Гаспадар «Новай Зямлі» змерыў суразмоўцу ўчэпістым кравецкім поглядам. Глянуў на гадзіннік, прымружыўся на аўтамабіль.

– Ваш «дэсота», мяркуючы па нумарах, узяты напракат у аэрапорце Джэксанвіля, – мовіў ён роўным голасам, нібы адкусваў пасаціжамі сталёвы дрот. – Вымаўленне ў вас нью-ёркскае. Самалёт з Нью-Ёрка прызямліўся дзве з паловай гадзіны таму. Гэтым рэйсам звычайна лётаюць каміваяжоры і ўрадавыя службоўцы. Да каміваяжора вы не падобны. З урадавых службоўцаў такія твары бываюць толькі ў дэтэктываў і спецагентаў. Людзі з ФБР былі ў мяне тыдзень таму. Паліцыю штата я не цікаўлю. Застаецца…

Цээрушнік выцягнуў з кішэні насоўку, выкруціў, нервова змахнуў з залысіны бросню і скасавурыў пацучыныя вочкі на суразмоўцу.

Агент Z амаль не змяніўся з тых часоў, калі яго зафіксаваў нацысцкі апаратар у Мінску. Хіба што каменны чэрап падаваўся масіўнейшым, гранёная ямінка на валявым падбароддзі – глыбейшай, дый воўчая бязжальнасць цяпер амаль што не праступала праз хітраватыя зморшчыны. Вочы хаваліся за моднымі чорнымі акулярамі «авіятар». Так мог выглядаць і паспяховы бізнэсоўца, і былы марскі пехацінец, і нават адстаўны шэрыф.

Спецслужбоўца панура глядзеў, як з вопраткі сцякае брудная вільгаць. Дбайна адрэпетаваны дэбют размовы быў сітуацыйна скамечаны, і госць паспрабаваў быў забраць ініцыятыву праз напружаны камплімент:

– А вы не падобны да чалавека…

– …які меў справы з камуністамі і нацыстамі? Гэта я толькі маскуюся. Праходзьце, не саромцеся, – гаспадар прыадчыніў фортку ў жалезных варотах.

«Новая Зямля» выглядала з сярэдзіны куды больш прывабна, чым звонку. Паабапал асфальтаванай дарогі зеленелі дзялкі; ідэальна нарэзаныя прамакутнікі з ідэальна дагледжанай гароднінай. Леваруч кучаравіўся дымчасты сад, з купчавымі кронамі і дбайна пабеленымі камлямі. Праваруч цягнуліся прысадзістыя цагляныя стадолы. Перспектыву замыкала мурававая сядзіба сіметрычных формаў.

## СУВОРАЯ ГЕАМЕТРЫЯ І СТЭРЫЛЬНЫЯ ЧЫСЦІНЯ ЎВАСКРАШАЛІ Ў ПАМЯЦІ ШМАТЗНАЧНАЕ НЯМЕЦКАЕ СЛОВА «ОРДНУНГ».

За садам адкрылася нечаканае: этнаграфічнага выгляду студня і высачэзны жораў з прывязаным дагары нагамі юнаком. Двое засяроджаных маладзёнаў у шэрых ватоўках рытмічна апускалі ахвяру галавою ў бярвенчаты зруб. З глыбіні даносіўся істэрычны ёкат, які перакрывалі гулкае рэха і сарамлівае булькаценне.

– Дваюродны пляменнік Генры Форда-малодшага, – пракаментаваў Агент Z даверліва-свойскім тонам. – Васямнаццацігадовы абібок, хабёл і хранічны п’янтос, схільны да бессэнсоўнай агрэсіі. Ад яго адмовіліся дактары, педагогі, царква, «Таварыства ананімных алкаголікаў» і нават амаль уся сям’я. Метода лекавання праверана: водныя працэдуры ў спалучэнні з цяжкай аграрнай працай. Што характэрна – перавыхоўваюць маладога містара Форда былыя алкаголікі, лайдакі і хабёлы, якія менавіта ў такі спосаб і вылюднелі.

Калодзежны жораў з падвешаным за ногі юнаком выглядаў рыхтык

сярэднявечны катаўнічы рыштунак. Ахвяру мачалі ў падземныя воды з рытмічнасцю помпы, і рукі маладога містара Форда падчас кожнага пад'ёму калаціліся сутаргавымі дрыжыкамі шыбеніка.

Агаломшаны пабачаным цээрушнік механічна прасачыў за маятнікавым рухам папярэчыны.

– Дык гэта ж… зверства!.. – прасіпеў ён.

– Безумоўна, – пагадзіўся гаспадар. – Але ж не летальнае. Летальнай версіі мяне навучыў адзін знаёмы энкавэдэшнік у Нясвіжы ў трыццаць дзявятым годзе. Менавіта так ён закатаваў аднаго варшаўскага асадніка, рэдкую гніду, якую мне зусім не было шкада.

Сад катаванняў разгортваўся квяцістым дантаўскім веерам. Перад самою сядзібай узвышалася пальма з прывязанай да яе хударлявай дзявуляй. Твар яе выглядаў знясіленым, рукі блішчэлі чымсьці густым і ліпучым – няйнакш як мёдам. У нагах ахвяры пагрозліва пульсаваў мурашнік.

– Пазашлюбная дачка Фрэнка Сінатры, паталагічная клептаманка, – патлумачыў Агент Z з інтанацыямі экскурсавода ў музеі крыміналістыкі. – Выносіла з хаты ўсё: ад пяціцэнтавых цацак пляменніка і да дыямантавых калье маці. Дазаваная тэрапія мурашынай кіслатой напэўна адверне яе рукі ад чужога майна. Між іншым, гэтаму катаванню, толькі са смяротным вынікам, мяне навучыў знаёмы гестапавец у Мінску, якому я і перадаў знаёмага энкавэдэшніка – таго самага.

– А што было потым з тым гестапаўцам? – спецслужбоўца скругленымі вачыма глядзеў, як на руках дзеўкі варушыцца мурашыны вэлюм.

– Калі гэты садыст у розныя спосабы закатаваў усіх палонных чэкістаў і камуністаў, якія былі ў яго ў наяўнасці, я з радасцю здаў гестапаўца савецкім партызанам. Ад каторых, між іншым, дазнаўся пра яшчэ адзін вытанчаны спосаб катавання, – надзіва спакойна паведаміў гаспадар. – Прашу ў дом.

Госць замуліўся. Прымаць запрашэнне не надта й хацелася; у доме гэтага нелюдзя яго маглі чакаць цыркулярныя пілы, распаленыя абцугі і чаны з сернай кіслатою. Былы паліцай, імігрант і мізантроп, атупелы ад самотнага жыцця на ферме, бавіць час у сяброўстве з алігатарамі і ў мудрагелістых катаваннях дзетак.

Тыповы фашыст.

У сядзібе, аднак, цээрушніка чакалі сухая вопратка, гарачая гарбата, плед і старасвецкі фатэль ля распаленага каміна.

– Мая ферма – выхаваўчы цэнтр для маладых і несвядомых неадэкватаў, ад якіх адмовіліся абсалютна ўсе, – Агент Z выглядаў прагматычным, нібы асфальтавы каток. – Пасля першасных, вельмі брутальных сеансаў карэкцыі свядомасці неадэкваты нарэшце ўсведамляюць факт уласнага існавання. Ці хаця б факт наяўнасці ў іх болевых рэцэптараў. Так выпрацоўваюцца правільныя рэфлексы на няправільныя паводзіны. Правільныя рэфлексы замацоўваюцца доўгімі і інтэнсіўнымі курсамі працатэрапіі: пацыенты ад рана да позна стаяць рачкі на бульбяных дзялках…

Гаспадар падышоў да акна, адшморгнуў фіранку. Па палетках сноўдаліся паўпразрыстыя, падобныя за замагільных ценяў, сілуэты: разбівалі граблямі камякі, раскідалі гной, палолі бадыллё. Пры гэтым наглядчыкаў, якія асацыятыўна чакаліся побач, чамусьці не назіралася.

– …так што пасля цяжкай працы ў іх проста не застаецца часу на паганыя думкі… не кажучы ўжо пра іх рэалізацыю. З раніцы – урачысты пад'ём нацыянальнага сцяга маёй Радзімы і выкананне нацыянальнага гімна маёй Радзімы… каб потым ведалі, каму дзякаваць за тое, што сталі

свядомымі. Пасля працы – вячэра, добрая кніжка і здаровы сон.

– Значыцца, вы не садыст, а псіхатэрапеўт? – вызначыў госць з палёгкай.

– Людзі баяцца гэтага слова. Лепш казаць – «менеджар па сувязях з рэчаіснасцю». Метода наладжвання такіх сувязяў сертыфікаваная. Кліенты лекуюцца на ферме выключна са згоды бацькоў. Сенатары, банкіры, галівудскія зоркі і босы мафіі запісваюцца ў чаргу, каб аддаць сюды сваіх ёлупняў.

– У гэтае пе-екла?.. – не паверыў спецслужбоўца.

– «Новая Зямля» – усяго толькі чысцец, – абвергнуў выхавацель. – Але з якога аблудныя душы абавязкова павяртаюцца дахаты.

На языку цээрушніка завярцелася слова «таталітарызм». Але гаспадар відавочна прачытаў ход яго думак.

– Я ніколі не караю бязвінных, – мовіў Агент Z сур'ёзна і ціха. – Не раблю пацыентам болю больш, чым здольны вытрываць сам. Не знаходжу радасці ў чужых пакутах. І не трэба глядзець на мяне як на нелюдзя. Большасць сучасных нелюдзяў частуе з далоні вавёрачак у парку і чытае на ноч сантыментальныя раманы.

– Няўжо ніхто не спрабаваў падняць паўстанне ці хаця б уцячы? – не паверыў цээрушнік. – Кракадзіла баяцца?

Уладальнік фермы адчыніў дзверы ў суседні пакой, зрабіў запрашальны жэст. У паўцёмнай зале грувасцілася з тузін клетак, падвешаных да столі. За металёвымі прутамі брутальна чарнелі гіганцкія кублы пёркаў на чорных лапах, з вострымі чорнымі дзюбамі.

– Усяслаў Чарадзей, – прадставіў Агент Z старога раскудлачанага крумкача, які горбіўся на жардзіне, схіліўшы галаў. – Мізантроп з містычным светапоглядам, схільны да доўгіх медытацый і падступнага чараўніцтва. Але калі яго раззлаваць – пашматуе каго заўгодна.

Госць нават і не здзівіўся – пасля вартавога алігатара ў брамы «Новай Зямлі» ён быў гатовы да ўсяго.

– А вось Тадэвуш Касцюшка… – гаспадар па-сяброўску пасміхнуўся элегантнаму мазгаклюю антрацытнага колеру і шляхотнага экстэр'еру. – Дыпламатычны і гжэчны інтэлектуал. Вось Кастусь Каліноўскі, спецыяліст па партызанскай вайне. Вось Януш Радзівіл, сібарыт і мача, але пры гэтым адважны ваяр. А вось шалёны лятун Станіслаў Булак-Балаховіч, наш самы хіжы і бязлітасны забойца. Шчыра кажучы, я яго сам іншым разам баюся.

Цээрушнік паглядаў на арніталагічную фантасмагорыю скругленымі ад жаху вачыма і нечакана злавіў сябе на думцы, што яму вельмі хочацца прыняць пігулку ад шызафрэніі. Гаспадар завесіў клеткі цёмнай тканінай і пытальна глянуў на візіцёра: маўляў, я сумленна адпрацаваў свой нумар, так што цяпер твая чарга…

Вочы спецслужбоўцы заззялі баявым бляскам прафесіянала. Да перамоў яго рыхтавалі два тыдні. Асобу Агента Z аналізаваў доктар псіхалогіі, прамову складалі найдасведчаныя спецыялісты па допытах, а рэдагаваў яе гісторык з беларускіх эмігрантаў.

У камiннай зале цээрушнік прыняў памяркоўна-пафасную паставу і са спагадай выказаўся пра шматпакутны народ Беларусі: вялікая мінуўшчына, імперскія суседзі, крывавыя войны і знішчэнне нацыянальнай культуры. Згадаў Вялікае Княства, Вітаўта Вялікага і Мураўёва-вешальніка. Не забыўся пра памяркоўнасць і талерантнасць.

– Вы чулі пра апошняе зверства Саветаў? – спецагент вёў сваю партыю пранікнёна, бы оперная прымадонна. – Яны наўмысна абмежавалі пасевы бульбы, вашага сакральнага карняплода, і замест яе насаджаюць чужынскую кукурузу!

Гаспадар слухаў без усялякай цікаўнасці.

– Вы забыліся пра кагэбэшныя рэпрэсіі супраць іншадумцаў, – лянотна ўкруціў ён рэмарку.

– Не, не забыўся! – цээрушнік перайшоў у жорсткі наступ. – Гэта, відаць, вы на іх забыліся!..

– Я таксама рэпрэсую на сваёй ферме іншадумцаў, – спакойна парыраваў Агент Z. – Вы што, прапануеце мне кінуць гэты карысны занятак і нелегальна выправіцца на Радзіму?

– Менавіта! – пацвердзіў прамоўца і з падтэкстам пра мажлівае месіянства суразмоўцы дадаў: – Шматпакутная Беларусь чакае свайго змагара!..

– Прапанова амаральная.

– Значыцца, добра аплачваемая. А… чаму вы лічыце маю прапанову амаральнай?

Гаспадар паварушыў у каміне дровы, і на ягоны твар пакладзіся густыя барвовыя плямы.

– Усё, што мне трэба для жыцця, цяпер тут. «Новая Зямля» і ёсць здабытая мною Радзіма… ці прыдуманая ў эміграцыі – без розніцы. А Беларусь, якая засталася ў маёй памяці, – то страчаны рай. І згадкі пра гэты рай занадта інтымныя, каб я іх разбураў.

Усе аргументы госця разбіваліся аб волю суразмоўцы, бы хвалі аб гранітны мол. Заставаўся апошні козыр.

Візіцёр дастаў з партманэткі невялікі фотаздымак, выклаў перад Агентам Z. З фатаграфіі глядзела жанчына з маркотным, бы ў Божай Маці Вастрабрамскай, тварам. Аматарскі здымак быў зроблены ў Нясвіжы, побач з касцёлам Божага Цела і, відавочна, суадносна нядаўна: пра гэта сведчыў вулічны плакат з выявай Мікіты Хрушчова і надпісам «Рашэнні XXI з'езду КПСС – у жыццё!».

– Вось ёй вы патрэбны напэўна!.. – прамовіў спецслужбоўца, нібы ўкалаціў абухом цвік.

Агент Z зняў акуляры і з хвіліну разглядаў здымак; госцю нават падалося, што вочы гаспадара на колькі секунд змянілі колер са сталёвых на пяшчотна-блакітныя…

– А цяпер слухайце мяне вельмі ўважліва, – спецагент ЦРУ канчаткова захапіў ініцыятыву і цяпер лупцаваў тэзісамі, рыхтык пугаю. – У Беларусі вас пагэтуль памятаюць. Шмат для каго там вы ўжо не чалавек, а міф, які кожны напаўняе тым, што хоча ў ім бачыць.

ВАМ ПРОСТА ТРЭБА ГЭТЫ МІФ ПАДТРЫМАЦЬ, АЛЕ – У ВЫГОДНЫМ ДЛЯ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАГА РУХУ РАКУРСЕ.

Пасля вышкалу вас разам з невялікай групай дыверсантаў дэсантуюць у раёне Нясвіжа. Зброя, грошы, сувязь, кансператыўныя яўкі… усё, як мае быць. Зладзіце колькі гучных антысавецкіх дыверсій. Парахуецеся з усімі, хто вам вінен, адпомсціце ўсім, хто таго варты. А мы зарганізуем вашу эвакуацыю праз мяжу… і яе таксама. І жывіце потым удваіх на сваёй «Новай Зямлі» хоць да ста гадоў!..

…Драбнюткія кроплі сарамліва зіхцелі на кустках картоплі. Маладзёны ў ватоўках з тупаватай паслухмянасцю палолі грады. Вялізны сцяг лунаў на флагштоку ў цэнтры плаца, і цыклапічны рухомы цень амаль цалкам накрываў сядзібу.

Мужчыны прайшліся да брамы і спыніліся для развітання.

– Фотаздымак можаце пакінуць, – дазволіў візіцёр. – Дык што мне перадаць кіраўніцтву?

* * *

Па-над «Новай Зямлёю» круглўся мядовы рагалік месяца. Цёплыя ветрыкі сыпалі на паснулыя грады зорным пылком, калыхалі райскія яблычкі пад шурпатым лісцем. Гаспадар фермы чвякнуў у зямлю рыдлёўкай, адступіў, пільным вокам агледзеў малады

дубок, які пасадзіў за садам. Апусціўся на траву, выцягнуў з кішэні здымак жанчыны з маркотнымі, бы ў Вастрабрамскай Мадонны, вачыма.

З нябёсаў тужліва заценькала нябачная птушка. Крышталёвы голас натхнёна выводзіў пра роднае і невымоўнае, пра каханне і спакусу, пра юнацкія шаленствы і прагу да сапраўднага.

Пераліўчатыя трэлі гусцелі, цвярдзелі, набіраліся бомамі, скрыгатамі і стогнамі. І пульсавала блакітная жылка на скроні дзіцёнка, і чадзелі крэматорыі, і ляцелі долу пялёсткі ссечаных садоў, і хрумсцелі чарапы пад падэшвамі імперый. Але тлумы тыя сцішыў пранізлівы шэпт анёла, які паабяцаў суцяшэнне ўсім зняверапым, уратаванне ўсіх пакутнікаў і здзяйсненне самага патаемнага, нязбытнага і грэшнага…

Перадсвітальны ветрык роўна шаргацеў у сухіх травах. Чарноцце на ўсходзе сарамліва распаўзалася барваю. Чарговая ноч памірала.

Мужчына рыпнуў начышчаным ботам – птушынае ценьканне зрэзалася.

– Не давярай мне, каханая, не давярай, – ледзь чутна прашаптаў ён. – Душа мая сцерлася, бы старая падэшва, і ступаць двойчы ў наш стары рай з маёю душой – загуба для нас дваіх… Але як мы з табой калінебудзь перастрэнемся – не давярай мне ніколі.

**Глава 5**

Аблокі над вечаровай Піцундай спаборнічалі ўсімі адценнямі чырвані. Сонца пераспелым мандарынам хілілася ў дрымотнае мора. Камяні ўрадавай рэзідэнцыі патыхалі гарачынёю, у парку луналі дурманлівыя водары кветак, і дзяжурны ахоўнік, які патруляваў між магноліяй і архідэй, раз-пораз спыняўся, каб злавіць тварам ветрык з мора.

Ад будынка, дзе адпачываў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, даносіўся жыццярадасны рогат, праслоены сакавітымі мацюгамі на адрэсу партыйных кіраўнікоў, маршалаў, даярак, ткачых і нават касманаўтаў. Камітэтчык ніяк не рэагаваў на пачутае; гэта ў першыя гады службы ў ахове яму хацелася застрэліцца ад крамлёўскіх нораваў, але потым ён навучыўся глушыць ванітныя рэфлексы вадзярай. Афіцэр нетаропка прайшоўся да бетоннага плота, выцер вільготны твар вільготнай насоўкай, на імгненне ўявіў заінелую, з лядоўні, пляшку піва, аднак імгненна ж адагнаў недарэчную на службе карцінку…

Раптам вечаровае сутонне праццяла доўгая хрыпатая нота тэнар-саксафона, прытым ідэалагічна шкодны гук відавочна сыходзіў з боку ўрадавай рэзідэнцыі. Ахоўнік схамянуўся, але адразу супакоіўся думкай, што гэта, безумоўна, галюцынацыя. Прачысціў пальцам вуха, працёр вочы… Аднак праз якую секунду на картавы саксафонны голас наклаўся пругкі завадны рытм электрагітары, гудка рассыпаўся барабанны пошчак, і па-над паркам загарлала нахабнаэнергічнае:

*Well it's one for the money,*
*two for the show*
*Three to get ready*
*Now go cat go!..*

Гэта быў рок-н-рол «Blue suede shoes» у выкананні Элвіса Прэслі.

Вочы чэкіста раскаардынавана заблукалі, бы ў немаўляці. Думкі імгненна саскочылі з ідэалагічных рэек і лагернымі ваганеткамі загрукаталі праз непраходную тайгу. Першай думкай была паразка ў Трэцяй Сусветнай і імгненны захоп урадавай рэзідэнцыі амерыканскімі марпехамі, другой – а што яму асабіста цяпер рабіць: застрэліцца ці перакінуцца да імперыялістаў?

Далонь інстынктыўна ссунулася пад паху да кабуры, але вочы, якія аўтаномна блукалі ў пошуках ідэалагічнай апоры, нарэшце ўтаропіліся ў ліловыя контуры савецкіх эсмінцаў на даляглядзе і чырвоны сцяг на флагштоку перад рэжымным аб'ектам.

– Гэта піздзец… – разгублена выдыхнуў камітэтчык, крыху памуліўся, але крадком пасунуўся да ўрадавага лецішча.

За столікам у цені пальмы пабарску разваліўся Першы сакратар ЦК КПСС Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. Вечаровае сонца блікавала ў ільснянай лысіне. На сподзе чорнай і краснай смальтай блішчэлі канапкі з ікрой паюснай і ікрою зярністай, у графінчыку дробна калацілася гарэлка. А перад самым столікам зухавата вытанцоўвалі рок-н-рол двое таварышаў у афіцыйных цэкашных стройчыках.

Лысаваты мужчына з гладкім тварам адстаўнога камсамольскага правадыра, фрывольна адставіўшы дупу, рытмічна вымахваў рукамі вакол сівога астэнічнага дзядзькі ў рагавых акулярах, пад якімі хіжа блішчэлі бляклыя вочкі старога бальшавіка.

БАЛЬШАВІК ТАКСАМА ДАВАЎ ЖАРУ: ІМПЭТНА ВІХЛЯЎ КАЛЕНЯМІ, УДАВАЎ, ШТО ГРАЕ НА ЭЛЕКТРАГІТАРЫ І НАВАТ ЭРАТЫЧНА СКУГОЛІЎ НА МАНЕР ПРАДАЖНАЙ ДЗЕЎКІ ІМПЕРЫЯЛІЗМУ.

Знянацку ён ухапіў маладзейшага партнёра за руку і з нечаканым для свайго ўзросту спрытам перакінуў яго праз сябе, нібы дэманструючы прыём самба.

Сівым танцорам быў таварыш Міхаіл Андрэевіч Суслаў – член Палітбюро ЦК КПСС і галоўны ідэолаг Савецкага Саюза, а лысаваты экс-камсамольскі правадыр – таварышам Аляксандрам Мікалаевічам Шэлепіным, старшынём Камітэта Дзяржаўнай Бяспекі.

Ахоўнік паспрабаваў быў сабраць аскепкі сусвету ў цэласную карцінку, але знянацку адчуў, што ягоны апорна-рухальны апарат несвядома і па-здрадніцку торкаецца ў такт варожым гітарам і саксафонам. З разяўленага рота выцягнулася бліскучая нітка сліны. Камітэтчык неверагодным высілкам волі зафіксаваў цела ў статутнай паставе, шчоўкнуў пашчэнкай і знерухомеў.

Рок-н-рол зрэзаўся раптоўна. Па сцежках пракацілася кароткае рэха гітарнага дысанансу. Старшыня КГБ прафесійна пільным позіркам зафіксаваў падначаленага і тым жа позіркам паслаў яго на хер.

Таварыш Хрушчоў зварухнуўся, важка засіпеў. Яго твар патомнага курскага свінапаса слаіста набрыняў чырванню і ўпадабнеў кавалку сала ў пяшчотных мясных пражылках.

– Підарра-асы... – хрыпата ацаніў ён пабачанае, смачна сплюнуў пад стол і пацягнуўся да графіна.

Таварыш Суслаў выцягнуў з кішэні насоўку колеру крамлёўскай дывановай дарожкі, дбайна працёр акуляры, апусціўся за столік і цяжка аддыхаўся.

– Я б сказаў горш: фашысты!.. – прамовіў ён ціхім і ясным голасам дасведчанага партапаратчыка.

– Правільная і вельмі своечасовая заўвага, Мікіта Сяргеевіч і Міхаіл Андрэевіч, – гатоўна засведчыў таварыш Шэлепін.

– То нашто тады вы мне тую буржуазную разбэсту вытанцоўвалі?..

Урадавую рэзідэнцыю размываў раскошны субтрапічны вечар. Бухмаціліся зоркі, стракаталі цыкады, прахалодны ветрык з мора пяшчоціў твары. Старшыня КГБ незаўважна перазірнуўся з галоўным ідэолагам, накаціў для смеласці сто грамаў і разгарнуў знешнепалітычную дыспазіцыю.

Амерыканская ваеншчына раскручвае гонку ўзбраенняў. Ленінскае Палітбюро змушанае адказваць фінансаваннем вытворчасці ўсё магутнейшых балістычных ракет і вадародных бомбаў. А гэтыя грошы можна было б вытраціць на падвышэнне дабрабыту савецкага народа. Аднак ёсць іншы спосаб перамагчы амерыканскі імперыялізм: трэба ідэалагічна раскласці ворага з сярэдзіны.

– Таму, Мікіта Сяргеевіч, мы з таварышам Суславым і развучылі буржуазны танец рок-н-рол, – на шырокі камсамольска-адкрыты твар Шэлепіна паклаўся цень эстэтычнай агіды. – Каб вы на ўласныя вочы пераканаліся, якой страшнай і разбуральнай моцы гэтая ідэалагічная зброя. Ці зможа распальнік вайны з Белага Дома планаваць чарговую высадку контррэвалюцыянераў на Кубу, калі замест агрэсіўных планаў будзе думаць пра буржуазную парнаграфію?!.. Ці здолее галаварэз з Пентагона трапна пацэліць у абаронцу народнай дэмакратыі, калі ён перад гэтым паўгадзіны танчыў рок-н-рол, бы педэрастычная макака?!..

Хрушчоў выслухаў галоўнага камітэтчыка з напругай уваччу і падазрона скасавурыўся на галоўнага ідэолага, які чуйна драмаў у плеценым фатэльчыку пад пальмай.

– А педэрастычную парнаграфію, таварыш Шэлепін, вы мне тут самі прадэманструеце, ці таксама з дапамогай таварыша Суслава?

Таварыш Суслаў схамянуўся і аддана глянуў на Мікіту Сяргеевіча.

– Калі партыя загадае…

– Загадаю, калі спатрэбіцца. Ну і што вы ад мяне хочаце? – Хрушчоў утаропіўся ў старшыню КГБ нядобрым куркульскім поглядам, на тлустай складкаватай патыліцы выступілі празрыстыя кроплі. – Ат, я ведаю што!.. Грошай на сваю распусту вы хочаце – правільна? Таварышу Усцінаву на абаронку – дай! Таварышу Фурцавай на культурку – дай! А мне кукурузу трэба высаджваць і камунізм будаваць, прытым – ва ўсім свеце!.. Вы што, сапраўды думаеце, Мікіта Сяргеевіч тыя грошы друкуе?.. Ды вы, блядзі, хоць разумееце, што дзяржаву весці – гэта не яйцамі трэсці?!..

Хрушчоў распаляўся. Суслаў ад нястачы мужнасці бляяў і мычэў. Шэлепін спакойна перачакаў начальніцкі гнеў і трапна ўвайшоў у паўзу, зробленую Мікітам Сяргеевічам для чарговага мацюга:

– Амерыканскія балістычныя ракеты ўжо на паўднёвых рубяжах СССР, у Турэччыне, – перасцярэгнуў ён суворым афіцыйным тонам. – Пентагон рыхтуе чарговую высадку на Кубе, прытым куды больш маштабную, чым нядаўна ў Затоцы Свінняў. ЦРУ плануе ўсё новыя і новыя правакацыі. Калі мы не зробім рашучых прэвентыўных захадаў у адказ, то паставім пад пагрозу не толькі перамогу камунізму ў сусветным маштабе, але і мірныя кукурузныя палеткі ў нашай краіне… А такой прэвентыўнай мерай можа стаць толькі маральная разбэста ворага, якой пасля адпаведных кансультацый з таварышам Суславым і будзе займацца наша замежная рэзідэнтура. «Сэкс, наркотыкі, рок-н-рол!» – вось найактуальнейшы дэвіз Камітэта Дзяржаўнай Бяспекі!..

– І колькі вы пад сваю парнаграфію грошай хочаце? – амаль здаўся Першы сакратар ЦК КПСС.

Шэлепін назваў лічбу, і яна не падалася Хрушчову крытычнай для савецкай эканомікі.

– Тым больш у той жа Амерыцы даўно ўжо ёсць і рок-н-рол, і наркотыкі, і нават сэкс, – нагадаў павесялелы старшыня КГБ. – Проста трэба пашыраць і паглыбляць гэтыя ганебныя з’явы. Прытым пажадана падсадзіць на тую заразу ўсё найвышэйшае кіраўніцтва ЗША: ястрабаў Пентагона, пярэваратняў Лэнглі, акул Уол-стрыта і нават самога прэзідэнта Кенэдзі!..

– А калі ўся гэтая зараза і да нас дакаціцца? – пачухаў патыліцу Мікіта Сяргеевіч. – У нас жа і стылягі, і абстракцыяністы, і яўрэі, і іншыя антысаветчыкі…

– Савецкі чалавек, узброены самым прагрэсіўным у свеце светапоглядам, ніколі не скаціцца ў багну буржуазнага рок-н-рола, – ідэалагічна роўным тэнарком засведчыў Суслаў. – А тым больш – калі такі савецкі чалавек выхаваны на лепшых узорах вялікай расійскай музыкі, – ідэолаг зазірнуў у паперку, – Глінка, Мусаргскі, Чайкоўскі…

– Калі павялічыць фінансаванне КГБ – ніякая зараза да нас не дакаціцца, – дадаў Шэлепін і назваў новую лічбу.

– Трэба таксама ўзмацніць фінансаванне ідэалагічнай працы сярод насельніцтва і асабліва – прапаганды вялікай расійскай культуры ў нацыянальных рэспубліках, дзе яшчэ сустракаюцца асобныя негатыўныя буржуазна-нацыяналістычныя праявы, – падсумаваў Суслаў і агучыў чарговую лічбу.

НЯБАЧНЫЯ КАЖАНЫ
З ЦІХІМ СВІСТАМ
КРЭСЛІЛІ АТРАМАНТАВАЕ
СУТОННЕ.
ПА-НАД ДЭКАРАТЫЎНАЙ
ЛЯМПАЙ ХААТЫЧНА
ШАЛЕЛА ЧАМЯРА.

Падавальшчык у бялюткім фартуху незаўважна змяніў пусты графін на паўнюткі.

– Добра, дам вам на ўсё гэта грошай, уламалі старога, – Мікіта Сяргеевіч уласнаруч набулькаў па гранчаках, прымружыўся на Шэлепіна. – Дарэчы, Шурык, я там тваю справаздачу чытаў пра беларускіх буржуазных нацыяналістаў. Самалёт цээрушны, парашутысты з фашысцкімі кулямётамі… Спадзяюся, твае гангстары ў Савецкую Беларусію іх не дапусцяць?.. Дакладна, абяцаеш?.. Ну, тады вашае здароўе, дарагія таварышы!..

**Глава 6**

Парашутныя лямкі ўпіваліся Агенту Z у грудзіну. Ён расслабіў фіксатар, зварухнуў плячыма і адшморгнуў фіранку з ілюмінатара.

У разрывах аблокаў жаўцелі заплаты скошаных пожняў, пакрэмзаныя шэрымі ніткамі дарог. Халоднае вечаровае сонца крышылася ў дысках прапелераў. Вушы закладала густой ватнай вібрацыяй.

Пасажырскі «Douglas DC-7», пазначаны ва ўсіх міжнародных раскладах як рэгулярны борт «Хельсінкі – Стамбул», пралятаў недзе над эстонска-латышскім памежжам. Далей паветраны калідор праходзіў праз усю Беларусь, з поўначы на поўдзень. Салон, разлічаны на сотню пасажыраў, быў амаль пустым: камандзір дыверсійнай групы Агент Z і двое яго падначаленых. Дыверсантаў меркавалася выкінуць з парашутаў блізка Нясвіжа. А самалёту належала ляцець далей згодна з маршрутам.

Падначаленых Агенту Z навязалі падчас трохмесяцовага вышкалу ў выведвальнай школе пад Мюнхенам. Ён не ведаў ані іх паходжання, ані іх біяграфій, ані нават сапраўдных імёнаў: гаварыць пра гэта сувора забаранялі цээрушныя інструкцыі. Але некаторыя высновы для сябе ўсё ж зрабіў.

Штатны падрыўнік адгукаўся на мянушку Залупаеў і выглядаў адпаведна: зухаваты хабёл з раскосымі вачыма і жалезнымі зубамі. Больш за ўсё Залупаеў любіў гарэлку пад занюх рукава, архіерэйскія службы і аўтамат «шмайсер». Па некаторых недагаворваннях Залупаева вынікала, што ў вайну ён служыў у казацкіх частках Waffen-SS блізка Баранавічаў.

Штатны радыст з псеўданімам «Асаднік» меў далікатныя манеры,

субтыльны целасклад і акцэнт радавітага крэсавяка. Больш за ўсё Асаднік любіў вудку пад селядца, мазуркі Шапэна і важкі ружанец метровай даўжыні, які насіў абгорнутым вакол запясця і які ў разе патрэбы скідаў з неверагодным спрытам. Па дробных дэталях Агент Z вызначыў, што ў мінулым жыцці эстэт працаваў ахоўнікам у Бярозе-Картузскай.

Спадзявацца на такіх людзей не выпадала, а давяраць ім – і пагатоў. Агент Z трымаўся з падначаленымі падкрэслена роўна, але асаблівай спагады не выказваў; наколькі чалавек ягоных светапогляду і лёсу ўвогуле мог выказаць спагаду да былога расійскага казака і былога ахоўніка санацыйнага канцлагера.

Краявід у ілюмінатары перакрыла шчыльнае воблака. У салоне блякла запалілася святло. З кабіны пілота выйшаў інструктар у лётнай скуранцы, абцёртай на плячах парашутнымі лямкамі.

– Падрыхтавацца! – скамандаваў ён.

Самалёт, імаверна, ужо пралятаў над Беларуссю. Знянацку Агент Z злавіў сябе на думцы, што не адчувае ніякай радасці ад блізкай сустрэчы з Радзімай. Стрымана пасміхнуўся інструктару, паважна прапусціў у канец салона падрыўніка і радыста…

Інструктар адчыніў дзверы. У салон шуганула зімовай сцюжай, пругкі вецер высек слёзы з вачэй.

– Першы – пайшоў!..

Агент Z дэсантаваўся апошнім: адштурхнуўся ад парога, міжволі заплюшчыў вочы і вухнуў у вільготную бездань. Твар апякло марозным, цела кінула ўбок, перакуліла-закруціла ў ільдзяным віры, і прасторавая арыентацыя на якое імгненне знікла. Парашутыст згрупаваўся ў паветры, ураўняў дыханне і расплюшчыў вочы. Леваруч пругка пульхірыліся два купалы; па хуткім часе яны зменшыліся да памераў кропак і імгненна распусціліся ў аблоках. Агент Z пралічыў «раз, два, тры», выдыхнуў і пацягнуў выцяжное колца…

Парашут не раскрываўся – дэсантнік з няўмольным паскарэннем ляцеў долу. Агаломшаны, ён злаўчыўся падняць голаў – купала над ім не было.

Агент Z таргануў колца яшчэ раз, і яшчэ, і яшчэ…

Парашут не раскрываўся.

А знізу ўжо тхнула зямнымі пахамі, густымі і цёплымі: папрэлым лісцем, грыбамі, саляркай і хмельным дымком нядаўна спаленага бульбоўніка. Зямля спакваля раскрывалася ў абрысах, колерах і аб’ёмах: маркотныя вясковыя дахі ўдалечыні, цёмны прамакутнік могілак на аплылым кургане, ільсняная брукаванка старасвецкага гасцінца… Пад нагамі бліснулі слюдзяныя плямкі балотных вокнаў у атачэнні фіялетавага хвойніку.

Радзіма ляцела насустрач – бяздонная, бязмежная і бязлітасная, гатовая праз імгненне нанесці смяротны ўдар і праглынуць назаўсёды.

Агент Z таргануў выцяжное колца.

Парашут не раскрываўся.

А ЗНІЗУ ЎЖО ТХНУЛА ЗЯМНЫМІ ПАХАМІ, ГУСТЫМІ І ЦЁПЛЫМІ: ПАПРЭЛЫМ ЛІСЦЕМ, ГРЫБАМІ, САЛЯРКАЙ І ХМЕЛЬНЫМ ДЫМКОМ НЯДАЎНА СПАЛЕНАГА БУЛЬБОЎНІКА.

* * *

– Падчас правядзення аперацыі па затрыманні варожых дыверсантаў вы пераходзіце пад маё аператыўнае падпарадкаванне. Згодна з атрыманай інфармацыяй, трое нелегалаў дэсантуюцца ў Нясвіжскім раёне са шпегунскага самалёта, замаскаванага пад пасажырскі. А цяпер стаўлю задачу…

Вікенцій Дамінікавіч Пяткевіч нетаропка прайшоўся ўздоўж пашнураваных афіцэраў унутраных войскаў. Адшчоўкнуў раменьчык планшэткі, выцягнуў з-пад цэлулоіду пачак тапаграфічных мапаў, раскрэмзаных хімічным алоўкам, працягнуў паперы палкоўніку.

– Таварыш маёр, а адкуль стала вядома пра самалёт? – палкоўнік пажыраў камітэтчыка адданымі вачыма.

– Адкуль трэба, – адсек Пяткевіч. – На мапах усё падрабязна пазначана. Калі ласка, раздайце камандзірам. Раён меркаванага дэсантавання даволі шырокі – ад Гарадзеі і да Клецка. Як паведамілі са штабу супрацьпаветранай абароны, самалёт толькі што праляцеў над Нясвіжскім раёнам. Браць шпегуноў толькі жыўцом. А цяпер, таварышы, працуем з мапамі і чакаем каманды…

Вечар выдаўся празрыстым і цёплым. Бязветранае паветра праслойваў водар сухіх траў. Пунсовыя гронкі рабіны калыхаліся ў бэзавых нябёсах. З блізкай вёскі за ельнікам дзінькнула калодзежнае вядро, і свойскі гук азваўся ва ўзлеску сцішаным рэхам.

Начальнік нясвіжскага райаддзела КГБ не сумняваўся, што шпегуны будуць злоўленыя. Звесткі пра варожае дэсантаванне ён атрымаў суткі таму і скарыстаў гэты час па максімуме. Мабілізаваў усю наяўную агентуру ў раёне. Звязаўся з міліцэйскім начальствам і старшынямі сельсаветаў. Напружыў камсамольскі актыў. І нават наладзіў кантакты з ветэранскай арганізацыяй. Натуральна, ніякіх падрабязнасцей Пяткевіч не выкладаў: гаворка вялася выключна пра «падвышэнне пільнасці», «кантроль за ўсімі прыезджымі» і, ясная рэч, пра «магчымыя антысавецкія правакацыі напярэдадні чарговага з'езду Партыі»…

Тэнтаваныя МАЗы прасвечвалі праз абляцелы пралесак суворай балотнай фарбай. Каля БТРа ўвіхаліся кінолагі, і аўчаркі з дрыготкімі ружовымі языкамі трывожна шаторылі вушы. Афіцэры схіліліся над мапамі; пахмурная тупаватая мужнасць праяўлялася на іх тварах.

Колеры спакваля згасалі, гукі сцішваліся; бралася на ноч. Вікенцій Дамінікавіч сеў у штабны «газон» палкоўніка.

– Камандуйце ўсім «па машынах».

– Які маршрут?

– Уздоўж меркаванай зоны дэсантавання шпегуноў. Спадзяюся, за гэты час нам абавязкова прасігналізуюць сумленныя савецкія грамадзяне.

Першы сігнал паступіў у нясвіжскі райаддзел КГБ праз шаснаццаць хвілін, і дзяжурны адразу звязаўся з Пяткевічам. Пільны калгасны шафёр паведамляў, што толькі што заўважыў два падазроныя парашутныя купалы. Цягам наступных шасці хвілін пра парашутыстаў сігналізавалі настаўніца пачатковай школы, двое трактарыстаў, участковы міліцыянт, вясковая прадавачка, старшыня калгаса «Чырвоны шлях» Ананій Міронавіч Басота і малады аграном Яфім Шыла з агентурнай мянушкай «Вафлёныш».

Тэнтаваныя МАЗы грукацелі бруkаваным гасцінцам праз паснулую вёску. Вайскоўцы засяроджана прышпілялі аўтаматныя магазіны. У кодабах нецярпліва скуголілі сабакі.

На ўскрайку вёскі салдаты паскокалі з грузавікоў і спрактыкавана пашнураваліся ў даўжэзны рэдкі ланцуг. Афіцэры, стрымліваючы ў прысутнасці камітэтчыка звыклую лаянку, аддавалі каманды. Заляскала мілітарнае жалеза, газанулі і сцішыліся рухавікі.

Ланцуг аўтаматчыкаў расцягнуўся на паўкіламетра і паволі пасунуўся на прачэсванне мясцовасці.

Ноч гусцела, бразгатала і мацюгалася. У цемры хаатычна замігцелі ліхтарыкі. Пад кірзавымі ботамі гучна і бязладна захлюпала. Неўзабаве салдацкі ланцуг спыніўся перад першабытнымі балатамі з чортавымі

вокнамі ў пяшчотнай бросні і рэдкімі цёмнымі купамі, падобнымі да галоваў патанулых волатаў.

Хлопнула ракетніца. Мярцвянаблакітнае ззянне абліло рэдкі чэзлы сасоннік сярод бясконцай багны. Паперадзе, у касмыкаватым тумане, прамалёўвалася парослая чаратамі выспа з самотнай сасной. На вершаліне дрэва кволай медузай варушылася нешта бялюткае і агромністае.

– Парашут, – вызначыў Вікенцій Дамінікавіч. – Яны, пэўна, яшчэ там. Не думаю, што нават дасведчаны дыверсант рызыкне сыходзіць адсюль па цёмнаму.

– Можа, сабак на выспу? – прапанаваў палкоўнік.

– Пастраляюць тых сабак яшчэ ў вадзе. Тут, на добры розум, трэ…

З выспы суха прагрукатаў аўтамат. Танюткай струною завібраваў рыкашэт, хрубаснулі зрэзаныя кулямі галінкі. Пяткевіч, палкоўнік і вайскоўцы ўліплі ў зямлю. З выспы застракатала зноў, і на аўтаматную чаргу наклалася колькі гулкіх вінтовачных стрэлаў.

Чэкіст прыўзняў голаў, склаў рукі рупарам.

– Здавайцеся!.. Вы акружаныя!..

Страляніна знянацку сцішылася.

– Русские не сдаются!.. – адрэагаваў на прапанову хабёльскі барытон.

– Idź do diabła, rosyjska świnia! – параіў Вікенцію Дамінікавічу далікатны тэнар.

Апошнія словы перакрыліся працяглай аўтаматнай чаргою. Дыверсанты адстрэльваліся з адчаем людзей, якім ужо няма чаго губляць. А набояў, мяркуючы па ўсім, у іх не бракавала.

– Ад раніцы туман згусцее і нізам паплыве – пальцаў выцягнутай рукі не пабачыш, – паведаміў Пяткевіч палкоўніку. – У метры ад нас пройдуць – нават і не заўважым. Іх менавіта цяпер трэба браць. Скамандуйце, каб вашыя хлопцы пастралялі, паўдавалі штурм, а я неяк паспрабую збоку-ззаду…

Вікенцій Дамінікавіч спрытна адпоўз назад, абламіў на жардзіну доўгую сухастоіну і распусціўся ў непрагляднай цемры…

* * *

Па-над чорнымі балотнымі водамі варушылася белая пара. Млява крахталі жабкі, пранізліва парыпвалі дрэўцы, сыры світальны ветрык шаргацеў парашутам на сасне.

Пяткевіч пераступіў праз россып адстраляных гільзаў, рассунуў папараць.

На беразе ляжала два трупы. Зухаваты дзядзька з раскосымі хабёльскімі вачыма шчэрыў нябёсам жалезныя зубы. Шыя яго была абматаная дужым ружанцам, побач чарнеў «шмайсер». Непадалёк нерухомела цела субтыльнага мужчыны з пасечанай кулямі спінай. Несумненна, гэты дыверсант і задушыў жалезназубага спадарожніка, але апошні перад сконам знайшоў у сабе моц пакараць крыўдніка.

СКАМАНДУЙЦЕ, КАБ ВАШЫЯ ХЛОПЦЫ ПАСТРАЛЯЛІ, ПАЎДАВАЛІ ШТУРМ, А Я НЕЯК ПАСПРАБУЮ ЗБОКУ-ЗЗАДУ…

Пра прычыну невытлумачальнай і смяротнай сваркі амерыканскіх дыверсантаў можна было адно здагадвацца; апошнія стрэлы на выспе прагучалі з паўгадзіны таму, калі Пяткевіч пераходзіў па купінах праз балота.

Камітэтчыка непакоіла іншае. Паводле інфармацыі з Лубянкі, з самалёта дэсантаваўся яшчэ адзін шпег. Але на выспе яго не было. Пяткевіч адшукаў толькі ягоны парашут – чамусь нераскрыты, з глыбокай ямінкай пад ранцам. І – ані рэчавай валізы, ані зброі, ані кроплі крыві, ані нават прымятай травы…

Світальнае сонца ўклейвалася ў маціцовы далягляд бляклай манеткай. Ад вады даносіліся сцішаныя галасы і плёханне вёслаў – праз туман падыходзіў човен-даўбёнка з палкоўнікам і салдатамі. Мышастыя постаці спрытна разгрупоўваліся па выспе.

– Мы правалілі заданне, – засведчыў Пяткевіч палкоўніку. – Два трупы, а адзін увогуле знік.

– Патануў, імаверна, – адмахнуўся той. – А то куды яму з выспы падзецца?..

Ад вады раптоўна пацягнула халодным. Шчыльна зашаргацелі чараты, пранізліва віскнула сасна. Вецер падхапіў з галінкі раскудлачанае крумкачынае пёрка і панёс яго па-над бязмежным прасторам беларускай багны.

**Глава 7**

Крылатыя гусары Мікалая Радзівіла Рудога адважна ўрубаліся ў шыхты варожай пяхоты. Блішчэлі шаблі, хрыпелі коні, і зямля вібравала пякельнай патэльняй…

Электрычны зумер рассвідраваў цішыню кабінета. Станіслаў Альбрэхт Радзівіл адклаў кнігу, раздражнёна ўзяў слухаўку.

Тэлефанаваў прэзідэнт Злучаных Штатаў. Мяркуючы па інтанацыях, ён быў дабрача падвесялёны. Выбухі дзявочага смеху і рок-н-рольныя рытмы сведчылі, што Джон Фіцджэральд Кенэдзі, пэўна, балюе за горадам, у кампаніі лятучага атрада каханак.

– Чым займаешся, Стэсі?

– Чытаю.

– Чытаеш? Ты? – ва ўяўленні Джэкі ягоны сябра, геданіст і сібарыт, не мог вытрачаць час на такі нікчэмны занятак. – І пра што ж ты такое чытаеш?

– Гісторыя роду князёў Радзівілаў.

– То пра сярэднявечча ў тваёй Беларусі?

– Не ў маёй, а ў савецкай, – прагучала істотнае ўдакладненне. – Джэкі, аказваецца, трыста гадоў таму Масква ўжо спрабавала захапіць цывілізаваны свет. І мае продкі спынілі тую варварскую навалу. Князі Радзівілы ўзначальвалі атрад панцырнай кавалерыі – тып тагачаснага танкавага корпуса…

Прэзідэнт папярхнуўся – ён прызвычайваўся абмяркоўваць з сябрам розныя тыпы яхт, гальштукаў і жанчын, але не мілітарную мінуўшчыну якойсь сярэднявечнай Еўропы.

– Становішся рамантыкам, Стэсі, – праз падкрэслена маркотную паўзу канстатаваў Кенэдзі. – Для бізнэсоўцы твайго ўзроўню гэта недаравальна.

– Рамантыка – частка маёй бізнэсовай стратэгіі.

– А я хацеў цябе запрасіць у Фларыду. У нас тут традыцыйная суботняя вечарынка.

– Як заўсёды – з сакратаркамі і стэнаграфісткамі?

– Анягож не! Магу пакінуць парачку. Ці па-ранейшаму аддаеш перавагу галівудскім акторкам?

– Не беражэш сябе, Джэкі, – ласкава ўпікнуў Станіслаў Альбрэхт. – Сэкс, наркотыкі і рок-н-рол для палітыка твайго ўзроўню – не толькі недаравальна, але і злачынна!

– Палітыка не церпіць імпатэнтаў! – засведчыў прэзідэнт ЗША. – Магу выслаць самалёт. Дык нам рыхтавацца?..

Кніга пра подзвігі продкаў чакала на стале. Ціхамірна шаргацелі дровы ў каміне, улюбёным вогнішчы паэтаў і летуценнікаў. Вінныя блікі адбіваліся ў рыцарскіх латах над камінная паліцай.

– Давай іншым разам, Джэкі…

Глабальныя вядзьмарчыны прадказанні падчас купальскага перформансу і дзіўныя абставіны яе смерці запалілі ў мозгу Станіслава Альбрэхта знічку цікаўнасці да таямнічага народа на літару «б», з якога паходзіў і ягоны род. Стэсі кінуўся на тую знічку, бы альбатрос на рыбку. Ён скупляў усё, што мела хоць нейкае дачыненне

да страчанага раю продкаў: габелены, бронзу, зброю, парцаляну і асабліва кнігі. У кнігах пісалася пераважна пра матэрыяльнае і бачнае, але з прачытанага Радзівіл зрабіў нечаканае адкрыццё: усе беларусы – прыхаваныя пярэваратні.

П'янтосы з местачковых корчмаў, якія перад закалотамі абарочваюцца дужымі вершнікамі з анёльскімі крыламі. Савецкія міліцыянты, якія імгненна перакідаюцца ў хаўруснікаў нацыстаў, а потым зацята ваююць і супраць іх. Старэчы ў плюшавых душагрэйках, якія запраста выпіваюць з гіганцкімі крумкачамі – няйнакш як пасланцамі апраметнай…

Заставалася высветліць, у які менавіта спосаб можна атрымаць пярэваратніцкія здольнасці. Даць рады тут мог хіба што асабісты сакратар родам з Нясвіжа, якога Станіслаў Альбрэхт наняў тыдзень таму і якога лічыў сваім найкаштоўнейшым здабыткам.

Стэсі дбайна зачасаў ільсняныя залысіны, прыгладзіў парадзелыя вусы мача-перастарка і пацягнуў шнурок над сталом. Блямкнуў званочак, і ў прыадчыненыя дзверы зазірнуў пякучы неапалітанскі брунет з булькатымі вачыма.

– Містар Шапіра, вы дазналіся пра тое, што я вас прасіў? – падкрэслена роўна пацікавіўся Станіслаў Альбрэхт.

– Не толькі дазнаўся, але ўжо і зрабіў. Эйн момент, містар князь!..

Праз якую хвіліну містар Шапіра ўрачыста паставіў на стол спод старажытнага срэбра. Кашлянуў, падміргнуў і жэстам правінцыйнага фокусніка прыўзняў накрыўку з радзівілаўскім гербам.

У твар Станіслава Альбрэхта шугануў густы сыты водар. Ён прымружыўся, аглядаючы бурштынавыя круглякі, палітыя празрыстым ружовым салам і пасыпаныя габлюшкай залацістай цыбулі. Падчапіў відэльцам адзін кругляк, панюхаў, надкусіў і асцярожна разжаваў…

Містар Шапіра напружана сачыў за кожным рухам радзівілавых сківіц.

– Што скажаце, містар князь?

Станіслаў Альбрэхт дажаваў, праглынуў, прыслухаўся да адчуванняў у страўніку, у грудзіне і ў галаве… І энергічна пацэліў відэльцам у наступны.

– Гэта лепш за «МакДональдс», містар Шапіра, – стрымана ацаніў ён.

– Усяго толькі за «МакДональдс»? – з местачковай непасрэднасцю завібраваў сакратар. – Ды гэта нават круцей за сэкс, наркотыкі і рок-н-рол, разам узятыя!

Стэсі і сам разумеў, што круцей, але не хацеў выдаваць сакратару найгалоўнейшую таямніцу. На манхэтэнскім даху, перад сеансам выклікання дажджу ў далёкім Тэхасе, вядзьмарка акурат і выпякала дранікі – і, відавочна, не столькі з кулінарнымі, колькі з рытуальнымі мэтамі. Магчыма, спажыванне гэтай стравы было адным са шляхоў да чараўніцтва?

– Скажыце, містар Шапіра, а яўрэі з Нясвіжа таксама ядуць дранікі? – Радзівіл не сумняваўся, што й юдэі маюць прыродную схільнасць да змены аблíччаў.

– Яшчэ як ядуць! – замасліўся тварам сакратар. – У нас яны называюцца латкес. Сам Прарок Маісей, калі выводзіў яўрэяў з егіпецкага палону, сорак гадоў карміў нас у пустэльні выключна імі!

– А як вы думаеце, містар Шапіра, мае далёкія продкі, якія валодалі Нясвіжам і ваколіцамі, таксама любілі дранікі? – утыркнулася наступнае пытанне.

– Ды я ў гэтым проста ўпэўнены! – горача засведчыў суразмоўца. – А то як бы яны перамаглі столькі ворагаў?

– А вось я не ўпэўнены, – Станіслаў Альбрэхт адклаў відэлец і зафіксаваў уваччу суворасць. – Гэтую страву робяць з дранай бульбы… ці не так?

А бульбы тады не было ані ў Егіпце, ані ў Юдэі, ані ў Вялікім Княстве. Яе завезлі туды з Новага Свету, і гэта агульнавядомы гістарычны факт, зафіксаваны навукоўцамі. Што скажаце, містар Шапіра?

– Бульба ў Нясвіжы ў прыватнасці і ў нашых краях агулам была ад таго моманту, як усё гэта стварыў Б-г, – пабожна засведчыў сакратар. – Менавіта з Нясвіжа тую бульбу і завезлі ў Новы Свет, а ўжо потым рээкспартавалі ў Еўропу. Проста тым навукоўцам дабрэнна заплацілі ў «General fruit», каб яны замоўчвалі гэты агульнавядомы гістарычны факт!

Тлумачэнне прагучала забойча. Стэсі расфакусаваў паказальную цвёрдасць твару, з асалодай даеў рытуальную страву продкаў, запаліў цыгару і глянуў на камінную паліцу.

З фатаграфіі белазуба пасміхаўся Джэкі. Унізе звіваўся бісерны аўтограф: «Дзякуючы табе мы перамаглі!». Два гады таму Станіслаў Альбрэхт нечакана для ўсіх узначаліў перадвыбарчы штаб сенатара Кенэдзі і яшчэ больш нечакана выйграў для яго прэзідэнцкія выбары. Стэсі не патрабаваў ніякай узнагароды, хаця сябра сто разоў яму гаварыў: прасі што хочаш!

Радзівіл адчуваў сябра інтуітыўна, на ўзроўні счытвання флюідаў; увесь гэты час Кенэдзі жыў з пачуццём віноватасці. Аднак і прасіць у наймагутнейшага чалавека Злучаных Штатаў, а значыцца, і ўсяго свету, можна было толькі абсалютна невыканальнага. Станіслаў Альбрэхт быў зарыентаваны да ўлады на генетычным узроўні, але толькі цяпер, падчас дэгустацыі дранікаў, ідэя ўладарства нарэшце канкрэтызавалася – разам са слінавыдзяленнем.

ТЛУМАЧЭННЕ ПРАГУЧАЛА ЗАБОЙЧА. СТЭСІ РАСФАКУСАВАЎ ПАКАЗАЛЬНУЮ ЦВЁРДАСЦЬ ТВАРУ, З АСАЛОДАЙ ДАЕЎ РЫТУАЛЬНУЮ СТРАВУ ПРОДКАЎ, ЗАПАЛІЎ ЦЫГАРУ І ГЛЯНУЎ НА КАМІННУЮ ПАЛІЦУ.

Да размовы з Джэкі трэба было падрыхтавацца…

Прэзідэнт нездарма запытаўся пра галівудскіх актарак – у Стэсі была іх цэлая калекцыя. На адну з іх, шыкоўную бляяўку з цэлулоідным тварам, Джон Фіцджэральд ужо даўно паклаў вока, аднак Радзівіл мякка, але ўпэўнена абвяргаў усе просьбы падарыць красуню. Просьбу Кенэдзі варта было выканаць: у такім разе прэзідэнт мусіў бы свайму сябру двойчы.

У той жа дзень Радзівіл запрасіў актрыку павячэраць у рэстарацыі. Ён быў пранікнёны, бы стары бацька перад сконам, і шматзначны, як Нагорная казань. Сказаў пра руціну адносін і састыласць пачуццяў, пра сваю хуткую старасць і жаданне прысвяціць апошнія гады пошукам вечнага. Пасля чаго без хітрыкаў прапанаваў змяніць каханка на маладзейшага, прывабнейшага і ўплывовейшага.

Красуня не надта й здзівілася: яна добра ведала жорсткі свет заможных альфа-самцоў.

– Тады трахні мяне на развітанне і забудзься, – ласкава змахнула яна нафарбаванымі вейкамі. – Калі толькі здолееш.

* * *

– Арончык, можаш плюнуць мне на чаравік, калі я не ведаю, як зарабіць мільён даляраў! – Шлёма Шапіра сек рукою паветра, бы шабельнік Мікалая Радзівіла Рудога – ворагаў.

Арон Шапіра, зверападобны бамбіза ў зашмальцаваным камбінезоне, лыпаў на Шлёму з пашанай. Ва ўяўленні бруклінскага грузчыка яго старэйшы брат быў джэнтльменам, хаця

сам Арон наўрад ці мог напісаць гэтае слова без памылак.

Размова адбывалася позна ўвечары, за панурай складской стадолай. Дрыготкае святло ліхтароў крышылася ў каламуцці калюжын. Каты вішчэлі і біліся каля смеццевых бакаў. Шлёма разгортваў перад братам бліскучую мільянерскую стратэгію, і вочы яго блішчэлі надзеяй.

– Арончык, ты ведаеш, што такое дранікі?

– Нешта знаёмае…

– І з якім жа шлімазлам я звязаўся!.. Ну а што такое латкес – ведаеш?

– Анягож не!.. – на шырокім бульдожым твары Арона праявіўся сантымент – нібы ён прыгадаў хэдар, Хануку і першы гешэфт у нясвіжскае лаўцы дзядзькі Ёселя.

– Дык гэта амаль адно і тое ж! Дранікі – гэта такія латкес, толькі крышачку няправільныя, бо без перамеленай у муку мацы. Сёння я частаваў дранікамі самога містара князя Радзівіла – найлепшага сябра прэзідэнта Кенэдзі. І ты ведаеш, што ён сказаў? Што гэта значна лепш за «МакДональдс». Хаця ў мяне тут іншая шкала каштоўнасцяў… А цяпер, Арончык, слухай сюды. Гамбургер у братоў МакДональдаў каштуе цэлых пятнаццаць цэнтаў, а мы будзем прадаваць дранікі ўсяго па дзевяць цэнтаў за пару!

– Ты што – хочаш распачаць уласны бізнэс? – нарэшце дайшло да Арона.

– Так! Менавіта ўласны! І нашых нясвіжскіх дранікаў відавочна бракуе Злучаным Штатам! Самае для іх то!

– Але ж трэба гро…

– Пазычу ў свайго сябра і містара князя!..

Сіверны вецер шаргацеў гурбамі смецця. Арон хукаў у змёрзлыя далоні, пакрытыя пралетарскімі цыпкамі. За аўтастаянкай штучным золатам адлівала неонавая «М» – эмблема будучых канкурэнтаў.

– Галоўнае ў бізнэсе – трапная назва, – падсумаваў радзівілаўскі сакратар. – Ведаеш, як мы назавём наш фаст-фуд? «Шапіто». «Шапіра і то». Згодны?..

**Глава 8**

Халодныя прамяні наскрозь праціналі алейкі старасвецкага парку. Муры былога замка князёў Радзівілаў блякла залаціліся за абляцелымі дрэвамі. Бліскучае павуцінне раскрэслівала жоўта-сінія краявіды. Кастрычнік заканчваўся.

Вікенцій Дамінікавіч нетаропка прайшоўся замкавым мастком пад аблушчаную браму з шыльдай «Санаторый Нясвіж» і апынуўся ў двары. Даміношнікі ў паліто, накінутых паверх казённых піжам, густа абляплялі лаўкі. У альтанцы драмалі пенсіянеры – празрыстыя і нягеглыя, нібы душы з таго свету. Ладныя маладыя медсёстры сарамліва палілі ў закутку.

Камітэтчык паглядаў на санаторную публіку амаль зайздросна. У жыцці тых людзей не было ані бязвесна зніклых амерыканскіх парашутыстаў, ані падступных антысавецкіх вядзьмарак, ані хцівых монстраў-гвалтаўнікоў…

Ані размовы, якая чакала начальніка нясвіжскага райаддзела па хуткім часе.

– Маёр Пяткевіч? – цыбаты дзядзька з невыразным шэрым тварам нібы матэрыялізаваўся ў паветры. – Вашы дакументы.

Вікенцій Дамінікавіч паслухмяна разгарнуў службовае пасведчанне, але ў рукі, як і належыць па інструкцыі, не даў. Цыбаты вывучыў дакумент недаверлівым вокам вахцёра, паказаў кароткім позіркам на непрыкметныя дзверы.

Казённы калідор, пераход, яшчэ адзін калідор, непрыкметны закуток, масіўныя краты з засаўкай, скрыгат ключа – і доўгія цёмныя сходы ўніз, якія ўпіраліся ў чарговыя дзверы, гэтым разам браняваныя, з бліскучым сейфавым штурвалам і кнопкамі кодавага

замка, бы ў Дзяржбанку СССР. Цыбаты позіркам зарыентаваў Вікенція Дамінікавіча тварам назад, адшчоўкаў сакрэтнае спалучэнне лічбаў, колькі разоў пракруціў штурвал…

Даўжэзная галерэя была пракладзеная няйнакш як гадоў трыста таму і йшла, пэўна, кудысь пад абарончыя валы. Па цагляных скляпеннях звіваліся чорныя кабелі. Па-над шэрагам турэмнага выгляду дзвярэй блякла свяціліся лямпы ў закратаваных шкляных цыліндрах. Цыбаты прыадчыніў перад Пяткевічам дзверы з шыльдай «Бункер №2».

– Доктар Паўлаў. Маеце пятнаццаць хвілін.

Бункер выглядаў нечым сярэднім паміж кабінетам у ваенкамаце і анатамічнай залай Кунсткамеры: забраныя ў шкло інструкцыі па сценах, колбы з заспіртаванымі чалавечымі эмбрыёнамі ў стэлажах… Хіба што паветра патыхала, рыхтык у заапарку: складанае асарці са смуроду звярыных экскрэментаў, ядучай хлёркі і водару свежага пілавання. Начальнік нясвіжскага райаддзела пашукаў вачыма партрэт Дзяржынскага, каб параіцца з ім у думках, але, на жаль, не знайшоў.

За канцылярскім сталом з друкаркай сядзела сціплая маладзіца з тварам узорнай савецкай студэнткі. На белым халаце крывяніўся камсамольскі значок. Пры з’яўленні госця яна нават не зрушыла галаў.

– Пачакай, маёр, – пачуўся з-за фіранкі інтанаваны рэхам голас, і па гэтаму рэху Пяткевіч зразумеў, што за фіранкамі праходзіць яшчэ адзін калідор. – Пакуль не да цябе, заняты.

ВІКЕНЦІЙ ДАМІНІКАВІЧ, НЕПРЫЕМНА ЎРАЖАНЫ ЗВАРОТАМ НА «ТЫ», ДАЎНО ЎЖО НЕ ПРЫНЯТЫМ У КАМІТЭЦЕ МІЖ НЕЗНАЁМЫМІ, ПРЫСЕЎ НА МЕДЫЧНУЮ КУШЭТКУ.

Дзявуля за сталом запаўняла нейкія бланкі і абсалютна не зважала на госця. У гулкай цішыні вібравала напруга – амаль нячутная, бы дзіньканне малярыйнага камара, але такая ж небяспечная.

З-за фіранкі данеслася густое басавітае скавытанне, і нялюдскі голас у пачварна нізкім рэгістры абвесціў:

– У-у-у!.. Чэкісты – узброены атрад партыі!..

Фіранка зварухнулася, бы тэатральная заслона. Доктар Паўлаў – худы і жвавы, як чорт, з жоўтым пажмяканым тварам і шклянымі неўрастэнічнымі вочкамі, – паклаў на стол магнітафонную бабіну.

– Кацюша, тэрмінова расшыфраваць і падрабязна занесці ў журнал назіранняў, у трох асобніках, грыф сакрэтнасці «два нулі», – доктар нервова пачухаў шчаку. – З ідэйна-выхаваўчым узроўнем у нас ужо значна лепш. А вось над інтэлектам яшчэ працаваць і працаваць… Трэба тэрмінова пашыраць слоўнікавы запас і падвышаць градус амаральнасці.

Памочніца моўчкі змахнула бабіну ў шуфляду. Уладар падзямелляў непрыязна глянуў на госця – маўляў, выкладай прэтэнзіі, калі ўжо прыйшоў.

Маналог Пяткевіча быў лаканічным і змястоўным. У ім фігуравалі затэрарызаваныя савецкія грамадзяне і згвалтаваныя калгасныя бугаі, скрадзеныя ў ветэранаў узнагароды і сарданыя расцяжкі з савецкімі лозунгамі, а таксама цынічныя надпісы на сценах кароўнікаў, фекаліі на прыступках нясвіжскага КГБ і сённяшняе тэлефанаванне ажно з Лубянкі, згодна з якім начальніку райаддзела і належала прыбыць у санаторый «Нясвіж» для атрымання дадатковай інфармацыі.

– Нешта не разумею, маёр: а прычым тут я? – доктар Паўлаў глянуў на Вікенція Дамінікавіча, бы на чамяру. – У нас рэжымная лабараторыя. Існуе яшчэ з тых часоў, калі тут месціўся

санаторый Міністэрства Дзяржаўнай Бяспекі Саюза ССР. Чым мы тут займаемся – не твайго розуму справа, табе пра нас увогуле ведаць не трэба. Можа, ты хочаш сказаць, што гэта я па начах гвалчу вашых калгасных Чапаевых, а Кацюша сера на прыступкі твайго райаддзела?

– Згодна са шматлікімі агентурнымі паведамленнямі, у Нясвіжы вось ужо другі месяц арудуе нявызначаная пачвара, – падкрэслена афіцыйным тонам мовіў Пяткевіч. – У выніку комплексных аператыўна-чэкісцкіх мерапрыемстваў стала вядома, што санаторый «Нясвіж» – найбольш верагодная схованка гэтай небяспечнай для савецкіх грамадзян істоты. Цэнтральнае кіраўніцтва паведаміла, што ўсю дадатковую інфармацыю я атрым…

– Савецкая армія – самая моцная ў свеце!.. – пераможна зараўло з-за фіранкі. – Пілотку хачу!..

Пяткевіч выразна глянуў на суразмоўцу.

– Хіба самі не чулі?..

– Я? – паказальна здзівіўся гаспадар лабараторыі. – Не чуў. Можа ты, Кацюша, нешта чула?

– Нічога не чула, таварыш палкоўнік медычнай службы, – адчужана прамовіла лабарантка, не адрываючы вачэй ад запісаў.

Вікенцій Дамінікавіч адчуў на вуснах раптоўны прысмак лайна, але ж дысцыплінавана прамаўчаў. Гаспадар бункера ўзяў са стала малаточак, якім неўрапатолагі правяраюць рэфлексы, правёў ім у паветры ўправаўлева перад тварам Пяткевіча.

– Вочы рэагуюць правільна, – з халодным задавальненнем засведчыў доктар Паўлаў і лоўка стукнуў госця па каленцы. – Ат!.. Ты глядзі – і тут рэфлексы ўсё ў норме… Напэўна, п’еш замнога. Вось і мрояцца розныя чэрці…Запомні раз і назаўсёды: мы вашаму сранаму нясвіжскаму райаддзелу не падпарадкоўваемся. Так што не зарывайся, маёр, не лезь у чужыя справы… Бугая ў калгасе «Чырвона шлях» згвалцілі нацыяналістычныя недабіткі, а на ваш ганак мясцовыя дысідэнты навалялі. Усё ўцяміў?

– Але, таварыш палкоўнік медычнай службы, згодна з зацверджанымі інстру…

– І ўвогуле, нешта дзіўнае ў цябе для чэкіста імя: Вікенцій Дамінікавіч, – перапыніў доктар Паўлаў з ласкавымі інтанацыямі следчага НКВД, – не нашае яно нейкае, не рускае… Белапалякаў сярод сваякоў не было?

– А вось Фелікс Эдмундавіч вашага пытання напэўна не ўхваліў бы! – Пяткевіч скіраваўся да дзверы. – Усяго добрага…

З-за тканіны пачулася рытмічнае гупанне, на якое наклалася жывёльнае:

– Э-э-э… Доктар-шкоднік!.. Бабу падай!...

Палкоўнік медычнай службы шчыльна зачыніў за госцем дзверы, прымружыўся на фіранку і ласкава пасміхнуўся нябачнаму хціўцу.

– Дрочыць і дрочыць, Кацюша, дрочыць і дрочыць. І выпускаць яго ў горад бліжэйшым часам не выпадае, пакуль усё не сцішыцца… Скажы мне шчыра, як камсамолка – камуністу: табе нашага хлопца не шкада?..

**Глава 9**

– …такім чынам, містар прэзідэнт, першае лістапада 1961 года стане апошнім днём існавання рэжыму Фідэля Кастра, – Ален Далес дзелавіта бліснуў акулярамі. – Праз дванаццаць гадзін наша кубінская агентура распачынае глабальныя дыверсіі на аб’ектах энергетыкі. Базы супрацьпаветранай абароны будуць абястočаныя, і В-52 беспакарана нанясуць масаваныя ўдары па стратэгічных цэлях. Пасля чаго пачнецца маштабная высадка марской пяхоты…

Размова дырэктара ЦРУ з прэзідэнтам ЗША адбывалася ў шпітальнай палаце, куды Кенэдзі даставілі

самалётам з вечарынкі ва Флорыдзе. Дыягназу не ведаў нават усёмагутны Ален Далес: інфарматары паведамлялі то пра дэпрэсію, то пра гіпертанічны крыз, то пра незвычайную форму трапічнай ганарэі.

Джон Фіцджэральд Кенэдзі нерухомеў у ложку. Твар яго выглядаў змарнелым і засяроджаным. Прэзідэнт слухаў госця з узважанай павагай, раз-пораз паглядаючы на вялізны зорна-паласаты сцяг на сцяне.

– Як мы растлумачым нашым грамадзянам прычыну вайны? – ціха і роўна ўдакладніў Кенэдзі.

Дырэктар ЦРУ раздражнёна паварушыў пальцамі, нібы адганяў надакучлівую муху.

– Гэта дробная тэхнічная акалічнасць, містар прэзідэнт. Варыянтаў процьма. Забойства агентамі Кастра нашых дыпламатаў. Абстрэл кубінцамі базы ў Гуантанама. Тэрарыстычны акт у Нью-Ёрку, арганізаваны імі ж. Агентура ў нас дасведчаная, у разе патрэбы яна здольная зымітаваць нават замах на вашае жыццё.

– Колькі будзе каштаваць нам гэтае ўварванне?

Далас назваў лічбу ў палову гадавога бюджэту Пентагона.

– Але пры гэтым і мы, і вайскоўцы гарантуем стоадсоткавы вынік, – аптымістычна дадаў ён.

– Меркаваныя ахвяры з нашага боку?

– Ад тысячы да трох тысяч чалавек забітымі. Звязаныя з гэтым выдаткі ўжо ўключаныя ў наш каштарыс, – спецслужбоўца працягнуў стос папер. – Містар прэзідэнт, дык вы санкцыянуеце высадку?

Зорна-паласаты сцяг зварухнуўся, ледзь заўважна надзьмуўся з сярэдзіны, што ўскосна засведчыла: за тканінай напэўна нешта хаваецца. Кенэдзі глянуў на дзяржаўны сімвал з нечаканым сантыментам, і гэта было ўспрынятая Далесам, як безумоўны знак згоды.

– Не санкцыяную, – мовіў прэзідэнт спакойна і цвёрда. – У вашым плане, містар Далес, мне не падабаецца абсалютна ўсё. Мне не падабаецца, што на Кубе нам давядзецца пакласці процьму людзей: Амерыка яшчэ не ачомалася ад войнаў у Еўропе і ў Карэі. Мне не падабаецца, як вы збіраецеся тлумачыць амерыканцам прычыну агрэсіі: гэта класічныя метады КГБ. У рэшце рэшт, мне не падабаюцца шалёныя выдаткі на гэтую авантуру…

Ален Далес прыклаў далонь да грудзіны, нервова хрубаснуў пальцамі і раптоўна закашляўся – нібы атрымаў удар у сонечнае спляценне.

Цэлых два месяцы нябачная армія агентаў, аналітыкаў, экспертаў, лагістаў і штабістаў наладжвала гіганцкі механізм уварвання, шчодра змазаны хабарамі вайскова-прамысловых карпарацый. Бамбардаванне Кубы і далейшая інтэрвенцыя даўно кругліліся ў мозгу спецслужбоўцы ладным гарматным ядром як справа вырашаная. Ён ні хвіліны не сумняваўся, што згода Кенэдзі – звычайная фармальнасць, а ва ўмовах прэзідэнцкай хваробы і пагатоў. Гарматнае ядро шпокнула і распусцілася ў паветры вясёлкавай бурбалкай, а разам з ім – сотні тысяч даляраў, якія дырэктар ЦРУ ўжо лічыў сваімі.

– Пэўна, у вас ёсць іншае вырашэнне кубінскай праблемы, містар прэзідэнт? – драўляным голасам пацікавіўся Далес.

Зоркі і палосы на сцяне зварухнуліся зноў. З-за сцяга нягучна і выразна

ЗОРНА-ПАЛАСАТЫ СЦЯГ ЗВАРУХНУЎСЯ, ЛЕДЗЬ ЗАЎВАЖНА НАДЗЬМУЎСЯ З СЯРЭДЗІНЫ, ШТО ЎСКОСНА ЗАСВЕДЧЫЛА: ЗА ТКАНІНАЙ НАПЭЎНА НЕШТА ХАВАЕЦЦА.

шчоўкнуў метал: ці то дзверца бара, ці то пісталетны затвор. Цэзрушнік сцяўся. Прэзідэнт пасміхнуўся.

– Стэнаграфіст, – патлумачыў ён. – Канспектуе для гісторыі.

Тлумачэнне прагучала непераканаўча. Ведаючы стыль і характар Кенэдзі, сведкам звышсакрэтных перамоў мог стаць хто заўгодна, ад далай-ламы да Элвіса Прэслі. Кантужаны мозг цээрушніка, аднак, адмаўляўся аналізаваць магчымы сюррэалізм сітуацыі.

– То як мы будзем вырашаць кубінскае пытанне? – паўтарыў Далес з напругай.

– У пытанні ёсць яшчэ адзін складнік, на які вы забыліся: Саветы, – далікатна нагадаў прэзідэнт. – Міжкантынентальныя ракеты, атамныя субмарыны, голас у Радзе Бяспекі ААН. Але ў Крамлі не пралічылі галоўнага. Кубінскія рэвалюцыянеры сапраўды ненавідзяць амерыканскую дэмакратыю. Аднак хто сказаў, што яны так жа сама ненавідзяць і іншыя амерыканскія каштоўнасці?

– Вы хочаце прапанаваць ім… менавіта што? – празектарскія лінзы цээрушніка бліснулі разгублена.

– Тое, ад чаго яны ніколі не змогуць адмовіцца, – свабоду выбару. І гэта толькі першая частка плана. Усе падрабязнасці вы дазнаецеся не пазней за сёмага лістапада. А цяпер, містар Далес, выбачайце, мне трэба працягваць курс інтэнсіўнай тэрапіі!..

Дырэктар ЦРУ, фіксуючы ў галаве поўны хаос, пасунуўся на выхад. Ужо каля дзвярэй ён пачуў:

– Прабачце, містар Далес, зусім забыўся… А што з тым фермерам-фашыстам з Фларыды, маім патэнцыйным забойцам?

– Вы пра Агента Z? Заўчора ён разам з двума такімі ж мярзотнікамі дэсантаваўся на тэрыторыю Савецкай Беларусі, у раёне Нясвіжа. Яго спадарожнікі адразу загінулі ў перастрэлцы з КГБ; мы пісьменна злілі інфармацыю на Лубянку. А вось з Агентам Z мы вырашылі падстрахавацца: ягоны парашут чамусь не раскрыўся. Імаверна, ён патануў у тамтэйшым балоце. Папраўляйцеся, містар прэзідэнт!..

Джэкі праводзіў госця стомленым поглядам, падняўся з ложка, двойчы пракруціў у дзвярах ключ. Пасміхнуўся, выпрастаўся, прыгладзіў фрызуру і пасунуўся да сцяга.

– Коцік, ты ўжо скончыў? – данеслася з-за зорак і палосаў.

Дзяржаўны сімвал маскаваў ладны пакойчык: два фатэлі са столікам, бар і алькоў з ложкам-авіяносцам. На ложку раскашавала бляўка прэміяльнай мадэлі ў моднай стылістыцы pin-up girl. Паўпразрысты міні-пеньюар падкрэсліваў вабнасць сцёгнаў. У нясціплым дэкальтэ мяцежна ўздымаліся цыцкі. Вочы праменіліся цэлулоіднай пяшчотай.

Мэрылін Манро стала наступным пасля прэзідэнцтва падарункам, які Стэсі Радзівіл зрабіў свайму сябру. Да падарунка дадавалася доўгачаканая просьба. Просьба выглядала абсалютна невыканальнай – але толькі на першы погляд.

Дасведчаны бізнэсоўца пакрокава распісаў, як ператварыць сваю вялікую патаемную мару ў рэальнасць і колькі гэта будзе каштаваць. Канчатковы вынік, пры суадносным мінімуме вытрат, абяцаў безумоўную перамогу ў халоднай вайне, паразку камуністычнай ідэалогіі, а ў перспектыве – і развал СССР.

На тле радзівілаўскай распрацоўкі, бліскучай і крэатыўнай, план Далеса выглядаў цыдулкай двоечніка са школы для дэфектыўных, а сам дырэктар ЦРУ з ягонай маніякальнай любоўю да вайсковых інтэрвенцый – безнадзейным рэтраградам.

Мэрылін Манро прыпаліла цыгарэту ў доўгім цёмным муштуку – у пакойчыку патыхнула характэрным салодкім водарам.

– Коцік, ідэалагічная парадыгма сучаснай амерыканскай геапалітыкі мусіць палягаць не ў мілітарным дыскурсе, а ў прасоўванні сімвалаў вольнага свету: сэксу, наркотыкаў і рок-н-ролу, – бяляўка пасела на ложак і сарамліва рассунула каленкі, нібы малюск – створкі ракаўкі. – А містар Далес – звычайны алдскульны підар, які ўспрымае сваю хваробу за месіянства… Касяк пыхнеш?..

**Глава 10**

Піянерскі горн прадудзеў кароткі сігнал і зрэзаўся на ўзнёслай высокай ноце. Рассыпістым пошчакам шугануў барабан. Пералівістыя вібрацыі рэзанулі па вушах, пругкім рэхам адбіліся ў вітрынах школьнага Музея баявой славы. Дзеткі ў чырвоных гальштуках на адпрасаванай форме ўскінулі рукі ў прывітальным салюце і застылі ў чаканні.

Чаканне зацягвалася. Піянеры з прыўзнятымі рукамі шклянелі вачыма і камянелі паставамі, бы статуі ў Парку Культуры. Узнікла прыгнечаная напруга, якая звычайна здараецца на афіцыйным пахаванні, калі народ ужо сабраўся, а труну ўсё не выносяць.

Патрыятычную цішу працялі шоргат тканіны, сыры пляскат па голым целе і аргазмічны стогн, на які наклаўся нервовы барытон: «Ад'ябіся, Клава! Да сваіх ананістаў лепш ідзі!..» Інтымныя гукі і нецэнзурныя пажаданні даносіліся з-за вялізнага стэнда з вывай ордэна Вялікай Айчынай вайны.

ПІЯНЕРЫ З ПРЫЎЗНЯТЫМІ РУКАМІ ШКЛЯНЕЛІ ВАЧЫМА І КАМЯНЕЛІ ПАСТАВАМІ, БЫ СТАТУІ Ў ПАРКУ КУЛЬТУРЫ.

Старэйшыя піянеры фыркнулі стрыманым смехам. Малодшыя няўцямна закруцілі галовамі.

Спярша з-за стэнда гарматнымі ядрамі выплылі цыцкі, абцягнутыя белай карункавай блузкай з піянерскім гальштукам. Потым – іх уладальніца, пераспелая дзеўка з салодкімі вішнёвымі вачыма. Апошняй з'явілася ёйная дупа, якая аб'ёмам і вагою ўраўнаважвала бюст. Цыцкатая паспешліва абцягнула спадніцу, спахапілася, выцягнула з-за стэнда чырвоны сцяг на аблупленым дрэўцы і ўрачыста прыўзняла яго па-над галавою.

Дзяўчынка з шыкоўнымі белымі бантамі адрапартавала ўзнёсла і звонка:

– Таварыш старшая піянерважатая, зводны піянерскі атрад «Юныя мсціўцы» на сустрэчу з ветэранам пашнураваны!..

– Урачыстую лінейку, прысвечаную подзвігу савецкага народа ў Вялікай Айчынай вайне, аб'яўляю адкрытай! – паінфармаваў інтанаваны сублімацыяй голас. – Піянеры, да барацьбы за справу Камуністычнай партыі будзьце гатовыя!

Малодшыя дзеткі паперадзе механічна загундзелі прывітанне. Старэйшыя хлопцы, якія групаваліся за плакатам з Маці-Радзімай, прапякалі надзьмутую блузку гарманальнымі позіркамі і бессаромным шэптам адпускалі рэплікі наконт гатоўнасці самой піянерважатай.

– А цяпер, дзеці, перад намі выступіць наш улюбёны настаўнік моладзі, стваральнік музея Баявой славы таварыш Мамонька. Ён раскажа пра свае партызанскія подзвігі, пасля чаго мы арганізавана ідзём ускладаць вяночкі да магілы Невядомага салдата, – голасам вучонага шпака абвесціла піянерважатая. – Калі ласка, Іосіф Вацлававіч!..

Мамонька цырыманіяльна выйшаў з-за стэнда, бліснуў медалькай «Партызану Айчынай вайны» на модным пінжаку і пачухаў свежы засос на шыі. Дзяўчынка з бантамі паднесла ветэрану раскошны букет ружаў.

– Маё баявое юнацтва прайшло ў абпаленых вайною партызанскіх

лясах, – мовіў Іосіф Вацлававіч з завучана пафаснымі інтанацыямі. – Мы бязлітасна білі гітлераўцаў і іх халуёў-нацыяналістаў за вашую шчаслівую будучыню. Колькі разоў я быў усяго за крок ад смерці! Колькі разоў на мяне палявала гестапа! А ўсё для таго, каб вы маглі стаяць на гэтай піянерскай лінейцы, а лепшыя з вас потым патрапілі ў лагеры… я пра піянерскія лагеры. Памятайце, дзеці, што кожны піянер – будучы салдат. А кожны салдат мусіць быць гатовым пад пошчак барабанаў і покліч трубаў пакласці сваё жыццё за нашу савецкую Радзіму!..

У вачах малодшых дзетак запаліліся ўзнёслыя гвардзейскія агеньчыкі:

– Заўсёды гатовыя!..

На падлогу шротам сыпанулі гузікі – блузка на цыцках піянерважатай разышлася. Ліфчыка пад блузкай не было; малочныя залозы бессаромнымі гарбузамі вываліся вонкі. Дзяўчаткі з'едліва захіхікалі, а хлопцы выказалі цынічнае спадзяванне пабачаць не толькі другасныя палавыя прыкметы піянерважатай, але й першасныя.

Маладзіца прыкрыла цыцкі чырвоным гальштукам і рэзанула па дзетках позіркам Пракурора Саюза ССР – хуліганы ўдавіліся смехам і сцішыліся. Былога партызана з захапленнем слухалі адно ўзнёслыя і лупатыя.

– А цяпер, піянеры, я хачу зрабіць вам падарунак! – пасміхнуўся Іосіф Вацлававіч і выцягнуў з унутранай кішэні пінжака зашмальцаванага плюшавага мядзведзіка з адарванай лапай. – Мой лепшы сябра, Марат Казей, які паклаў сваё маладое жыццё за нашу перамогу, падарыў мне яго перад тым, як пайсці на апошняе баявое заданне. Карыстаючыся нагодаю, я перадаю гэтую свяшчэнную рэліквію ў наш Музей баявой славы…

– А чаму ў мішкі лапа адарваная? – спагадліва пацікавілася дзяўчынка са святочнымі бантамі. – Яго, напэўна, фашысты катавалі?

Мамонька няпэўна развёў рукамі.

– А давайце прымем яго ў ганаровыя піянеры! – прапанавала дзяўчынка.

– Марат Казей ужо паклаў маладое жыццё за…

– Я пра мішку!..

Піянерважатая і ветэран перазірнуліся – ініцыятыва не была ўзгодненая папярэдне. Але ўрачыста задудзеў горн, сыпанулі шротам барабаны, і дзяўчынка дрыготкімі рукамі ўзялася навязваць на цацку кумачовы трохкутнік.

У гэты момант Мамонька адчуў на сабе калючы чужынскі позірк. Памуліўся, пакруціў галавою і спыніў вочы на закутку каля вітрыны з пражаўленымі гільзамі і прабітымі каскамі.

У ветэрана адбыўся стоп-кадр. Дыханне, пульс і час імгнення спыніліся. Вочы застылі пластмасавымі гузікамі. У гэтых гузіках двойчы адбіўся вылеплены ценямі твар: высокі пукаты лоб, валявое падбароддзе з гранёнай, бы ад цвіка, ямінкай і хітраватыя сялянскія вочы…

– Як жа я рады цябе бачыць жывым і здаровым! – госць нетаропка выплыў з паўцемры, рыпнуў бліскучымі ботамі і з нечаканай добразычлівасць раскінуў рукі.

Іосіф Вацлававіч адступіў, сцяўся і заазіраўся, каб уцякаць на злом галавы, але, апынуўшыся ў жалезных абдымках і адчуўшы спінай вастрыё фінкі, вырашыў не супраціўляцца.

– Што ж ты, таварыш Мамонька, не вітаеш старога партызанскага сябра? – пацікавіўся мужчына ласкава і небяспечна.

– Значыцца, ты… не загінуў у Рудніцкай пушчы, у студзені сорак пятага? – прапхнуў таварыш Мамонька праз наждачнае горла.

– Гэтая здагадка надае гонару твайму розуму, – канстатаваў мужчына.

З'яўленне дзіўнага госця брутальна ламіла зацверджаны сцэнар.

Піянерважатая недаверліва касавурылася хай сабе і на мамонькаўскага знаёмца, але безумоўнага парушальніка пратаколу. Малодшыя дзеткі паглядалі на раптоўнае свята партызанскай сустрэчы з раскрытымі ратамі. Старэйшыя нарэшце адліплі вачыма ад дзівосных буфероў.

Дзяўчынка з бантамі па ўсёй форме адсалютавала незнаёмцу і з падкрэсленай павагай удакладніла:

– А вы таксама ўдзельнік партызанскага руху?

– Самага што ні на ёсць партызанскага!

– А вы з фашысцкімі карнікамі ваявалі?

– Карнікі, з якімі мне давялося ваяваць, былі яшчэ горш за фашыстаў.

– Ад імя нашай піянерскай арганізацыі сардэчна вітаю вас на нашай лінейцы! – дзяўчынка паднесла госцю шыкоўны букет ружаў. – Дазвольце прыняць вас у ганаровыя піянеры!..

Тым часам піянерважатая нарэшце вызначылася з выхаваўчай значнасцю моманту. Яна пасміхнулася незнаёмцу крыху больш прыязна, чым вымагаў афіцыёз і глянула на дзетак добрымі вачыма савецкага педагога.

– Дзеці, а давайце скажам нашым паважаным ветэранам, кім мы хочам стаць, калі вырасцем?!..

– Юрыямі Гагарынамі і Фідэлямі Кастра! – радасна адрапартавалі маленькія беларусы.

– Усё, лінейка скончаная, хуценька ідзем у двор, і – вяночак на магілу ўскладаць, – цыцкатая бесцырымонна скамкала ўрачыстае мерапрыемства. – А таварышы ветэраны хай баявое юнацтва пазгадваюць. Ім напэўна ёсць пра што пагаварыць!..

Дзеткі па-салдацку спрытна пашнураваліся і зацягнулі «Узвейцесь кастрамі!..» Сыходзячы, піянерважатая як бы выпадкова датыкнулася да пляча незнаёмца бюстам і, дэманстратыўна не развітваючыся з Мамонькам, знікла за дзвярыма.

* * *

– …і раскажу, як усё было насамрэч. Толькі не забівай!.. – Мамонька аблізаў засмяглыя вусны і аддана глянуў на госця, дэманструючы гатоўнасць хоць сесці на кол, хоць кінуцца на амбразуру.

У музеі лунаў водар ружаў – цяжкі і задушлівы, бы ў развітальнай залі крэматорыя. Шызы лістападаўскі вечар наплываў праз акно. Язэп Мамонька сядзеў у фатэлі пасярод залы. Ён баяўся нават зварухнуцца, каб незнарок не ўзлаваць страшнага госця. Той, аднак, не выказваў агрэсіі.

– Ніякіх успамінаў, ніякіх мемуараў, – папярэдзіў візіцёр. – Я і так ведаю, што чэкістам нас здаў менавіта ты.

СТУДЗЕНЬ СОРАК ПЯТАГА, РУДНІЦКАЯ ПУШЧА, ЛЮТЫЯ МАРАЗЫ, ЖОЎТАЯ ПОЎНЯ НАД ЧОРНАЙ РАКОЙ І ЛАНЦУГ АЎТАМАТЧЫКАЎ… ТЫ БЫЎ НАШЫМ СУВЯЗНЫМ У ВОРАНАВЕ, ХАЦЯ І ЛІЧЫЎСЯ ЎЖО ЗАСЛУЖАНЫМ САВЕЦКІМ ПАРТЫЗАНАМ.

За два гады да таго я выцягнуў цябе з СД, і ты пакляўся мне татам, маці і магіламі дзядоў-прадзедаў. І мы паверылі табе… на сваю галаву. Тады, у студзені сорак пятага, ты адзін ведаў, дзе мы хаваліся. Скажы толькі адно: нашто ты стаў стукачом?

Мамонька прыніжана шморгнуў носам. Вочы яго бліснулі і згаслі, нібы сілкаваліся ад разраджанага акумулятара.

– Анкета ў мяне моцна запэцканая, я ж да партызанаў у нацыяналістах хадзіў, – мовіў ён, афармляючы аўтабіяграфію ў трагедыю. – Калі б я не падпісаў «супрацоўніцтва з органамі», то напэўна пайшоў бы ў лагер, – паскардзіўся ён, і ягоныя вочы набрынялі празрыстай слязою ахвяры

бальшавізму. – Нам гаварылі, што ты і твае хлопцы здрадзілі Радзіме і папнуліся служыць фашыстам, – дадаў ён у якасці канчатковага апраўдання.

Твар госця выглядаў непранікальным, нібы быў зроблены з супрацьтанкавага надаўбеня. Ён узяў са стала мядзведзіка з навязаным піянерскім гальштукам, павярцеў у руках…

– Ведаеш, Язэпе, як жабракі-круцялі крадуць немаўлятаў проста з калысак? Падмяняюць іх анучнымі лялькамі. А звар'яцелыя бацькі, здараецца, да апошняга не даюць веры, што іх дзіцёнка ўжо няма: лашчаць смярдзючыя згорткі, цалуюць, спяваюць ім калыханкі і называюць сваімі роднымі…

Каламутная шэрань гусцела між музейнымі стэндамі, размывала патрыятычныя дэкарацыі, робячы неадрознымі здымкі герояў і катаў. Мамонька прыдушана сіпеў. Суразмоўца працягваў спакойна і роўна:

– …так і ў нас. Нашу Радзіму скралі прыхадні з Усходу і падмянілі яе сваёй: заснежанай тундрай, расстрэльнымі равамі і штабялямі прамёрзлых трупаў. У кожнага з нашых хлопцаў кагосьці страцілі, закатавалі ці адправілі ў лагер. Мы не хацелі цалаваць чужынскія лахманы і называць іх сваёй Радзімай. Мы хацелі атрымаць зброю і помсціць тым, хто не паспеў у сорак першым уцячы на Усход. Зброю нам паабяцалі прыхадні з Захаду, таму мы і падаліся да іх. Мы не палілі вёскі і не зверствавалі ў канцлагерах. Мы толькі потым зразумелі, што абое рабое: што заходнія прыхадні, што ўсходнія. І засталося нам з хлопцамі адно: выкарыстоўваць першых супраць другіх.

– Твае хлопцы былі фашыстамі, – упарта паўтарыў Мамонька.

– Мае хлопцы былі людзьмі. У якіх былі бацькі, браты з сёстрамі, каханыя і магілы дзядоў-прадзедаў… А яны ўсё гэта кінулі і сышлі ў лес. І ўсе яны дзякуючы твайму даносу загінулі… усе, разумееш?! Нават магілы іх невядомыя. Ды й шукаць тыя магілы няма каму, бо крэўныя тых хлопцаў сканалі ў Казахстане і на Калыме, і магілы іх невядомыя таксама. Так што давядзецца табе за гэта памерці. Тут і цяпер.

Мамонька вырачыў вочы, распяліў рот і цяжка задыхаў. Вусны яго запеніліся слінай. Твар падсохнуў і скурчыўся, бы чэрап старажытнай муміі.

– Як гэта тут і цяпер? – прашаптаў ён недаверліва. – Ты што, хочаш мяне страціць… вось проста так, без следства, суда і адваката?

– Адвакат – гэта такі чалавек, які за грошы стане даводзіць, што ты ні ў чым не вінаваты. А нашто мне гэта трэба, калі я і так ведаю пра тваю віну?

Далонь страшнага госця слізганула ў кішэню, дзе напэўна ляжала зброя. Іосіф Вацлававіч пранізліва ікнуў.

– У Пана Бога вырашыў пагуляць? – заскуголіў ён, прыціскаючы далонькай дрыготкі кадык. – Хто табе даў права мяне забіваць?

– Правы не даюць, – жорстка абсек суразмоўца. – Правы бяруць. Вось ты, Язэпе, узяў сабе права жыць савецкай макрыцай: труціць дзеткам мазгі, удаваць героя і страчыць у КГБ… ты ж і пагэтуль пішаш даносы, праўда? Толькі па начах смокчаш валідол і калоцішся, бо страшна: могуць выкрыць і люта адпомсціць.

СКОНЧЫШ ТЫ РАПТОЎНЫМ ІНСУЛЬТАМ, ЗАСЦАНАЙ ПРАСЦІНАЙ І МОГІЛКАВАЙ ПІРАМІДКАЙ З ЧЫРВОНАЙ ЗОРКАЙ, ЯКАЯ СПАРАХНЕЕ ГАДОЎ ПРАЗ ДЗЕСЯЦЬ ПАСЛЯ ТВАЁЙ СМЕРЦІ.

А я бяру права дапамагчы табе памерці раней, затое па-людску. Пакуль ты сваімі даносамі не знявечыў жыцці яшчэ дзясяткаў людзей. Можаш нават памаліцца перад смерцю… хаця я й не ўпэўнены, што Гасподзь

Бог захоча слухаць чалавека з такой біяграфіяй.

Асуджаны да страты бескасцёвай студзяністай масай перацёк з фатэля на падлогу, грукнуўся каленямі і прыціснуў далонь да грудзей:

– Даруй! Я сапраўды нікога не хацеў закладаць!..

– Але ж закладаў.

– Хочаш – пакаюся прылюдна?..

– Не веру я ў шчырасць прылюднага пакаяння.

– Я ж дзеткам не толькі пра Вялікую Айчынную брашу, але і беларускі буржуазны нацыяналізм прапагандую!.. – прабляяў стукач-ветэран з падкрэслена дысідэнцкімі інтанацыямі.

– Адставіць аператыўнае легендаванне! – металёвым голасам загадаў госць. – Імем нашага Краю і яго народа вы, грамадзянін Мамонька Іосіф Вацлававіч, вызнаны вінаватым у супрацы з маскоўскімі акупантамі, даносах у КГБ і ў саўдзеле ў масавых забойствах. За што і асуджаецеся да смяротнага пакарання. Прысуд канчатковы, абскарджванню не падлягае і мусіць быць выкананы неадкладна.

Мамонька пацягнуў носам, зайшоўся ў кашлі і пырскнуў слязою. Заматляў галавой, уціснуў голаў у плечы і ашклянела ўтаропіўся ў люстраныя боты госця на дывановай дарожцы.

Над галавою хіжа шчоўкнуў метал, але на гэты бязлітасны гук знянацку наклалася далёкае цоканне абцасаў на калідоры; пэўна, піянерважатая Клава ўжо ўсклала з дзеткамі вяночкі і цяпер вярталася з могілак у настаўніцкую.

Іосіф Вацлававіч учарэпіўся пальцамі ў дарожку, сціснуў зубы і сутаргава рвануў дыванок на сябе. Госць, аднак, паспеў ухапіцца рукою за край вітрыны і захаваць раўнавагу, але раптоўнага замяшальніцтва было дастаткова, каб Мамонька зацкаваным пацучком кінуўся да дзвярэй і панічна заторгаў клямку замкнёнага замка.

– Дапамажыце!.. – істэрычна залямантаваў ён. – Ворагі народа забіваюць!..

* * *

Сіні кастрычніцкі вечар сплываў паснулымі нясвіжскімі вуліцамі. Стылае паветра патыхала завялымі клумбамі, дымкамі з комінаў і хмельным водарам апалых яблык. За абляцелымі ліпамі бляклa блішчэлі бляшаныя дахі. У сціпла асветленых вокнах, размытых фіранкамі, сноўдаліся няпэўныя цені.

Агент Z ішоў бязлюдным, наскрозь прамытым горадам, у якім нарадзіўся і ў якім не быў сямнаццаць гадоў. У гэтым горадзе больш не было кіслароду, здарэнняў і жыхароў – толькі пах змярцвелых кветак, цені і дахі. У гэтым горадзе не засталося сяброў – іх усіх расстралялі. Гэты горад больш не быў яму родным.

Але тут пагэтуль жыла жанчына з маркотнымі, бы ў Божай Маці Вастрабрамскай, вачыма. Калісь, у мінулым жыцці, Агент Z быў гатовы пісаць ёй вершы, паліць дзеля яе гарады, шукаць эліксір маладосці і нават паверыць у Бога. Але пачалася вайна, і трэ' было выбіраць: каханне да Яе ці любоў да Радзімы, бо каханне і любоў заўсёды неспалучальныя. А потым было змагарства – бясконцае, бессэнсоўнае і зацятае, нягледзячы на супраціў усяго свету: балотныя выспы, перастрэлкі, аблавы, хваробы, здрады, паразка і эміграцыя. Радзіма засталася ў памяці страчаным раем, і ўсё, здаецца, згубіла сэнс…

Прыцемкі вывелі яго на вуліцу Дзяржынскага, былую Альбяньскую. Цагляны аднапавярховік, аднaчасова падобны да школы і да казармы, быў знаёмы яшчэ з давайны. Ён ведаў кожны каменьчык у двары таго дома і пагэтуль мог сказаць, якім голасам у кожным з пакояў рыпяць-перагукваюцца дзверы. Ён памятаў усе дрэвы

ў тым садзе, бо ў садзе тым яны ўпершыню пацалаваліся і сад той стаў іх Эдэмам.

Доўгая бязлюдная вуліца, падфарбаваная электрычнай жоўцю, выглядала панурай, бы начная алея пахавальнага мемарыялу. Агент Z пераскочыў праз штыкетнік і пад шалёны ёкат сэрца зазірнуў у цёмнае вакно бакавога пакойчыка…

Ён нават не здзівіўся, адразу пабачыўшы знаёмы сілуэт. Яна камянела ў фатэлі тварам да вакна і, здавалася, моўчкі ўглядалася ў цемру. Эмалевыя вочы яе блішчэлі нерухома. У кутку над галавой зіхацеў абраз у срэбнай аправе: пакорлівая лёсу Марыя абдымае немаўля.

Мужчына разгублена адступіў… Грукаць у шыбу, ламіцца ў дзверы, прапаноўваць кінуць усё і ўцякаць з нясвіжскай вуліцы Дзяржынскага ў «Новую Зямлю», што ў Фларыдзе? Але ж і для ўсяго гэтага горада, і для яе

ВЕТЭРАНСКІ ТВАР ПРЫКРЫВАЎ БУКЕТ РУЖАЎ КОЛЕРУ ВЯНОЗНАЙ КРЫВІ. З РЭПРАДУКТАРА ЗА СЦЯНОЮ ВАЖКА ЎДАРЫЛІ КРАМЛЁЎСКІЯ КУРАНТЫ. ЗАПАВОЛЕНЫ ШКЛЯНЫ ЗВОН ПРАКАЦІЎСЯ ПА ПУСТЫННЫХ ПАКОЯХ.

таксама ён быў даўно мёртвым, бы кветка на здранцвелай клумбе.

А з завулка нетаропка выплываў легкавік. Сляпучыя кропкі фар напухлі конусамі і разгарнуліся ў цемры жоўтымі авальнымі пялёсткамі. Агент Z слізгануў за рог дома, уліпнуў у сцяну і асцярожна глянуў вонкі.

Каля дома шарэла афіцыйнага выгляду «волга» з доўгім прутком антэны спецсувязі. Падцягнуты дзядзька ў някідкім стройчыку прыязна развітваўся з кіроўцам.

– Вікенцій Дамінікававіч, машыну падаваць заўтра на рана? – запытаўся той.

– Не трэба, тут да нашага райаддзела пяць хвілін пешкі, – пасажыр «волгі» падняўся на ганак і пракруціў у замку ключ. – Януся, гэта я!..

* * *

Язэп Мамонька нерухомеў у фатэлі пасярод музейнай залы. Шчарбатая поўня заглядала ў акно, і цені шыбаў клаліся на падлогу касымі могілкавымі крыжамі. Ветэранскі твар прыкрываў букет ружаў колеру вянознай крыві.

З рэпрадуктара за сцяною важка ўдарылі крамлёўскія куранты. Запаволены шкляны звон пракаціўся па пустынных пакоях. З апошнім ударам пялёсткі ружы, бы па камандзе, абпаліся долу, агаляючы хіжыя шыпы.

Мамонькаву шыю бязлітасна сціскала пятля з піянерскага гальштука, і ў прыцемках яна выглядала рванай ранай. На чыгунова-сінюшным твары шклянелі невідушчыя вочы. З рота тырчэлі лапы плюшавага мядзведзіка, якога Іосіф Вацлававіч падабраў на сметніку па дарозе на піянерскую лінейку. А побач з медальчыкам «Ветэрану Айчынай вайны» чарнела драбнюткае крумкачынае пёрка, амаль незаўважнае апоўначы на цёмным пінжаку.

# СЯРГЕЙ БАЛАХОНАЎ

## МАТРУНІН ПЕРАВОЗ

*На ціхенькім Дунаю, Дунаю*
*перавоз дзеўка дзяржала, дзяржала.*
*У лузе каліна, цёмна-нявідна,*
*салавейкі не шчабечуць.*

*З беларускай народнай песні*

Трывога шырылася спакваля. Пачалося ўсё з перуна, што грымнуў пасярод яснага неба, раскідаўшы не толькі бліскавіцы, але і колькі вялікіх пушынак накшталт дзьмухаўцовых. Што бліскавіцы, што пушынкі зніклі. А дажджу і не было наогул. Калі, вядома, не лічыць за дождж шэры пясок, які няроўнаю мерай прасыпаўся сямтам на пасожскія лугі. Неўзабаве ў лугах пацямнела. Многія бачылі гэта, ды мала хто знаходзіў словы, каб апісаць. Ці то травы змарнелі, ці то невытлумачальны змрок чорным туманам разаслаўся між імі. Змоўклі там салаўі. Дый іншае птаства шчабятаць перастала. Адно толькі каліна заўчасна яркімі чырвонымі ягадамі абвесілася.

Цяглых у лугі было не загнаць. З вольных адзін шаляніца ўсё-ткі знайшоўся. Невядома, што яму ў лузе пры Гомелі трапілася, але вярнуўся дадому з сівымі пасмамі на чарнявых кудзерах і зрабіўся дужа маўклівым, замкнёным у сабе. Рыхтык інтраверт, як сказалі б пра гэта праз пару стагоддзяў. Спасылаючыся на яго перамену, галовы і сялянскіх, і мяшчанскіх сем'яў наказалі сваім родным забыць дарогу ў лугі да лепшых часоў.

Што да прывілеяваных станаў, то яны на праяву адрэагавалі па-рознаму. Ніхто не бачыў, ці ладзіла тутэйшая шляхта экспедыцыю ў лугавую цемень, але нешта змусіла яе досыць хутка змірыцца, што з сенажаці ў гэтым сезоне прыбытку не будзе. Пацямненне траў шляхціцы тлумачылі нашэсцем рэдкага віду саранчы, якая збіваецца ў чароды, з выгляду падобныя да пушынак дзьмухаўца. Выступалі яшчэ і ў тым сэнсе, што восень з дажджамі і зіма з маразамі ўсё зменяць, давядуць да звычайнага ладу.

А вось царкоўнікі, хаця і мелі таксама ў лугах свой інтарэс, маўчалі. Маўчалі, быццам нічога надзвычайнага не адбылося. Не сталі інтэрпрэтаваць ланцуг здарэнняў ні ў катэгорыях набліжэння апакаліпсіса, ні прыватным выпадкам гневу божага. Абураліся ў сваім коле, што просты люд працягваў называць гром на небе перуном. Але выстаўляць пярэчанні гэтаму

ў пропаведзях не спяшаліся, асцерагаючыся ў кантэксце апісаных вышэй здарэнняў нарабіць рэкламы аднайменнаму паганскаму божышчу.

Гомель і наваколлі трывожна гулі. Людзей больш цікавіла не тое, што з лугамі здарылася, а тое, што ўсё гэта значыць. Людзі шукалі ў праяве знакі і сімвалы. Людзям трызніўся надыход новай вайны. Дык плямы каліны на тле лугавога змроку бачыліся ім як чырвань вуголля на пажарышчы. Узмацнялі такое бачанне рэдкія старажылы, якія – хто з уласнага досведу, хто з расказаў сваіх прадзедаў – сцвярджалі, быццам дзіўныя праявы бывалі і перад ранейшымі войнамі, што прайшліся праз Гомель. Успаміналіся незвычайная сухмень, мароз улетку, бясконцыя дажджы і нават тры сонцы на небе. Цемень у лузе з заўчасна саспелай калінай добра ўпісваліся ў гэты шэраг. Што вайна не за лясамі, мяшчане нават не сумняваліся. Не ведалі толькі, хто і з кім будзе ваяваць.

З газетамі тады ў нашых краях быў поўны швах, ужо не кажучы пра тэлебачанне ці пагатоў інтэрнэт. Знацца ў геапалітычнай сітуацыі люду было дужа няпроста. Давяраліся чуткам і пагалоскам. Шукалі адказаў у словах падарожных. Але гэтага было мала, як і пэўнасці ва ўсім. Па пэўнасць мяшчане хадзілі да войта. Войт разоў колькі рабіў выгляд, што не быў на месцы. Калі ж яго нарэшце падпільнавалі, нічога ўцямнага казаць ён не стаў. І ад таго, што сам нічога не ведаў, і ад таго, што лепш было ў такой няпэўнасці памаўчаць. Памаўчаць, бо справа магла выйсці і на ліха, як здарылася з даўнішнім ягоным папярэднікам за часы казацкай вайны. Мяшчан войтава маўчанне не задавальняла, і наступным аб'ектам іх роспытаў мусіў стаць пан камісар – афіцыйны даручэнец пана старосты. І хоць гаворка меркавалася не пра новую паўнавартасную лібертацыю ці асобныя палёгкі гораду і мяшчанству, а пра навіны Рэчы Паспалітай ды іншых дзяржаў, камісар прымаць дэлегацыю не ўзяўся. Ірвацца ж у яго рэзідэнцыю азначала для мяшчан лезці на ражон: хто потым будзе высвятляць, што вы хацелі з панам камісарам проста душэўна пагутарыць, а не задумалі драпежна выкінуць праз акно ў роў?

Не маючы адказаў, мяшчане на грунце супярэчлівых чутак і ўласных уяўленняў аб будове свету стваралі неймаверныя лагічныя канструкцыі, у якіх пад Гомель прыводзілі то турак, то казакаў, то маскавітаў. Але, бадай, самай фантастычнай з усіх была думка, што сюды прыйдзе супольнае кароннае і велікакняжацкае войска, каб моцным апераджальным ударам спыніць варожае паслізненне, з якога б канца свету яно ні сыходзіла. Прынамсі смяяліся ў горадзе з гэтай фантазіі найчасцей. Смех, аднак, толькі злёгку сунімаў трывогу, пераводу якой па-ранейшаму не было.

ЛЮДЗІ ШУКАЛІ Ў ПРАЯВЕ ЗНАКІ І СІМВАЛЫ. ЛЮДЗЯМ ТРЫЗНІЎСЯ НАДЫХОД НОВАЙ ВАЙНЫ.

Лірнікі між звыклых псальмаў і кантаў зацягвалі песні пра нябесныя дзівосы з вогненнымі вазамі, іскрыстымі снапамі і прамяністымі трубамі. Гомельцы натужна слухалі. Адным у пачутым адкрываліся не адкрытыя датуль бяздані трывогі. Другія клялі і лірнікаў, і сябе, і лішні куфаль піва, пахмурна ківаючы ў нязменную цемень лугоў. «Як зацішак перад бурай, так і цемень перад успышкай святла», – сказаў адзін з вандроўных музыкаў, не растлумачыўшы, якога святла Гомелю ўрэшце наканавана дачакацца.

Не дужа спадзяючыся на святло, гомельцы прычакалі буры. Спачатку ў выглядзе камісарава загада замкавай варце разганяць зборышчы разявак, заспетых за абмеркаваннем лугавога змроку і чырвані каліны. У першы ж дзень тройцу самых незгаворлівых

мяшчан з ліку тых, хто на рынку часаў языкамі пра гэта, запраторылі ў астрог. А потым, уначы, горад з наваколлямі накрыла і прыродная стыхія. Без меры разгуляўся вецер. На Чачэрскай, Траецкай і Спаскай пазносіла стрэхі з дамоў. На ўсіх гомельскіх храмах паламала крыжы. Перакасіла сінагогі. Паваліла шмат дрэваў. Сарвала з мацаванняў і выкінула ў яр адзін з узводаў – цяжкі перакідны мост. Следам пачаўся жахлівы дождж. Яры і равы ператварыліся ў бурлівыя паўнаводныя рэкі. Сож шалеў. Лодкі выкідвала на бераг і разбівала. Плыты зносіла на вёрсты ўніз па цячэнні, разбіраючы па бярвенцу. Як у гэтым шаленстве здолеў застацца на сваім месцы рачны перавоз, ніхто пасля буры зразумець не мог. Дый увага большыні ўранні засяродзілася на падліку страт і факце крывавага колеру вады ў ручаі Гамяюк, а таксама на вестцы, што ў лугах па-ранейшаму без змен. Апошняе з аглядкай на камісараў загад і пільнасць замкавай варты перадавалася паўшэптам і паўнамёкамі.

Калі ж чарга дайшла да пытанняў, адрасаваных перавозчыку, той стаў расказваць нешта надзвычай дзіўнае. Натоўп, што сабраўся на прыстані, пачуў пра рукі, якія з Месяца працягнуў да перавозу Каін, каб моцна ўхапіць паром, не дазваляючы ветру ні перакуліць, ні знесці яго. «Я ўсю ноч дрыжэў як асінавы ліст і маліўся Госпаду Богу нашаму, каб ліха мінула, – запэўніваў перавозчык, хоць па натоўпе пракацілася не адна хваля скептычнага гоману. – Маліўся і даў зарок, што па ўсім, калі непагадзь скончыцца, а я застануся жывым, то адмоўлюся ад перавозу, аддам паром таму, каго першым убачу пасля буры на беразе».

«Сапраўды папсаваўся ў розуме», – прашаптаў, пачуўшы гэта, адзін з гандляроў. Натоўп, аддаючыся першаму ўражанню, згодна загуў. Але сёй-той у ім шляхетна выпрастаў спіну ў спадзеве атрымаць перавоз: «Гэта ж я да цябе раніцой спраўляцца, ці ўсё добра, прыходзіў».

«Так, прыходзіў, – не пярэчыў перавозчык. – Але ты не першым быў, хто трапіўся мне сёння на вочы».

Адразу ж з'явілася яшчэ колькі прэтэндэнтаў на званне ранняй пташкі. Але нікому з іх не пашчасціла.

«Матруна Нічыпарава, дачка Нічыпара Кушняра, на самым досвітку ішла сёння паўз раку пад гарой з поўначы», – прагучала неймаверным выракам.

«Ты нешта наблытаў, – умяшаўся Нічыпар Кушнер. – Мы ўсёй сям'ёй, як бура пачалася, у паграбе схаваліся. Дачка нікуды не адлучалася. Пагатоў без майго дазволу. Я ў строгасці яе выхоўваю».

«Гэта мая доня, як бура трошкі ўляглася, шлындаць з хаты выправілася», – вырашыў не ўпускаць шанец тутэйшы канавал. Перавозчык астудзіў яго запал, паведаміўшы, што з Нічыпаравай Матрунай выпала і павітацца, і перакінуцца слоўцам, а значыць, памылкі быць не можа.

Пакуль Нічыпар змагаўся з процілеглымі пачуццямі – радасцю ад раптоўнай выгады і прыкрасцю ад непаслухмянасці дачушкі, натоўп стаў наракаць: «Дзе гэта бачана, каб дзеўка перавоз трымала!» Пачуўшы, Кушнер схамянуўся і важна адрэзаў: «То ўжо не ваш клопат. Мы ў сваёй сям'і самі разбяромся, што з перавозам рабіць. У мяне і сыны ёсць».

«Як сабе хочаце, – перавозчык звяртаўся да ўсіх, хто тоўпіўся на прыстані, – але памятайце, што я свой зарок выканаю дакладна, а далей адказ вам трымаць давядзецца».

«Гэта перад кім?» – насупіўся бацька шчаслівіцы.

«Перад Госпадам, канешне, – пачулася ад перавозчыка. – Калі што якое, дык Каін вам нагадае. Мне дык у імгненне сумневу пасля стрэчы з Матрунай дакладна нагадаў».

«Каін?»

«Каін. Высокі. Хударлявы. З шэрай скурай. Выцягнуты твар. Галава як перакулены гарлач. Вялікія раскосыя вочы. Нос правалены, як у пранцаватага. Рот маленькі. Вусны тонкай пасачкай. Сказаў, што зарок трэба выканаць, інакш будзе праклён не толькі на маю галаву, але і на ўвесь горад. А штонішто пра праклёны, як вы разумееце, Каін ведае».

«І што рабіць?»

«Я аддаю перавоз Матруне і іду ў манастыр. У Чарнігаў ці нават у Кіеў падамся. А вы ўжо без мяне думайце, як рабіць слушна далей».

Перавозчык пайшоў. Можа, адсыпацца, а можа, адразу і збіраць торбу ў дарогу. Натоўп па інерцыі працягваў стаяць, спрачаючыся аб пачутым. Адны ўважалі ўсё за недарэчны жарт. Другія перапытвалі адно аднаго, куды лепш было б сведку з'яўлення Каіна адвесці: у шпіталь пры Чачэрскай браме ці да бабкі-шаптухі ў прадмесце? Трэція дзялілі шкуру неўпаляванага мядзведзя, упрошваючы Нічыпара не слухаць шаленца і сімвалічным коштам саступіць перавоз. А як што кожны з іх бачыў у ролі новага перавозчыка менавіта сябе і нікога іншага, то слоў і выразаў не выбіралі – клялі канкурэнтаў, на чым свет стаіць, а дабаўлялі тым, куды свет мог бы разам з канкурэнтамі праваліцца. Кушнер не пагаджаўся.

Непадалёк, пад гарою, сабраліся святыя айцы. Падслухаўшы ўсё, што прагучала ў натоўпе з моманту яго стыхійнага фармавання, яны моўчкі абдумвалі, ці не перабралі дзе мяшчане ў сваім галёканні меру блюзнерства. Побач, у нізіне рова, што вёў да прыстані, тапталася замкавая варта, пільнуючы забароненыя згадкі пра луг і каліну…

Нядоўга распякаючы дачку за самавольную ранішнюю прагулянку, Нічыпар павіншаваў яе з добрым набыткам для сям'і. Матруна не здзівілася і нічога перапытваць не стала, нібыта і так усё чыста ведала. Бацька заікнуўся, што збіраецца аддаць перавоз старэйшаму сыну. Дзяўчына незадаволена бліснула вачыма і прамовіла: «Няможна перадаць тое, чым не валодаеш. Перавоз мой па праве зароку. Забярэш проці маёй волі – наклічаш на ўсіх бяду». У мешчаніна аж пацямнела ў вачах ад такой дзёрзкасці ў парушэнні патрыярхальнай субардынацыі, як бы ён сам гэты лад рэчаў ні называў. Хацеў прыкрыкнуць, што ў Гомелі і без дзявочых дурыкаў бяда за бядою, і замахнуўся ўжо, каб адважыць поўху неслуху ў спадніцы. Ды раптам штосьці перамянілася. Нічыпар схапіўся за галаву, захінаючы вушы ад пранізлівага свісту. Яму здавалася, што ў горад ляцяць гарматныя ядры. Пракрахтаў пра гэта дачцэ. Дачка і блізка не страпянулася – стаяла, як стаяла і дагэтуль.

«Супакойся, ніхто па Гомелю не страляе», – запэўніла яна і пайшла з двара, пакідаючы ў гнятлівай збянтэжанасці бацьку, што паціху ачуньваў ад прыступу.

«Ты толькі за дзешава не перавозь!» – знайшоў у сабе сілы стары даць дачцэ параду на дарожку.

«На чужым горы не нажывешся», – адрэагавала Матруна, бразгаючы веснiцамі.

Гомель без спеху апраўляўся ад буры. Рамантавалася адно. Прыводзілася ў парадак другое. Чакала сваёй чаргі трэцяе. Здавалася, што за клопатам знікла, растварылася ранейшая трывога. Але без лодак і плытоў было цяжка. Вырабляць ці прыганяць аднекуль новыя не было ні часу, ні грашовага запасу. А патрэба пераправіцца на той бераг па нейкіх справах разпораз узнікала ў многіх. Перавозчыца была напагатове. Працу сваю рабіла хутка і адначасова далікатна. Усе здзіўляліся, адкуль у ёй такое майстэрства. Расчульваліся, калі плату брала ніжэйшую, чым яе папярэднік. Аднак пад вечар скрынка з манеткамі ўсё ж напоўнілася. Нічыпар, якому муляла думка, што дачку могуць абрабаваць,

не стрымаўся і паслаў на бераг малодшага сына, каб той забраў дзённую выручку.

Матруна сустрэла брата з прахалоднай ухмылкай. Грошы аддала, не пярэчачы. Брат занёс іх дадому. Праз гадзіну на прыстань прыйшоў бацька. Падазваў дачку і ціхенька, стараючыся залішне не прыцягваць староннняй увагі, стаў яе ўшчуваць. Упікаў, што грошай зарабіла недаравальна мала. Наракаў, што вычынка даражэйшая за аўчынку. Заяўляў, што большая частка выручкі будзе сыходзіць на падаткі і ўтрыманне парома ў працаздольным стане. Меркаваў, што лепш бы ёй кінуць гэтае глупства і, як раней, дапамагаць у майстэрні і завіхацца па доме. Дзяўчына, не прадэманстраваўшы аніводнай прыкметы пачцівасці, раптам засмяялася. Яе гучны смех змусіў Нічыпара скалануцца і ўцягнуць галаву ў плечы, загадзя ратуючыся ад знаёмага пранізлівага свісту. Менавіта яго стары чамусьці і падазраваў пачуць зноўку – другі раз за дзень. Аднак замест гэтага пачуліся крыкі з горада.

Кушнер азірнуўся і прыслухаўся. Крычалі дзесь на рынку. Дакладней не крычалі, а спявалі. Праз колькі імгненняў вецер прынёс адтуль і рэха зладжанага патупвання, у якім пазнаваўся танец. «Танцуюць?» – здзівіўся Нічыпар, адарыўшы запытальным поглядам дачку, на вуснах якой іграла здзеклівая ўсмешка. Дзяўчына моўчкі развяла рукамі і, узяўшы мядзяк з чарговага пасажыра, вярнулася да сваёй новай працы. Збянтэжаны бацька застаўся на прыстані, баючыся нават думаць, што за праява спрыгодзілася гэтым разам у горадзе.

Гомель танцаваў. Казалі, што спачатку на пусты рынак з Траецкай прыйшла залатарова ўдава, гучна ўскрыкнула, зацягваючы песню, а потым пусцілася ў скокі. Міжвольныя сведкі пайшлі, то-бок паскакалі, па яе прыкладзе. Праз чвэрць гадзіны рынкавая плошча поўнілася аб'яднаным у танцы мяшчанствам абодвух полаў і ўсіх узростаў. Пазней некаторыя смелі сцвярджаць, што да скокаў далучылася нават парачка шкілетаў, якія вылезлі з безыменнай забытай магілы пры адной з вартавых вежаў. Мяркуем, што гэта ўсё ж паклёп, нагавор на Гомель, бо калі б сапраўды мярцвячым касцям закарцела падрыгацца ў танцы, то вылезла б з гомельскай зямелькі зусім не пара шкілетаў, а сотні і сотні. Як не тысячы. Але нават калі і тых двух шкілетаў сярод танцораў не было, ардынарнай падзеяй распачаты залатаровай удавой танец назваць нельга.

ПАЗНЕЙ НЕКАТОРЫЯ СМЕЛІ СЦВЯРДЖАЦЬ, ШТО ДА СКОКАЎ ДАЛУЧЫЛАСЯ НАВАТ ПАРАЧКА ШКІЛЕТАЎ, ЯКІЯ ВЫЛЕЗЛІ З БЕЗЫМЕННАЙ ЗАБЫТАЙ МАГІЛЫ ПРЫ АДНОЙ З ВАРТАВЫХ ВЕЖАЎ.

Танец не спыняўся, далучаючы да сябе ўсё новых і новых удзельнікаў. Яго не абарваў ні надыход ночы, ні ўгаворы святароў. На ноч з'явіліся паходні ў руках і нязвыкла яркая вялікая поўня над галовамі. Святарскія малітвы не дзейнічалі. Спаскі поп, не адчытаўшы і палову з таго, што надумаў, пусціўся ў скокі пад калегавы позіркі, поўныя жаху і шкадавання. Вір танца звабіў да сябе і зухаватых шляхціцаў, што з насмешлівымі мінамі ішлі ад карчмы, і асцярожлівага войта, які няўклюдна таіўся за адной з гандлярскіх камораў.

Пан камісар, глянуўшы з вышак сваёй рэзідэнцыі на стракатасць неўтаймоўнага карагода, з хвіліну падумаў і пастанавіў без маруды таемна выбірацца з горада, каб з'ехаць у нявызначаным кірунку і да часу перачакаць танцавальную трасцу ў больш бяспечным месцы – напрыклад, у Вільні. Замкавая варта, не маючы дадатковых

распараджэнняў, не ведала, як на сітуацыю рэагаваць. А паколькі старога загаду ніхто не адклікаў, вартавыя па звычцы пасунуліся да людскога скопішча, каб паслухаць, ці няма ў карагодзе крамольных згадак. Ці гучала нешта такое ў спевах, ніводны з іх зразумець не паспеў – танец праглынуў іх без астачы яшчэ за паўсотні крокаў да рынка.

Ноч выдалася бяссонная. І для танцораў, і для тых, хто спадзяваўся трымацца заведзенага жыццёвага рытму. Апошнія баяліся і сваёй чаргі прыяднання да танца, і што скокі з паходнямі могуць абярнуцца пажарам. Бачылі ў гэтым насланні працяг ланцуга здарэнняў, якія пачаліся з перуна, што некалі грымнуў пасярод яснага неба etc. Трывога вярнулася. Дакладней, паказала, што нікуды і не сыходзіла, а толькі чакала зручнага моманту ў засені іншых людскіх клопатаў.

На раніцу ў танцы сабралася ці не палова Гомеля і шмат жыхароў прадмесцяў. Аблічч некаторых танцораў ззялі радасцю не больш, чым маскі станоўчых персанажаў у тэатрах старажытнай Эллады. Многія стаміліся, адчувалі боль і скруху, раздзіраліся трывогай і ранялі слёзы, але ўсё адно працягвалі танцаваць.

Сям'ю Нічыпара Кушняра танцавальная трасца не зачапіла. Ён сам, яго жонка і двое сыноў праседзелі ноч дома, прыслухоўваючыся да гукаў занадта тлумнай ночы. Дачка ж, не прыйшоўшы нават на вячэру, засталася начаваць на востраве, што туліўся да другога берага Сожа. Ад перавозчыка ёй дастаўся не толькі паром, але і невялічкі дамок ці, хутчэй, стадола. Думаючы пра гэта, Нічыпар загарэўся выратавальнай, як яму падалося, ідэяй.

Чакаць, калі танец зацягне і яго разам з сям'ёй, не хацелася. Пагатоў з'явіліся весткі аб першых ахвярах няспынных карагодаў – танцорах, нават зусім маладых, што мёртвымі ўпалі долу. Бязглузда было б рызыкаваць паўтарыць іх лёс, як і наогул заставацца ў горадзе да прыходу невядома чыіх войскаў, што прарочылі ўсе, хто толькі мог, на што ўказвалі шматлікія знакі. Трэба было збіраць самае каштоўнае і патрэбнае для жыцця, каб часова перасяліцца на памянёны востраў. Там, як чамусьці думалася рамесніку, добра будзе пераседзець усе злыбеды, што абрынуліся і яшчэ абрынуцца на Гомель.

Стройнасць разваг старога ламала няпэўнасць з Матрунай: не меў адказу на пытанні як пра месца, адведзенае ёй ва ўсіх выпрабаваннях для горада з наваколлямі, так і пра таго, хто яе ў гэтую куламесу завабіў – Бог, д'ябал ці, можа, Каін, якога кагадзе так жыва апісаў былы перавозчык. І свідравала бацьку думка, цяжкім ярмом прыгнятала здагадка, што дачка магла звязацца з нячысцікам і стаць вядзьмаркай. Ды не такой бяскрыўднай, якімі ўяўляліся тутэйшыя шаптухі, а сапраўдным увасабленнем зла, з каторым, на добры розум, належала бязлітасна расправіцца.

Кушняра праняла дрыготка. Жонка Аксіння спалохалася, ці не памкнуўся ён у танец. Мужчына запэўніў, што з гэтым пакуль усё добра, і падзяліўся падазрэннямі наконт дачкі.

«А ты не думаў, што ёй магло быць наканавана трымаць перавоз? – супакоіўшыся, казала жанчына. – Калі малой хварэла, то і не спадзяваліся, што ачуняе. Нічога не дапамагала. Толькі знахарка замовамі ўратавала, а дзеля замацавання іх сілы прасіла цябе перавезці Матруну на чоўне праз Сож з гэтага берага на той і назад. Тады толькі дачка і выздаравела».

«Дык ты хочаш сказаць, што гэта я ва ўсім вінаваты?» – пачаў закіпаць муж, але тут жа асекся – вуліца грымела спевам і тупатам шматлікіх ног.

Зірнуўшы ў шчыліну між дошак плота, Нічыпар убачыў землякоў, якія трымаліся за рукі, рухаліся ў танцы,

спявалі. Іх чарада няспыннай «змейкай» вілася па вуліцах Гомеля.

«Досыць. Чара мая перапоўнена, – стомлена рэкнуў рамеснік. – Зараз жа збіраемся і адпраўляемся на востраў».

Спехам прыхапіўшы пажыткі, зачыніўшы аканіцы, замкнуўшы дзверы, забіўшы цвікамі весніцы, сям'я Нічыпара Кушняра падалася да адной з бліжэйшых брам гарадскіх умацаванняў. Пытанняў ад варты не ўзнікла, бо ніякай варты пры браме не знайшлося. Кушнер з жонкай і двума сынамі спусціліся ўніз да Гамеюка, збочылі да ягонага вусця, адкуль павярнулі на прыстань, рушыўшы пад замкавай гарой уздоўж Сожа. Людзей на беразе не было. Матруна, звесіўшы ногі ў ваду, сядзела на пароме, які стаяў пасярэдзіне ракі. Параўняўшыся з ёй, бацька, маці і браты, моўчкі спыніліся. У горадзе не сціхала песня і грукатаў танец. Перавозчыца даўно заўважыла сваякоў, але нічога не рабіла, нібыта мэта іх з'яўлення яе ніякім чынам не тычылася.

«Недарэчы зараз, дачушка, нораў паказваць, – абарваў маўчанне стары. – Ты ж чуеш, якое шаленства ў горадзе дзеецца. Людзі другі дзень без продыху скачуць і пяюць. Нехта ўжо і душой загавеў у гэтых карагодах. Кажуць, сяброўка твая з Карнілаўскай памерла. Небывалае насланнё. Дзіўная і страшная немач, якая толькі прадвяшчае яшчэ большую бяду, што прыйдзе з цемені лугоў і чырвані каліны. Дапамажы, калі ласка. Дай нам спасу. Перавязі на востраў. Ану і не дастане нас там ніякае ліха».

НЕБЫВАЛАЕ НАСЛАННЁ. ДЗІЎНАЯ І СТРАШНАЯ НЕМАЧ, ЯКАЯ ТОЛЬКІ ПРАДВЯШЧАЕ ЯШЧЭ БОЛЬШУЮ БЯДУ, ШТО ПРЫЙДЗЕ З ЦЕМЕНІ ЛУГОЎ І ЧЫРВАНІ КАЛІНЫ.

«Ці для таго я перавоз трымаю, каб патураць людскім страхам і ўцёкам навыперадкі ад іх? – адстаронена прамовіла дзяўчына. – Калі будзе сапраўдная пагроза, перавязу ўсіх, каго здолею перавезці. Хоць бы і пад кулямі ці гарматнымі ядрамі. Але перавагі асаблівай камусьці аддаваць не стану і вынятка для радні рабіць не буду».

«Во як ты, птушынка мая, зацёхкала, – у роспачы заўважыў бацька. – А калісьці я наймаў човен, каб выратаваць цябе ад хваробы, замацоўваючы заклёны шаптухі».

«Ты толькі ў царкве пра гэта не кажы», – з'едліва ўрэзала дачка і рассмяялася.

Не знаходзячы прыдатных да сітуацыі прыстойных слоў, Нічыпар замаўчаў.

«Навошта ты так, дачушка? – чаргу ад мужа пераняла Аксіння. – Свае сваім спагадаць павінны. А мы ж табе не чужыя…»

«Эх, мама, – твар дзяўчыны ахінуўся сумам, быццам толькі што на ім не свяцілася хай сабе і не надта добрая, але ўсё-ткі ўсмешка. – Бывае, што чужыя лепей за сваіх».

«І многа ты зналася з чужымі, каб такое казаць?» – удакладніла маці, хаваючы здзіўленне і адначасова ўтаймоўваючы вірлівую фантазію, што малявала ўга якія карцінкі з тайнага жыцця да часу паслухмянай дачкі.

«Было трохі, – сум развейваўся выклікам у голасе. – Ды бог з імі, з чужымі. Галоўнае, што са сваімі я звалася многа. Дастаткова, каб помніць і бацькаву дзягу, і матчына маўчанне, і насмешкі братоў».

Мужчынская палова сям'і зацялася. Сыны стрымлівалі бацьку, каб той не нагаварыў лішняга, забіваючы прывідныя шанцы на плённасць перамоў.

«Не мы такія – парадкам жыцця так заведзена, – азіраючыся на мужа з сынамі, старалася гаварыць спакойна Аксіння. – Не мы той парадак паставілі, не нам яго і зрынаць. А дзягі,

папругі, аброці і шмат markнага ўсяго, калі памятаеш, паспыталі мы ўсе. І што? Гаспадар у сям'і мае права на гэта, калі жонка і дзеці па-іншаму яго не разумеюць… Ён жа першым потым і шкадуе, што так адбылося… Але ты даруй нам, дочачка, не трымай зла, дапамажы ў цяжкую часіну».

«А я зла і не трымаю, хоць, можа, яшчэ да канца не даравала кожнаму з вас, – пачуўся з парома роўны, гэтым разам без выкліку, голас. – Не трымаю зла, таму і не адмаўляюся перавезці. Але толькі разам з іншымі, пра што зноў і зноў вам паўтараю».

«Дык ці віна наша, што мы першыя ад бяды ўцякаць надумалі?» – думаючы, што знайшла важкі довад, ускінула рукі маці.

«Найперш вы не ўцякаць, а выкарыстаць мяне надумалі», – сурова адцяла Матруна.

У Аксінні заняло мову. Жанчына адступілася з краю берага да пахмурнага ў сваёй маўклівасці мужа. Сыны пераглянуліся між сабой і позіркамі вызначыліся, хто з іх прадоўжыць перамовы. Да вады падышоў старэйшы.

«Калі ты такая праведная, то чаму сядзіш тут, а не ратуеш людзей у горадзе?» – паспрабаваў ён прымусіць сястру сумецца.

«Сяджу, бо пасаджаная тут, – сястра анічуць не сумелася. – І пад пагрозай я тут аднолькава з усімі. Рака мала што мяняе. Гэта проста граніца, якая не дае ніякай бяспекі».

Гарадскі шум раптам стаў набліжацца. І перавозчыца, і яе родныя перавялі вочы ў бок вусця Гамеюка. Адтуль рухалася «змейка» танцораў. Рэхам лунаў спеў: «На ціхенькім Дунаю, Дунаю…» Заўважыўшы здранцвенне старэйшага брата, на перамоўную авансцэну ўступіў малодшы.

«Матрунка, давай мы табе заплацім, – дзелавіта выдаў ён. – Ты і так мала бярэш за перавоз, а сёння ў цябе выручкі можа і не быць зусім. Ахвочых перапраўляцца, апроч нас ды хіба яшчэ якой купкі людзей, не дачакаешся. Ці не ўсе танцуюць. Без памяці. Прыйдзі сюды хоць цар-салтан з агромністым войскам – амаль ніхто з гомельцаў не рынецца ўцякаць ад вострых шабелек і куляў быстрых.

## ТЫ МАРНУЕШ ЧАС У ЧАКАННІ І ГУБЛЯЕШ ВЫГАДУ Ў АДМАЎЛЕННІ. ГРОШЫ Ж ТАБЕ НА ЖЫЦЦЁ ЎСЁ АДНО ПАТРЭБНЫ».

«Грошы? – чмыхнула дзяўчына, быццам пачула поўную лухту. – Думаеш, я тут дзеля грошай? Думаеш, я стану браць з кагосьці плату, калі цэлы горад хлыне ад небяспекі за раку? І паўгрошыка не вазьму».

«А харчавацца святым духам станеш?» – не сунімаўся брацік.

«Ды мне шмат і не трэба. Рыбіну я злаўлю. Грыб які знайду. Вады з крыніцы нап'юся», – расчараўвала яго ўпэўненасць сястрыца.

«Нават без солі?» – дзяцюк скрывіўся ў пераможнай, як яму здавалася, усмешцы.

«Арол з дальніх гор прынясе», – пакеплiваючы, асадзіла яна.

«Перавозу не маю, перавозчыкаў не знаю», – спявалі танцоры, якіх ад сям'і Нічыпара Кушняра аддзяляла ўсяго крокаў трыццаць.

«Дык вось жа яна, бяда! – усхваляванa выкрыкнуў бацька. – Ад саміх сябе яны ўцякаць не будуць! Гэта мы ратуемся ад іх! Перавязі ж ты хоць аднаго з братоў, каб роду нашаму зводу не было!»

«Змейка» дасягнула прыстані. Нічыпар, Аксіння і два іх сыны, страціўшы волю, схапіліся за рукі і далучыліся да танца. «А мой мілы дружочак, перавоз я маю, перавозчыкаў знаю», – гучна пялі, з'яднаныя ў доўгі ланцуг людзі. Іх твары – вясёлыя і сумныя, бадзёрыя і змораныя, адважныя і баязлівыя, прасветленыя і счарнелыя – мільгацелі ўздоўж парома.

Вочы Матруны шчасліва блішчэлі. Свайго мілага друга яна даўно перавезла на востраў. Яго нябесны воз з яркай успышкай разарвала ад няспраўнасці, а шэры попел раскідала па лугах. Але перш, чым гэта адбылося, друг паспеў падацца з воза вонкі, а потым досыць удала спусціўся долу на пушынцы – абышоўся колькімі драпінамі і вывіхнутым плячом. Яго таварышам, што таксама скарысталіся ратавальнымі пушынкамі пашанцавала меней: адзін, трапіўшы пад буйны абломак нябеснага воза, загінуў яшчэ ў палёце, другі скруціў шыю на дубах, куды яго занесла моцным парывам ветру.

Знайшла Матруна друга тады, калі насуперак бацькоўскай забароне і агульнагарадской гамане выбралася ночкай у адзін з пацямнелых ад рассыпанага попелу лугоў. Паспеўшы пахаваць сваіх напарнікаў і перапалохаць нячастых гомельскіх цікаўнікаў, той сядзеў пад калінай і еў курапатку. На каліне палымнелі чырвоным не ягады, а зіхатлівыя пацеркі, прымацаваныя да накінутай на дрэва сеткі. Пазней мілы растлумачыў, што накідаў гэтых сетак у лугах усюды, дзе толькі змог, каб падаць вестачку сваім – тым, хто заставаўся на караблі, які плаваў па моры над купалам нябёс.

У момант жа першага з'яўлення адважнай дзяўчыны ён менш за ўсё быў настроены на размовы: адклаў недаедзеную курапатку і стуліў маленькі рот, вырынаючы з сябе свіст, які аж да амарокі біў па вушах. Аднак госця падняла руку і зрабіла рух, быццам далонню захінала непрыемнае ёй спалучэнне гукаў. Свістун адразу ж размяк і супакоіўся, адчуўшы схаваную ў Матруне сілу, якая здалася яму роднаснай. Гэтымі сіламі – ён свайёй, а яна сваёй – і сталі потым перамаўляцца, даведваючыся адно пра аднаго. Прызнаваліся, што з выгляду яны ўзаемна нязвыклыя, але агіды не выклікаюць. На тым і паразумеліся.

З яго парадамі і яе нечаканымі нават для сябе самой ведамі ўправілі вывіхнутае плячо. Залячылі драпіны. Яна насіла па начах яму есці і піць. Ён дзякаваў ёй, паказваючы красу далёкіх зорных краёў. Гулялі, бывала, у лугах. То думалі, то не думалі пра заўтра. Удзень, тоячыся ад людзей, мілы друг абыходзіў наваколлі Гомеля. Шукаў, як казаў, важны куфар, што мог застацца ад нябеснага воза. Шукаў куфар, а знайшоў шкатулачку, з якой неабачліва вызваліў буйныя вятры, праз што пачалася жахлівая бура, а вада ў Гамеюку пачырванела.

У буру Матруна таілася з сямейнікамі ў пограбе. Але адчуўшы заклік сілы мілага друга, сваёй сілай змусіла родных моцна заснуць, а сама пашыбавала ў лугі. Друг быў у роспачы. Яго надзеі вярнуцца ў мора за нябесным купалам знікалі. Яна суцяшала яго ласкавымі словамі і пяшчотнымі дотыкамі. Прапанавала перабрацца на востраў і жыць там разам, як муж з жонкай. Мілы расчуліўся, але ўказаў на зразумелыя нават яму, нетутэйшаму прыхадню, перашкоды. Прайсці праз горад ці прадмесце непрыкметным ён не змог бы. Справіўся б і з дзясяткам людзей, калі б тыя захацелі пераняць яго ў дарозе, але натоўп, які абавязкова сабраўся б з аглядкі на нетыповае аблічча вандроўніка, быў яму яўна не пад сілу: «Колькі нашых на гэтым пагарэла». Нерэальным выглядаў і варыянт, калі б Матруна адкрыта прывяла мілага друга дадому і папрасіла бацькоўскага блаславення. Родным вочы затуліць на нейкі час здолелі б. Але ўсяму гораду ні вачэй, ні вушэй з ратамі не затуліш.

Паразважаўшы, пастанавілі скарыстацца момантам: пакуль горад і наваколлі апраўляліся ад свавольстваў буры, яны то мядзведжымі куткамі і сабачымі пожнямі, то захлеўямі з завуголлямі адправіліся на прыстань. Міналі і лёзных, што выбіраліся з пячораў на абрывах, і панскія заставы

пры бабровых гонах. Спужалі парачку, што цешылася ў будане з лазняку. Заспелі перавозчыка, якога са стадолы, дзе ён ноч хаваўся ад буры, выгнала на бераг малая патрэба. Намучыліся з ім, бо не паддаваўся ні нябачнай сіле, ні ўгаворам з абяцаннем золата. Хацеў, каб Матруна расплацілася з ім па-жаночы. Давялося паабяцаць. Толькі гэта зрушыла перавозчыка з месца.

Ён спусціў паром на ваду і хутка быў на прыстані пад замкавай гарой, дзе адразу ж і паспрабаваў узяць абяцанае. Застыў, аднак, на паўсправе. «Або я зараз гвалту крычу, або ты без нічога ніякага аддаеш мне трымаць перавоз», – паставіла яго перад няпростым выбарам дзяўчына. З абдумваннем дзядзька перавозчык не забавіўся. Пагадзіўся застацца без перавозу. Ніякавата пасмейваўся, нервова пазіраючы то на спрытную дзеўку, то на яе шэраскурага спадарожніка. Спадарожнік моўчкі яму патлумачыў, што і як трэба рабіць далей. Каіна, здаецца, не прыгадваў, але потым, падчас мяшчанскіх роспытаў, гэты вобраз сам вылез аднекуль з нетраў свядомасці перавозчыка, які прылюдна адмаўляўся ад перавозу.

Дзіўная пара і не думала, што ўсё так гладка выйдзе. Матруна перавезла мілага друга на востраў яшчэ да таго, як гомельцы пачулі, што паром перадаецца дачцэ Нічыпара Кушняра. Перасякаючы Сож, успомніла расказы бацькоў пра сваю хваробу ў маленстве. Усцешана ўсміхнулася, калі на сярэдзіне ракі адчула сябе жонкай. Друг падміргнуў ёй абодвума раскосымі вачыма.

Адкуль узялося насланнё з танцам, сужэнцы не ведалі. Ні ён, ні яна да гэтай праявы дачынення не мелі. Падазравалі, што гомельцы змрочнымі трывогамі і чуткамі самі давялі сябе да неверагоднай хваробы. Але праява стала ўсё ж і клопатам сужэнцаў, калі яны зразумелі, што на востраў, які, акрамя прыбярэжнага лапіка, па ўсіх інвентарах і люстрацыях лічыўся «землей впусте лежачой», нехта паклаў сваё вока. Клопат падвоіўся, калі высветлілася, што гэтым нехта была радня Матруны. Як горка ёй ні было, але давялося быць цвёрдай і няўмольнай. У Гомелі шмат чаго яшчэ магло перамяніцца. І да лепшага, і да горшага. Так, у танцы людзі паміралі. Але ж гэта не значыла, што смерць абавязкова павінна была забраць там бацьку, маці, братоў. «Баба надвое варажыла», – паўтарала сабе дзяўчына, думаючы пра лёс горада. Яе ўласнае шчасце сумневу не падлягала. Шчасце было тут, на востраве, і перавозчыца збіралася бараніць яго ад усяго на свеце. Танцавальная трасца бачылася ёй не самай страшнай пагрозай…

Калі галава «змейкі» з постацямі родных знікла за паваротам на схіле да прадмесця, Матруна скіравала паром да вострава. Са стадолы вызіраў мілы друг. Цягам усёй гутаркі жонкі з сямейнікамі ён цікаваў за дзеяй, захапляючыся ўбачаным і пачутым. Прыстаўшы да берага, жонка спрытна замацавала паром вяроўкай да слупка.

«Як ты?» – спагадліва пацікавіўся муж.

«Пойдзе. У іх там то танцы, то вайна. А я любові і свабоды хачу», – адказала перавозчыца, раскідваючы рукі для абдымання.

Мілы друг прыгарнуў яе да сябе і, сагнуўшыся ў тры пагібелі, адарыў працяглым пацалункам.

З ніадкуль падняўся вецер. Густы цень з барвовымі водсветамі накрыў востраў. У небе над ім вісеў вялізны серабрысты круг, мігценне чырвоных агнёў якога клікала мілага да сваіх. Не аслабляючы абдымкаў, пара задуменна стаяла на беражку. За рукавом Сожа залівіста зашчабяталі салаўі.

*2020 г.*

# АЛЕСЬ БЫЧКОЎСКІ

## КАМЕННАЕ СЭРЦА

Здавён часу чалавецтва мае патрэбу ў навінах. Часам паесці не дай, абы толькі паслухаць, што наўкола дзеецца. Хаця тут я мо трошкі перабольшваю значнасць маёй прафесіі, бо, як ні круці, спачатку на першым месцы заўсёды хлеб, а затым ужо відовішчы і забавы, у шэрагу якіх і паглынанне навін. Таму мой род заняткаў не страціў актуальнасці нават і тады, калі прыгожым днём аднойчы настаў вялікі трындзец усяму наўкола. Ну, ці амаль усяму. І хоць збольшага былыя каштоўнасці, якімі так ганарылася наша цывілізацыя, страцілі вабнасць і саступілі месца новым, бо з'явіліся новыя людзі, але ж патрэба ў хлебе і навінах засталася, як і тысячы гадоў таму.

Так, рэпарцёрства засталося ў пашане і пасля падзення з нябёсаў Філасофскага Каменя, калі перакуліўся звычны свет. І прызнаюся, сябры мае, здабываць інфармацыю – гэта амаль як шчыраваць на шахце, ну ці мо трошкі складаней. Дык жа праўда, што з вамі зробіцца ў шахце? Самае благое – трапіце пад завал і сканаеце. А вось працуючы топавым рэпарцёрам канала «Зоркі мегаполіса», трэба з'есці не адзін мех жалезнага бобу. Выпадае часам жыўцом лезці ў самае пекла.

Свет перастаў быць звыклым, калі на нашы галовы абрынулася зверху вялікая камянюка. Мы рады не далі, бо неспадзявана ў адзін дзень спраўдзілася ўсё тое, што паказвалі ў кіно пра канец свету. Затрусіла горы, закіпела вада ў акіянах, і калі праз немалы час усё аціхла, раптам высветлілася адсутнасць добрай паловы людского насельніцтва і, мякка кажучы, трошкі змяніўся рэльеф Зямлі-матухны. Звездары даўно прадбачылі падзенне аграмаднай глыбы з космасу, але ж, як гэта заўсёды бывае, візіт госця абярнуўся поўнай нечаканасцю. Калі чалавецтва ачомалася канчаткова, ад людзей засталася хіба траціна, а ў дзяржавах і межах знікла патрэба. Уладу ўзялі ваенныя. Многія з тых, хто выжыў, перасяліліся ў мегаполісы, абнесеныя высокімі сценамі і калючым дротам па перыметры. Кожны мегаполіс зверху ад небяспечнага дажджу і непагадзі абараняўся празрыстым купаламнакрыўкай. І як паўсюдна трубіла на ўвесь свет афіцыйная прапаганда, за сценамі была адно выпаленая планетнай катастрофай пустэча, у якой ніхто не жыў. Соваць нос па-за сцены, за перыметр без дай прычыны ўлады строга забаранілі, каб не занесці пад празрысты купал якой невядомай трасцы. Ваенныя пільна сачылі і ведалі сваю справу. Аднак жа многія былі ў курсе пра віруючае жыццё ў пустэчах, якое

вельмі адрозніваецца ад нашага мегаполіснага існавання. Праўдамі-няпраўдамі смелыя адважныя людзі зазіралі за сцяну і ўпотай вярталіся назад па сваіх каналах. Ваенныя ж гэтаксама людзі, і часам былі не супраць адхапіць добры хабар за дапамогу пераправіць чалавека на той бок перыметра ці адтуль кантрабанду прапусціць. Там, за сцяной, існавала і адшуквалася шмат каштоўнага. Метэарыт, атрымаўшы найменне Філасофскі Камень, даў шмат карыснага і небяспечнага. У пошуку сенсацый і дзеля цікаўнасці я апынуўся за тым бокам сцяны, дзе не было празрыстага купала над галавой, дзе за кожным кутком чакала небяспека. Мне свярбела назапасіць больш інфармацыі і напісаць кнігу пра жыццё ў пустэчах. Небяспечны занятак, за які могуць пазбавіць грамадзянства мегаполіса.

***

Бар Рудога Эрыка хаваўся пад зямлёй, у былым бамбасховішчы, збудаваным, як казалі, яшчэ ў дваццатым стагоддзі. Падобныя сутарэнні меліся даўней ва ўсіх правінцыйных райцэнтрах. Тутэйшае паселішча ўзнёсла называлася Сінім Воблачкам, у ім было дзясяткаў з пяць жылых пабудоў. Паселішча хавалася ў глыбіні пад кар'ернай стромінай, з вяршыні якой віднеліся сцены мегаполіса.

Нідзе не спыняючыся, ні з кім не размаўляючы, я тупаў напрамкі ў прыгаданае месца на ўскрайку Сіняга Воблачка. Руды Эрык, здаецца, ніколі не вылазіў на паверхню з уласнага «завядзення», не пакідаў прылаўка. Я нават падазраваў гаспадара бара ў дачыненні да сумных эксперыментаў кампаніі «Дарксайд траст» у галіне геннай інжынерыі, але падазрэнняў нічым не выказваў і ні з кім не дзяліўся высновамі. Бо як ні круці, а Руды Эрык быў маім адзіным надзейным каналам сувязі са светам-за-сцяной, і мне зусім не хацелася псаваць адносіны. Калі Эрык баіцца дзённага святла з-за генетычных дэфектаў скуры, то гэта толькі ягоная асабістая праблема. Мы ўсе моцна змяніліся, тыя, хто выжыў пасля катастрофы, і кожны меў уласную «фішку» – наступства ад кантакту з Філасофскім Каменем. Калі мы пасябравалі, я мусіў адразу прызнацца Рудому Эрыку ў дакладных прычынах маіх візітаў і пошукаў. У маім выпадку без шчырасці нельга. У пустэчах ніхто нікуды не швэндаецца без патрэбы, бо тэрыторыі-за-сцяной поўняцца разнаітымі істотамі, і далёка не ўсе сярод іх людзі, нават калі знешне і нагадваюць чалавека.

У памяшканні панаваў звычны паўзмрок з прахалодай. З наведнікаў толькі адзін чалавек прыткнуўся за сталом у дальнім куце і ці то хроп, ці то размаўляў сам з сабой. Эрык пазваў мяне ў гаспадарчае памяшканне.

– Ты ўжо тут траха намазоліў мясцовым вочы, людзі цікавяцца, – ціха мовіў Эрык.

Скінуўшы гружаны заплечнік, я паклаў яго на вялікі кораб перад Эрыкам.

– Я ж раз на месяц толькі і завітваю.

– І што з таго? Не ўпершыню, вось і прыкмецілі.

– Праблемы?

– Барані Бог. Проста засцерагаюся, каб у чый чэрап не трапіла думка, што ты візіцёр з мегаполіса. Лінчуюць адразу, ну ці пасля, як сцямнее, употай.

– Хто тады гасцінцы прыцягне?

– Дык я вось пра тое і кажу. Барані Бог. Але ж вашага брата не любяць.

Я пацiснуў плячыма. Можна і не тлумачыць. Пад празрыстым купаламнакрыўкай мы ў адноснай небяспецы. Сцены надзейна не прапускаюць ні мадыфікантаў, ні навалачы. А тут у Сінім Воблачку калі не паспееш схавацца ад дожджыку, то назаўтра скура скамянее, а мо ўвогуле злезе шматкамі да костак. Цяжка тутэйшым.

Я паволі развязаў заплечнік. Удзячны Руды Эрык шчыра радаваўся. Пральны парашок, сапраўдная кава

ў вакуумнай запакоўцы, харчова-вітамінныя капсулы, нават цукар і соль – усё да месца ў тутэйшай гаспадарцы. Ведаў бы Эрык, якімі хітрыкамі ды махінацыямі здабываюцца ўсе гэтыя рэчы, улічваючы татальны кантроль над размеркаваннем прадуктаў і паслуг. Але ж на якія толькі ахвяры не згодзішся дзеля прафесіі. Мне патрабавалася сенсацыя для канала «Зоркі мегаполіса», і знайсці яе я мог толькі тут, у пустэчах.

– Табе вядомае імя Слава Прайдзісвет па мянушцы Палец? – спытаўся я ў Эрыка.

– Даводзілася чуць, – бармэн пашкроб патыліцу. Я заўважыў, што на правай далоні не хапае сярэдняга пальца. – А навошта табе?

– Ім цікавяцца ваенныя, а дакладней – служба бяспекі мегаполіса. Фараоны вышэйшага класу.

– Так прама і цікавяцца?

– Не так ужо і прама, аднак выпаў гонар пабачыць гэтае імя ў спецыяльным спісе, куды ўносяцца асобы ў вышуку катэгорыі «В».

– І што тое павінна значыць? – не зразумеў Эрык.

– Ёсць катэгорыя «А». Гэта найвышэйшы прыярытэт вышуку, на які кідаюцца ўсе сілы. Літара «В» значыць «знайсці па магчымасці». Яшчэ ёсць «С» – «можна не шукаць». А пазнака «плюс» значыць знайсці і ліквідаваць. Дык вось, «В» ставіцца на асабістую справу, калі чалавек хаваецца ў пустэчах, дзе яго выявіць здольныя хіба што паляўнічыя на галовы. Карацей, дзе яго адсачыць амаль што нельга.

– Дазволь, а чым Прайдзісвет-Палец так зацікавіў вашу бяспеку?

– Мой інфарматар з уладных эшалонаў паведаміў, быццам нейкі ўнікальны ваш Слава Прайдзісвет. Прычым настолькі, што ваенныя атрымалі загад даставіць Славу ў мегаполіс, калі пашчасціць натрапіць на след.

– Разумею цяпер. Табе свярбіць апярэдзіць сваіх жа. То-бок папераду бацькі ў пекла.

– Ну, я не маю дачынення да ваенных, Эрык. У мяне свая служба – служба навін, – тут я пасміхнуўся. – А ў пекле мы і так даўно ўсе. Ведаеш, жыццё ў мегаполісе таксама не райскае. За ўсё разлічвайся, за ўсё адчытвайся, цьху… і хадзі па струнцы.

Мы пастаялі нема. Эрык вагаўся, ці выдаць мне інфармацыю, але зазірнуў у раскрыты заплечнік і выдыхнуў.

– Пару разоў Слава Прайдзісвет наведваўся ў наш край. Даўно, тады яго яшчэ не менавалі Пальцам. Усё, што мне вядома, Прайдзісвет быў удалым наймітам, суправаджаў караваны, пераараў пустэчы ўздоўж і поперак па ўсім мацерыку, бадай.

ТАБЕ ВАРТА СУСТРЭЦЦА З ПРАФЕСАРАМ. ЁН ЖЫВЕ Ў ЧОРНЫХ НОРАХ. ГЭТА ПАСЕЛІШЧА Ў ДВАЦЦАЦІ КІЛАМЕТРАХ АДСЮЛЬ НА ПАЎНОЧНЫМ УСХОДЗЕ, НА ТЫМ БАКУ ВЯЛІКАГА КРАТАРА.

Прафесар трошкі малахольны, памешаны на тэхнічных прыбамбасах. Яны абое рабое былі, сябры вадой не разліць. Кажуць, што Прафесар ужывіў у Прайдзісвета незлічоную процьму разнастайных імплантаў баявога назначэння. Быццам бы Слава дазволіў звар'яцеламу навукоўцу ставіць на сабе вопыты, і той зрабіў з сябра жывую ваенную машыну. Дакладна не скажу, але як ахоўнік караванаў Прайдзісвет быў у пашане.

– Слухай, а чаму Прайдзісвет?

– Дык сказаў ужо, перааараў-перамераў свет, ну ці палову свету, уласнымі нагамі ўздоўж і ўпоперак. Думаецца, ніхто лепш за Славу не ведае пустэчы.

Я зірнуў на гадзіннік. Трэба было хутка вырашаць.

– Пазычыш мне транспарт?

Эрык завагаўся.

– Бензолю мала зусім. Толькі туды хопіць, калі намыліўся ў Чорныя Норы.

– Мо разжывуся па дарозе?

Эрык з неахвотай даваў карыстацца трыцыклам, даводзілася ўламваць. Але пехатой дваццаць кіламетраў цераз пустэчы не вабіла.

– Небяспечны шлях, вандроўнік.

– Не хвалюйся, не першы раз. Трыцыкл вярну назад, – паабяцаў я.

– Прынясі наступным разам больш медычных аптэчак.

Мне не засталося іншага, як паабяцаць.

– Эрык, мае рэчы ў парадку?

– Магу пакрыўдзіцца, – ён паказаў на зачыненую шафу з замкомшыфрам.

Справа ў тым, што без зброі і адпаведнага адзення сунуцца ў пустэчы не мела сэнсу. Але пранесці штурмавую вінтоўку цераз сцяну я таксама не мог. Таму захоўваў належны рыштунак і амуніцыю тут, у бары Эрыка Рудога. Ён знік на хвіліну, потым вярнуўся, працягнуў мне пакет.

– Аддасі Прафесару, скажаш – ад мяне. У пакеце тутэйшыя далікатэсы з майго бара, я калісьці абяцаў. Так будзе зручней закантачыцца з ім.

Я падзякаваў і пачаў пераапранацца.

***

Трыцыкл спраўна тарахцеў па ледзь прыкметнай сцежцы, і я меркаваў цягам гадзіны дабрацца да Чорных Нораў. Глеба вакол была камяністай, сям-там ляжалі валуны. Аднастайныя змрочныя колеры пад трахкат матора гіпнатызавалі, навявалі сон. Пах паветранага пылу прабіваўся ў рэспіратар. Вочы надзейна хаваліся пад кантрасным шклом тактычных акуляраў. На мне стройчык, у якім можна перажыць дождж, на руках – пальчаткі.

Кіламетраў праз сем я дабраўся да Вялікага Кратара. Сцежка агінала страміну, з правага боку зеўраў глыбокі правал, засланы ў дне белымі клубамі туману. Часам клубы ў далёкай глыбіні перамяжоўваліся спалахамі агню. У нябёсах жа царавала шэрая імгла ўперамеж з доўгімі яркафіялетавымі плямамі.

Даўно ўжо я існаваў агорнуты болем, які не здольны вылечыць ніводзін доктар. Тое боль страты і шчымлівай тугі па зялёным дрэве, небе ў ясным блакіце і яркім сонейку. Боль па нашай чалавечай існасці, які ўзнік, калі мы абрабавалі і амаль знішчылі планету, падораную Богам нам для жыцця. Я пазіраў у неба, зацягнутае таўшчэзнымі хмарамі, якія, здавалася, свяцяцца знутры нездаровым бляскам, і разумеў: да скону не ўбачыць мне сонца. І душа мая існавала ў пакутах. Хоць сцвярджалі ў адзін голас ідэолагі мегаполіса, маўляў, душы няма, а што ж тады ўнутры баліць, калі глядзіш на неба? Справа ў тым, што мы даўно ўжо забыліся, як выглядае сонца.

Ніхто не даў рады, калі з космасу прыляцела аграмадная каменная глыба і ўвайшла ў зямную атмасферу. Госцю выявілі дужа позна, калі тая была ўжо на адлегласці Месяца. Думалі – абміне, аднак арбіта выгнулася па даганяючай траекторыі збліжэння. Прыцягнуты гравітацыяй, чыркнуўшы па верхніх слаях паветранага акіяну, метэарыт пачаў гарэць і распадацца. Мы аказаліся зусім не падрыхтаванымі да апакаліпсісу, хоць у свеце шмат вады налілі на падобную тэму. Ані ядзерныя ракеты, якія прапаноўвалі падняць на арбіту, ані касмічныя станцыі – нішто нас не ўратавала.

Разбурыўшыся на кавалкі, метэарыт выклікаў падзеннем вялікія хвалі цунамі і атмасферныя віхуры. Хмары з пылу і пяску ўзняліся высока, засланілі сонца, абрынулі паўзмрок на ўвесь свет. Трыма словамі можна апісаць

У НЯБЁСАХ ЖА ЦАРАВАЛА ШЭРАЯ ІМГЛА ЎПЕРАМЕЖ З ДОЎГІМІ ЯРКАФІЯЛЕТАВЫМІ ПЛЯМАМІ.

тагачаснае становішча: кроў, агонь, смерць. Цягам содняў на планеце ўсталявалася тое, што даўней аўтары разумных кніжак апісвалі як ядзерную зіму. Але не гэта было самым жахлівым.

Нябесны госць утрымліваў у сабе нешта чужое і надзвычай небяспечнае. Тое, што магло ўплываць на ўсё жывое і змяняць біялагічныя віды. І яно напоўніцу змяніла нашы жыцці, каштоўнасці і мары пра будучыню.

Метэарытнае рэчыва на шмат адсоткаў складалася з невядомай палімернай арганікі, якая ў сукупнасці з другім невядомым кампанентам паводзіла сябе дужа агрэсіўна да навакольнага асяроддзя. Калі дакладней, рэчыва метэарыта пачало змяняць структуру, хімічны склад і знешні выгляд усяго, да чаго датыкалася. Гэта можна параўнаць з дзеяннем камп'ютарнага вірусу або ракавай клеткі. Яно змяняла ўсё наўкола і пакрысе захапіла свет, усю планету.

Цудам адноўленыя даследчыя цэнтры ставілі разнастайныя эксперыменты з рэчывам і дамагліся ўнікальных вынікаў. Аскепкі падарунка космасу выяўляліся паўсюдна, яны ўзмацнялі ўласцівасці рэчываў і знайшлі ўжытак ва ўсіх сферах нашай жыццядзейнасці. Новыя віды зброі, медычныя сродкі, акумулятары энергіі, паскаральнікі метабалізму, шмат новага даў нам прыбылец, але гэта была бадай тысячная доля з усяго. Ён узмацняў браню і прабіўныя характарыстыкі куль, ён загойваў раны і вылечваў безнадзейна хворых. Ён паглынаў, пераўтвараў і выдзяляў энергію.

Падарунак нябёсаў так і назвалі – Філасофскі Камень.

Аднак наш Філасофскі Камень не пераўтвараў ртуць у золата, як марылі алхімікі Сярэднявечча. Золата проста страціла каштоўнасць. Філасофскі Камень сам зрабіўся каштоўнасцю, даражэйшай за любое золата, і ён цалкам пераўтварыў планету, перадусім спыніўшы эфект ядзернай зімы. Вось толькі сонца мы так і не ўбачылі, адно новыя адценні ў хмарах.

Нешта падказвала: купалы-накрыўкі над мегаполісамі – абарона часовая. Дзе-нідзе мы рабілі кволыя спробы адаптавацца да новага жыцця без выкарыстання тэхнічных сродкаў абароны. Ды дзе там! Расла ўва мне ўпэўненасць, што падобная дзея пад сілу хіба насельнікам пустэчаў, якіх згодна з афіцыйнай пастановай «няма». Мегаполісам з іх ваеннай хунтай і бюракратычнымі забаронамі адназначна цяпер наканаваны шлях у нябыт. Праўда, я прытрымліваў гэтыя свае думкі для запланаванай кнігі. Не хацелася пакуль нажываць клопатаў, выпадкова ляпнуўшы лішняе.

Да слова, адным Філасофскі Камень бачыўся панацэяй, другім стаў праклёнам, іншым – крыніцай казачнага ўзбагачэння. На рознакаляровыя кавалачкі метэарыта палявалі, іх здабывалі, вышуквалі, выведвалі ўчасткі падзення, куплялі-прадавалі, кралі-рабавалі, заваёўвалі і дарылі. Аскепкі дзяліліся па колеры і ўласцівасцях, ім давалі дзіўныя найменні: зіхавец, брунат, сінька, чырвень, чорная соль, усмешка вясёлкі і нават энцыкліка рымскага папы. Напрыклад, з зіхаўцу і чырвеню выраблялі энергетычныя элементы. Чорная соль гаіла адкрытыя раны. А з неверагодна чорнага адцення энцыклікі майстравалі ўпрыгожванні ў выглядзе кулонаў і бранзалетаў і збывалі іх на чорным рынку мегаполіса, за сцены якога праносілі кантрабандай, адсланіўшы як след ваенным.

Калі цяжкія хмары разрадзіліся першым пасля катастрофы ліўнем, ніхто яшчэ не ведаў пра наступствы гэтага дажджу. Праз пару гадзін у жывых істот павыпадалі валасы, здубянела скура, а потым адбылася трансмутацыя-пераўтварэнне. Праўда, чалавечыя арганізмы не вытрымлівалі і гінулі, а вось з жывёл атрымаліся пачварныя камняскурыкі. Іх з'яўленне было першай хваляй змен у свеце, услед

за імі прыйшлі матрычныя блашчыцы, секачы-забойцы і іншая мутацыйная жуда, агульным тэрмінам пазначаная як мадыфіканты. У дачыненні ж да людзей новыя біялагічныя віды паводзілі сябе дужа агрэсіўна.

***

Мне ніхто не патлумачыў, што адзінокія дзеці ў пустэчах могуць аказацца небяспечнейшымі за самага жахлівага монстра. Хутчэй спрацаваў інстынкт. За чарговым валуном, калі да пункту прызначэння было амаль рукой падаць, я мусіў запаволіць хаду трыцыкла з-за бездарожжа. Матор чыхнуў-пыхнуў, быццам пажадаў сам сабе добрага здароўя, і, як мне падалося, з нехацяём успрыняў навязаны абставінамі новы рэжым хуткасці. Трыцыкл падскокваў не раўнуючы як у танцы, тросся, калаціўся, ува мне ажно скуксіліся вантробы, і я баяўся, каб стырно не выслізнула з рук. Колькасць валуноў пабольшала, запятляла сцежка. Прыкінуўшы ў думках, я зрабіў выснову, што да Чорных Нораў яшчэ кіламетр з гакам. Не хацелася, каб жалезны конь Рудога Эрыка сканаў вось зараз. Тады лішняй бляшанкай кавы не адкупіцца, Эрык не даруе. Таму тэхніку важна не ўхойдаць. І тут раптам пасярод сцежкі ўзнікла проста нерэальнае малявідла.

Прама з зямлі вырасла вялікая кветка, падобная ці то да ружы, ці то да качана капусты, без сцябла. Металёва-ртутнага колеру пялёсткі раскінуліся ўшыркі ва ўсе бакі і зіхацеліпераліваліся незямным святлом. Ртутныя кропелькі вадкасці бесперапынна збягалі, сцякаліся з цэнтра ўздоўж пялёсткаў і струменіліся па краях, парушаючы законы гравітацыі. Кветачка мела метры тры ў дыяметры і прыкладна метры паўтары ў вышыню. Некалькі імгненняў я зачаравана разглядаў гэтае дзіўнае стварэнне, параджэнне Філасофскага Каменя. Тужавіца. Мне даводзілася чуць пра тужавіцу. Казалі, яны растуць далёка на ўсходзе, а іхняе сцябло хаваецца пад зямлёй і доўжыцца дзясяткі метраў. Недзе далёка тужавіцу звалі яшчэ груснічкай. Аднак не тое прыцягнула маю ўвагу найбольш. У самым цэнтры суквецця знаходзілася дзіця, выглядам гадкоў на пяць-сем. Нерэальнай прыгажосці дзяўчынка. Белыя кучаравыя валосікі баранчыкамі рабілі галаву падобнай да дзьмухаўца. На амаль мармуровым тварыку ясна-блакітныя вочы нагадвалі вялікія гузікі. Дзяўчынка была басаногая і ў белай сукенцы і, як магла, адбівалася-адмахвалася палкай ад нейкай адзінокай інсекты, што нагадвала саранчу. Са стрэкатам і віскам інсекта атакавала з аднаго боку, з другога, зверху, спераду-ззаду, але беспаспяхова. Дзяўчынка ўпэўнена трымала абарону, хоць на тварыку панаваў спалох. Падалося нават, што тужавіца ртутнымі пялёсткамі дапамагае абараніць дзяўчынку ад нападніка. Скажу я вам, саранча была з тры далоні дарослага чалавека ў даўжыню. Скарыстоўваць штурмавую вінтоўку не мела сэнсу. Інсекта хутка змяняла пазіцыі для атакі, я не здолеў бы належным чынам прыцэліцца, каб знарок не параніць дзіця. Таму я злез з трыцыкла, выхапіў з бардачка пад сядушкай даўбню, прыхаваную клапатлівым Эрыкам у якасці «запаснога варыянту на ўсялякі выпадак», і рынуўся на дапамогу.

І тут я заўважыў, што саранча не адна. Штук пяць яе «паплечніц» замёрлі збоку і сачылі за двубоем, быццам папярэдне дамовіліся і зрабілі стаўкі. Дзяўчынка ўскрыквала раз-пораз і відавочна траціла сілы з кожным махам палкі. Аднак я змог перавесці агонь на сябе і даць дзіцяці перадыхнуць. Зграя саранчы адразу напала на мяне скопам. Я махаў даўбнёй, круціўся і пакрысе паддаваўся адчайнаму песімізму наконт перспектыў фіналу вар'яцкай бойкі. Перспектывы выглядалі дужа благімі. Саранча неўзабаве падзялілася

па двое і метадычна нападала адначасова з розных бакоў. Здаецца, яна мела інтэлект, гэтая саранча. Даволі хутка я змакрэў і пачаў адчуваць недахоп паветра. Штосьці джвагнула ў спіну, у плечы, пракусіла камбез. Пранізлівы боль, на гэты раз сапраўдны, цялесны, а не душэўны, вымусіў мяне ўскрыкнуць. З лямантам я кінуўся ў атаку і нават адну нападніцу ўсё ж дастаў. Пачварына ўспыхнула полымем і згарэла, не даляцеўшы да зямлі. Я быў на імгненне вельмі агаломшаны ўбачаным, тое мяне і згубіла. Я прапусціў атаку. Ніколі не бачыў, каб саранча мела на канцы джала. Доўгае, сантыметраў з пятнаццаць. З хрупаннем джала ўваткнулася мне ў грудзі, прабіла тканіну камбеза і з хлюпаннем увайшло напоўніцу, працінаючы сэрца. Я тарганууўся, разумеючы, што мне хана. Высакародны скон – за дзіця, а значыць за будучыню, пафасна падумалася мне ў якасці суцяшэння. Я балюча ўпаў на спіну і заплюшчыў вочы. У апошні момант па твары захвасталі струмені лівеню.

***

У дзяцінстве мне часта бачыўся адзін і той жа сон. Я шпарка бягу па бяскрайнім полі, на якім каласіцца спеллю залатое жыта і з прадоннай сапфіравай сінечы нябёсаў ліецца святло шчодрага сонца. Увушшу раздаецца загадкава-таямнічае гучанне зорнага амбіента, і па небе раптам пралятаюць чарадой касмічныя караблі з распасцертымі панэлямі сонечных батарэй. Я бягу, поле не канчаецца, і ўся мая існасць напаўняецца шчымлівай радасцю. Мне таксама хочацца ляцець.

ГЭТЫ СОН З ДЗЯЦІНСТВА – МОЙ САМЫ ЛЕПШЫ ЎСПАМІН ПРА МІНУЛАЕ. ЁН ПРЫГЛУШАЕ БОЛЬ СТРАТЫ, ЯКІ, МАБЫЦЬ, КАТАВАЎ І АДАМА З ЕВАЙ, КАЛІ ЯНЫ МУСІЛІ ПАКІНУЦЬ ЭДЭМ.

І той наш Эдэм ужо не вярнуць. Ці магло так стацца, што Творца сусвету наўмысна паслаў на нас Філасофскі Камень, каб вылечыць планету ад наступстваў нашай жа жыццядзейнасці? Калі канчатковай мэтай прылёту Каменя ёсць стварэнне новага віду чалавека, то працэс ужо рушыць поўнай хадой. І вынікі ж прадбачыць няма як, бо «стары» чалавек яшчэ жыве, дыхае і актыўна супраціўляецца.

***

Ачомаўся я ў халоднай пустаце, так мне падалося. Расплюшчыў вочы з-за зыркага святла. Паварушыўся і выявіў, што ляжу на цвёрдай паверхні. Вочы хутка прывыклі, і я змог нарэшце разлічыць доўгія люмінісцэнтныя лямпы. Я здолеў прыўзняцца. Пальцамі намацаў шыльдачку на паверхні. Павярнуўся, выхапіў позіркам надпіс «Медычны бокс нумар… уласнасць карпарацыі «Дарксайд траст»». Дарэчы, названая фірма займалася медыцынскімі доследамі ў галіне геннай інжынерыі, і яе даўно скасавалі з-за забароненых эксперыментаў. Часам усплывалі пагалоскі пра пакінутыя лабараторыі карпарацыі, прыстасаваныя да ўласных патрэб жыхарамі пустэчаў. Але як я тут апынуўся? Дакрануўшыся да грудзей, я намацаў шрам. І яшчэ – я быў галяком.

Неўзабаве высветлілася, што за мною назіраюць. Адсунулася частка бокса, і паверхня, на якой я ляжаў, павольна выехала вонкі. Я апынуўся ў памяшканні склада з нагрувашчаннем розных скрынак і корабаў. І нарэшце здолеў сесці.

Убачыў перад сабой барадатага дзядзьку з кудлатымі валасамі, у белым халаце. Дзядзька трымаў у руках мой камбез.

– Апранайся, – сказаў ён, паклаў адзенне побач са мной і паказаў на боты, якія стаялі побач.

Я моўчкі падпарадкаваўся. Дзядзька з задавальненнем паназіраў

за маімі рухамі, пацёр далоні і схаваў рукі ў кішэні халата, калісьці вельмі белага.

– Цудоўна, – сказаў ён нібыта пахваліў сам сябе. – Аперацыя прайшла цудоўна.

– Дзе я?

– Сардэчна вітаю ў Чорных Норах. Мяне завуць Прафесар. Памятаеш, што адбылося?

– На мяне напала незвычайная саранча.

– Цудоўна, – паўтарыў ён. – З памяццю праблем не ўзнікла. Цябе джвагнула лятучая ўдавіца. І ты правёў у адключцы трыццаць шэсць гадзін.

Апошняя навіна мяне засмуціла. Па шчырасці, ужо гадзін дванаццаць таму я павінен быў вярнуцца ў мегаполіс, каб момант супаў з дзяжурствам знаёмых ваенных. Вынікала, цяпер ужо скрозь кантрольна-прапускны партал без наступстваў мне не прайсці. І хутка адміністрацыя «Зорак мега-поліса» высветліць маё знікненне, усчыніцца вэрхал. Я змрочна пацікавіўся, што за трасца такая – лятучая ўдавіца?

– Праект «Абадон», які выйшаў з-пад кантролю. Іншая назва: апакаліптычная саранча. Сямейства ваенных дронаў. Штучныя пачвары поўнасцю аўтаномныя, нападаюць без папярэджвання зграямі па некалькі штук. Месцазнаходжанне кіруючага камп'ютара «Анёл бездані» нікому не вядома.

– Здаецца, яны надзелены розумам.

– Так. Кожная ўдавіца забяспечана эмуляцыяй інтэлекту з блокам саманавучання. Наогул сустрэць дроны гэтага сямейства – справа вельмі-вельмі рэдкая. Іх амаль не засталося.

– Мне пашанцавала.

Я нарэшце апрануўся, насунуў боты і злез з мабільнага аперацыйнага стала. Назваў сваё імя, хто я і з якой мэтай накіроўваўся сюды. Чаму і не? Якія могуць быць таямніцы ад чалавека, які ўратаваў мне жыццё?

Прафесар пашкроб бараду і запрасіў «у кабінет».

Потым мы сядзелі і размаўлялі. Дзядзька-барадун частаваў мяне разагрэтымі кансервамі, салодкай пліткай і эрзац-кавай. Скуль столькі шчодрасці?

– За мае паслугі добра разлічваюцца, – намякнуў Прафесар. – Я тут накшталт урача, адзінага на ўсё наваколле, радыусам кіламетраў на пяцьдзясят, ну ці трошкі менш. Ты не хвалюйся, з цябе дакладна аплаты не патрабую. Наадварот, цяпер у чымсьці я табе павінен.

Я моўчкі еў і слухаў.

– Тое дзіця – мая дачка.

І я перапыніў дыханне.

– Праўда, павер, яна здольная самастойна расправіцца з лятучымі ўдавіцамі. Ці заўважыў ты што дзіўнае ў іх паводзінах у момант атакі?

– Напала адна, астатнія чакалі, пакуль я не ўлез.

– Вось-вось. Азалія аддала ментальны загад астатнім нападнікам чакаць, каб было зручней расправіцца.

– Ментальны загад дронам? – я ледзь не падавіўся.

– Азалія – здольная дзяўчынка. Зусім не падобная да людзей, можна сказаць, яна новы від… Але ж, як ні кажы, з'яўленне апакаліптычнай саранчы аказалася нечаканай падзеяй для ўсіх нас. І хоць дзіця не разгубілася, тваё з'яўленне было на руку.

Нішто сабе, «на руку». Прафесар працягваў распавед.

– Вас на сканеры заўважыў Слава Прайдзісвет. Дарэчы, Слава і даставіў цябе, амаль нежывога, сюды, затым усё расказаў. Убачыўшы для мяне пакет ад Рудога Эрыка і пачуўшы, як ты самаадданa абараняў Азалію, я вырашыў цябе ўратаваць. Нарэшце спатрэбіўся і спісаны рэанімацыйны бокс, адноўлены дзеля падобных выпадкаў.

Я падзякаваў. Для прыліку мы яшчэ перакінуліся словамі пра нязначныя

рэчы, і я нарэшце раскрыў мэту вылазкі ў пустэчы – пачуць з першых вуснаў гісторыю загадкавага для мяне Прайдзісвета. Прафесар ветліва пасміхнуўся і не стаў рабіць вялікіх таямніц.

– Калі Слава быў салдатам, яму падчас ваеннага рэйду адарвала ногі выбухам бомбы. Я выпадкова знайшоў бедака ў дужа знявечаным стане, але жывога, завалок сюды і паставіў замест ног імпланты-пратэзы. Тады мы і пасябравалі. Слава стаў наймітам і ваяваў далей. Пасля фугасам яму знесла левую руку, а аскепкамі пасекла вантробы – усё давялося таксама пратэзаваць, ужыўляць штучныя замяняльнікі. Любімы занятак найміт не кінуў і пасля. Калі чарговым выбухам адбіла галаву, сумневу ўжо не ўзнікала: тэхналогіі дазволілі замяніць і мозг, і вочы, і луджаную глотку. Нарэшце застаўся ў чалавека толькі ўказальны палец на правай руцэ, якім ён звык націскаць спускавы кручок зброі. Усе астатнія часткі цела былі замененыя імплантамі-пратэзамі. Уяві, ад усяго цела ў Славы родным застаўся толькі гэты палец. Тады за ім і замацавалася мянушка. Вось і ўся гісторыя.

Прызнацца, я трошкі расчараваўся ад пачутага, гісторыя падалася кароткай, хоць і займальнай.

– На сённяшні момант Слава заклапочаны праблемай самавызначэння. Найміт прайграў камусьці ў покер апошні палец і не можа даць рады, даказаць самаму сабе, што застаўся чалавекам, а не наборам нейравалакна, квантавых працэсараў і тытанавых костак пад штучнай скурай.

Прафесар памаўчаў і тарганаў мяне за рукаво.

– Паслухай, у свеце шмат людзей, якія маюць родныя рукі-ногі, а назваць іх людзьмі язык не паварочваецца. А Слава – гэта унікум, феномен, ён цалкам складаецца з імплантаў. І каб не забыцца, што ён чалавек, Слава прысвяціў сябе добрым справам, дапамагае насельнікам пустэчаў, якія трапілі ў бяду. Вось каб не Слава, ты сканаў бы тамака каля тужавіцы.

– Зразумела цяпер, чаму вашага Славу вышуквае служба бяспекі мегаполіса, – заўважыў я. – Чалавек, у якога ані грама чалавечай плоці.

– Дазволь спытацца, навошта ты кінуўся ратаваць Азалію, загадзя ведаючы, што безабаронныя істоты не сустракаюцца ў пустэчах?

– Дык жа дзіця…

– Вось яно – маркер людскасці. Любоў да праяў жыцця, да жывой істоты робіць з нас тых, кім мы ёсць.

Прафесар яўна не цураўся пафасу. Я раптам успомніў, як джала лятучай удавіцы ўстромваецца мне ў грудзі, ажно засвярбеў загоены шрам, і занепакоіўся.

– Прафесар, якога роду аперацыя была праведзена мне?

– Го! Не сказаў важнага, малады чалавек. Тваё роднае сэрца давялося выдаліць і паставіць імплант. Але не звычайны пратэз з электронным начыннем, а біялагічны орган, штучна ўзрошчаны на палімерах Філасофскага Каменя.

Мне памласнела, я зачасаў грудзі.

– Цяпер у цябе замест сэрца самы сапраўдны камень, як у казцы.

Прафесар хлопнуў далонню па маім плячы.

– Павер, не варта хвалявацца. У пэўным сэнсе з новым сэрцам ты

ДЛЯ ПРЫЛІКУ МЫ ЯШЧЭ ПЕРАКІНУЛІСЯ СЛОВАМІ ПРА НЯЗНАЧНЫЯ РЭЧЫ, І Я НАРЭШЦЕ РАСКРЫЎ МЭТУ ВЫЛАЗКІ Ў ПУСТЭЧЫ – ПАЧУЦЬ З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ ГІСТОРЫЮ ЗАГАДКАВАГА ДЛЯ МЯНЕ ПРАЙДЗІСВЕТА.

гэтаксама цяперака паўнавартасны жыхар пустэчаў. Разумееш?

Барадун даў мне час усвядоміць пачутае. Зваротны шлях у мегаполіс мне закрыты, бо першая ж медкамісія выявіць штучнае сэрца – і тады капут, калі выведаюць паходжанне органа. Прафесар узяў мяне за локаць і вывеў на вуліцу. Рэспіратарная маска, на дзіва, не спатрэбілася.

– Вось бачыш, ты ўжо цудоўна дыхаеш тутэйшым паветрам. Палімеры з Філасофскага Каменя адаптуюць цябе да знешняга асяроддзя.

Я азірнуўся наўкола. Парывы слабага вятрыскі сям-там уздымалі пыл. З вокнаў дамоў дзе-нідзе павысоўваліся людзі і глядзелі ў наш бок. Ужо знаёмая блакітнавокая дзяўчынка гулялася з каменяскурыкам, які, відавочна, да таго, як патрапіў пад дождж, быў кацейкам. Каменяскурык рохкаў і не звяртаў на нас увагі. Мабыць, мадыфіканты праяўляюць агрэсію толькі ў адносінах да жыхароў мегаполісаў.

Я адчуваў, як каменнае сэрца б'ецца, напаўняючы жыццём маю існасць. Наплылі радасць і асалода, падобныя да тых, што былі ў далёкім дзіцячым сне. І вакол нічога варожага больш не існавала. Усё ўспрымалася родным і неадрыўна сваім. І зброя была ўжо лішняй, непатрэбнай. З каменным сэрцам я адчуваў сябе чалавекам больш, чым раней.

З-за рога вуліцы паказалася постаць чалавека, які крочыў да нас. Аранжавым святлом з вачэй ён падсвечваў сабе пад ногі. Гэта быў Слава, які прайшоў свет. Чалавек, у пошуках якога я знайшоў нешта большае, чым проста ўдалую гісторыю…

***

Цяпер, калі мінула шмат часу, я сяджу ў сваім працоўным «кабінеце» ў бункеры на глыбіні дваццаць метраў пад зямлёй, слухаю архіўныя запісы ўспамінаў усіх тых, з кім мне давялося сустрэцца ў пустэчах і хто згадзіўся дапамагчы мне ў збору матэрыялаў для кнігі. Дарэчы, гэта вельмі вялікая кніга, і я яе ўсё ніяк не магу скончыць, бо колькі жыве на свеце людзей, столькі і гісторый, то-бок асобных частак для задуманай анталогіі. Усе гэтыя людзі па-свойму перажылі наступствы падзення Філасофскага Каменя, кагосьці ўжо няма і сярод жывых.

Я гартаю спісаныя аркушы іх успамінаў або мяняю ў прайгравальніку чыпы флэш-памяці з надыктаванымі расповедамі і дзіўлюся кожнай гісторыі, бо кожнага сюжэта хапіла б, мабыць, на раман.

Я ГАРТАЮ СПІСАНЫЯ АРКУШЫ ІХ УСПАМІНАЎ АБО МЯНЯЮ Ў ПРАЙГРАВАЛЬНІКУ ЧЫПЫ ФЛЭШ-ПАМЯЦІ З НАДЫКТАВАНЫМІ РАСПОВЕДАМІ І ДЗІЎЛЮСЯ КОЖНАЙ ГІСТОРЫІ, БО КОЖНАГА СЮЖЭТА ХАПІЛА Б, МАБЫЦЬ, НА РАМАН.

Да слова сказаць, у мегаполіс я так ніколі і не вярнуўся, а другі перыяд жыцця, які ў мяне пачаўся разам з «каменным сэрцам», я прысвяціў доследам пустэчаў. Я шмат дзе хадзіў і многае бачыў, мне пашчасціла сустрэць нямала дзівосаў. І я ні аб чым не шкадую, а надыктаваныя і запісаныя ўспаміны лічу самым вялікім багаццем і здабыткам у новым жыцці. Дарэчы, мне свярбіць падзяліцца ім з зацікаўленымі асобамі. Калі ласка!..

# АДАМ ГЛОБУС

## Ц

*Фантастычныя гісторыі і казачныя апавяданні з універсама «Цэнтральны», што ў Мінску*

*Тутэйшым хіпі разам з іх сістэмай прысвячаецца*

**1. Маргарыта Мак і кот**

Вакол універсама «Цэнтральны» пачаў бадзяцца мужчына ў шэрым палітоне. Ён хадзіў па праспекце і па суседніх дварах ды расклейваў на слупах і дрэвах абвесткі, у якіх пісалася, што прапаў чорны кот па мянушцы Барс. Тым, хто знойдзе і верне жывёлу гаспадару, абяцалася ўзнагарода ў сто рублёў. На той час, можна сказаць, вялікія грошы – месячны заробак прыбіральшчыцы з «Цэнтральнага». Каб хто таго Барса знайшоў, дык вярнуў бы абавязкова. Патэлефанаваў бы па нумары, напісаным у абвестцы, і атрымаў бы законную сотку. Але Барс не знаходзіўся.

Мужчына ў шэрым палітоне кружляў вакол «Цэнтральнага», ажно пакуль на яго не накрычала апантаная Маргарыта Мак. Была ў «Цэнтральным» такая паэтка. Яна часта сядзела на крамных прыступках і бясконца пісала хімічным алоўкам вершы ў тоўсты сшытак. Свой аловак Маргарыта ўвесь час слініла, таму і язык яе, і вусны былі чорна-сіняга колеру. З сіня-чорнага рота Маргарыты і вырваўся вар'яцкі крык: «Д'ябал! – паэтка крычала на ўсю краму і паказвала сваім крывым сінім пальцам на мужчыну ў шэрым палітоне. – Д'ябал! Паглядзіце: у яго на галаве – белыя рогі!!!» Пакупнікі і прадаўшчыцы ўважліва паглядзелі на мужчыну, які шукаў свайго ката Барса, і пабачылі на яго галаве магутныя белыя бычыныя рогі. Ніхто і варухнуцца не паспеў, як беларогі д'ябал пакрыўся чырвонымі пялёсткамі полымя. За адно імгненне ёнператварыўся ў вогненны слуп, згарэў і прапаў. «Што я вам казала? Што? Д'ябал быў сярод нас! Д'ябал!!!» – не супакойвалася Маргарыта Мак. Прадаўшчыцам нават давялося выклікаць для яе карэту з санітарамі. Яны звезлі паэтку ў лякарню, і больш яна не пісала хімічных сініх вершаў, седзячы на крамных прыступках.

**2. Вадзім Грэчка і галубы**

На ганку ўніверсама «Цэнтральны» пачалі з'яўляцца хворыя галубы. Сядзіць такі натапыраны птах, галава

да крылаў прыцягнутая, пад хвастом – лужынка. Глядзець балюча. Няцяжка здагадацца, што нехта пачаў труціць галубоў. То ў адным месцы, то ў другім можна было пабачыць жменькі кукурузных палачак. Галубы падзяўбуць тых залацістых, прыпраўленых атрутаю палачак – і паміраюць.

Мясцовыя амапаўцы вырашылі заступіцца за птушак і ўгледзелі, як салідны мужчына крадком раскідае ў арцы, што выходзіць на Кастрычніцкую плошчу, атручаныя кукурузныя палачкі. Амапаўцы паспрабавалі затрымаць мужчыну, але той аказаў супраціўленне. Ён разбіў аднаму ахоўніку правапарадку нос, другому зламаў руку, а трэцяму адкусіў мочку правага вуха. Амапаўцы азвярэлі і білі мужчыну нагамі так, каб забіць. Яны і затапталі б яго, каб той раптам не ператварыўся ў сабаку. Ад нечаканасці амапаўцы аслупянелі, а тым часам сабака ўцёк. Пад гасцініцай «Еўропа» ён зноў перакінуўся ў мужчыну, які хуткім крокам перайшоў вуліцу, сеў у аўтобус, з'ехаў у бок Палаца спорту і прапаў.

Амапаўцы яшчэ доўга шукалі мужчыну, які труціў галубоў кукурузнымі палачкамі і мог лёгка ператварацца ў сабаку. Шукаць шукалі, але знайсці так і не знайшлі. Дзе ты знойдзеш пярэваратня? То ён чалавек, то сабака, то яшчэ чорт ведае хто і што. Чорт, вядома, цудоўна ведаў пярэваратня, які труціў богааблічных птушак. Бо менавіта чорт і спалохаў галубоў, каб тыя абгадзілі парадны мундзір палкоўніка міліцыі Вадзіма Грэчкі.

…Палкоўнік Грэчка збіраўся на парад. Яму даручылі ганаровую справу – стаяць на вайсковым парадзе на адной трыбуне з прэзідэнтам краіны. Ідучы туды, Вадзім Грэчка праходзіў каля «Цэнтральнага» пад балконамі і карнізамі, на якіх сядзелі сытыя галубы. Вясёлы чорт гучна пляснуў у ладкі – галубы спужаліся, паляцелі над параднай фуражкай палкоўніка і пакінулі на ёй вялізныя кляксы белашэра-белага памёту. Галубіныя кляксы аздобілі не толькі фуражку, яны паўпрыгожвалі кіцель і пагоны. Абпамёчаны палкоўнік міліцыі на парад не з'явіўся, ганаровае заданне не выканаў, атрымаў ад начальства наганяй і неўзабаве выправіўся на пенсію.

Злосць так душыла адстаўного палкоўніка Вадзіма Грэчку, што ён вырашыў патруціць усіх галубоў, што жылі каля ўніверсама «Цэнтральны». Трэба сказаць горкую праўду: ён патруціў шмат птушак і труціў іх, ажно пакуль за галубоў не заступіліся амапаўцы. Праз той добры намер яны моцна пацярпелі, але богааблічных птушак абаранілі.

**3. Саша Рапс і вучань**

Саша Рапс выкладаў у школе біялогію. Старанна. З мужчынскай адказнасцю і педантычнасцю ён падыходзіў да працы. Рапс прапрацаваў у школе дваццаць гадоў і ніводнага разу не спазніўся на ўрок. Яго паважалі вучні і педагогі. Пасля працы Рапс заходзіў у «Цэнтральны» перакусіць выпіць з сябрамі. За адной з такіх вячэр я і пачуў ад яго гісторыю пра латыгольскі лес.

У час летніх канікул Саша Рапс вандраваў па Беларусі на ровары. Адна з вандровак была ў Латыголь. У тую самую, дзе Напалеон зняў з дрэўкаў свае вайсковыя сцягі. Дрэўкі Напалеона былі назаўжды закапаныя ў латыгольскіх балотах. Рапс ехаў праз тыя балоты і заехаў у лес. Ехаў ён па ім, ехаў і заблукаў. Саша Рапс так заблукаў у незнаёмым лесе, што яго ахапіў адчай. Ён ішоў, коцячы ровар па вузенькай сцежцы, і выйшаў на паляну, дзе было шмат сумных і маўклівых людзей. Сярод маркотных Рапс пазнаў свайго былога вучня – васьмікласніка Яна Кароткага, які трагічна загінуў, трапіўшы пад машыну.

Ян моцна здзівіўся, пабачыўшы школьнага настаўніка:

– Вы што тут робіце, Аляксандр Казіміравіч?

– Ян, я заблукаў. Бадзяюся па латыгольскім лесе, а выехаць з яго не магу. Можа, ты ведаеш дарогу?

– Так, я вам пакажу дарогу ў латыгольскі лес. Яна пачынаецца якраз за тым высокім дубам. Бачыце дуб на ўскрайку паляны?

– Бачу. Ты гаворыш пра той, у якога адна галіна жоўтая?

– Так, пра яго. Як толькі выйдзеце на дарогу, сядайце на ровар і з’язджайце. Прашу вас не азірацца, бо гэтая паляна не ў латыгольскім лесе, яна ў чыстцы. Мы тут чакаем адпраўкі ў пекла. Некаторыя з нас яшчэ спадзяюцца на рай, але я не. Мне пашанцавала, што я нешта добрае для вас зрабіў. Можа, мне гэткае дабро і залічаць – і пакутаваць у пекле я буду крыху меней. Бывайце, Аляксандр Казіміравіч.

Рапс перайшоў паляну і за дубам з надламанай і зжоўклай галінай убачыў дарогу, па якой і прыехаў у Латыголь, а з яе і ў наш Мінск.

**4. Тодар Лён і чорт**

Тодар Лён любіў выпіць з Сержуком Канём. Сяржук гэтаксама высока цаніў кампанію Тодара. Гадзінамі яны праседжвалі за сталом у кавярні «Акварыум» і вялі гутаркі пра музыку ды літаратуру. Конь захапляўся Фолкнерам і новаарлеанскім джазам. Лён шанаваў паганства з дударствам ды рамантычныя санеты Адася Міцкевіча. Здаралася, што, пасля таго як «Акварыум» зачыняўся, сябры-інтэлектуалы ехалі да некага з іх дамоў, каб працягнуць змястоўную і захапляльную гутарку. Так было і ў апошні вечар іх шматгадовага сяброўства.

Мужчыны прыехалі да Каня дамоў. Маладая жонка гаспадара сабрала на стол. Конь кульнуў чарку і заснуў, седзячы за шчодрым сталом. Лёну варта было апрануцца, развітацца і пайсці дамоў, а ён замест гэтага пачаў заляцацца да маладой і вабнай гаспадыні. Тая была зусім маладзенькая, яна была маладзейшая за мужа ажно на трыццаць гадоў. Яна была маладзейшая і за Лёна на цэлых дзесяць гадоў. Маладой жаночай крыві захацелася распусты, жарсці ды весялосці. Таму ў Лёна і атрымалася дамагчыся любошчаў.

Праз тры дні ў «Акварыуме» п’яны Тодар Лён расказаў п’янаму Сержуку Каню пра здраду. Мог бы і не казаць. Не стрымаўся. Пахваліўся. Сказаў, што ў кватэру да Канёў прыходзіў чорт, які змусіў людзей займацца любошчамі. Конь не паверыў у казку пра чорта… У казку не паверыў, а ў здраду сваёй маладой жонкі паверыў адразу. У адно імгненне Сяржук Конь страціў інтэлектуала-сабутэльніка і жонку-прыгажуню. Самае крыўднае і горкае ў гэтай гісторыі, што чалавек у адно імгненне страціў так многа.

**5. Жэня Грыб і яго жонка**

Жэня Грыб сышоў ад старой жонкі і ажаніўся з маладой. У свае пяцьдзясят Жэня пабраўся шлюбам з дваццацігадовай студэнткай. Каб павыхваляцца гэтым, Грыб пачаў прыводзіць маладую жонку ў кавярню «Акварыум», што яшчэ не так даўно мясцілася на першым паверсе ўніверсама «Цэнтральны». Знаёмыя дзівіліся з такога павароту ў жыцці кансерватыўнага, брыдкатварага і сквапнага

МУЖЧЫНЫ ПРЫЕХАЛІ ДА КАНЯ ДАМОЎ. МАЛАДАЯ ЖОНКА ГАСПАДАРА САБРАЛА НА СТОЛ. КОНЬ КУЛЬНУЎ ЧАРКУ І ЗАСНУЎ, СЕДЗЯЧЫ ЗА ШЧОДРЫМ СТАЛОМ.

чалавека. Жыў сабе жыў, усё ў дом цягнуў, а тут наце вам – разбурыў сям'ю і зруйнаваў спакой. Выфранціўся ў жоўты пінжак і ходзіць з жанчынкай, якая маладзейшая за яго сына.

Пахадзіў Жэня Грыб у «Акварыум» з новай жонкай, пахадзіў і прапаў. Некаторыя з заўсёдных «акварыумістаў» казалі, што Грыб памёр на сваёй маладой партнёршы па любошчах. Толькі стары Жэня зусім не памёр на маладым целе, як меркавалі людзі. З ім здарылася іншая бяда, пра якую ён потым сам і расказваў заўсёднікам «Акварыума».

Жэня Грыб спаў у ложку з новай жонкай, а снілася яму старая. У сне Жэня казаў старой жонцы, што любіць яе і шкадуе пра развод. Сон паўтараўся і паўтараўся. Ён быў такі яркі і такі натуральны, што Грыб прахопліваўся сярод ночы і абмацваў ложак… А раптам у ім не маладая жонка, а старая? Так сталася, што ў Жэні Грыба на ўсе ночы застаўся толькі адзін сон пра старую жонку, у якім ён казаў той пра незгасальную любоў. Каб пазбавіцца ад дакучлівага сну, Жэня ўзяў ды вярнуў у сваё жыццё старую жонку, а маладой сплаціў за турботы досыць вялікую кампенсацыю.

У «Акварыуме» яшчэ доўга абмяркоўвалі вяртанне Грыба ў старую сям'ю і прыйшлі да высновы, што яго старая жонка – вядзьмарка і чараўніца, а маладая жонка – дурніца і шалахвостка.

**6. Анатоль Шум і ператварэнне**

Ён з'явіўся пад універсамам «Цэнтральны» нечакана. Не было, не было і на табе – стаіць у шэрым палітоне з працягнутай рукой. Дзед-жабрак меў акрамя шэрага, як цэментавы пыл, палітона яшчэ і страшную метку. Пад правым вокам каля ноздры ў яго сядзела вялікая язва. Такая яна была глыбокая і такая гнілая, што ўсім здавалася, што праз які месяц дзед выправіцца да прашчураў. Людзі гідзіліся язвы. Баяліся падыходзіць да жабрака. Здалёк кідалі грошы яму пад ногі.

Дзед пачаў заклейваць сваю язву газетай, а пазней і бінтам з пластырам. Праз пару месяцаў язва зацягнулася ружовай скуркай. Сваё шэрае і падранае паліто дзед змяніў на куртку, а на сівую галаву нацягнуў капялюш. Гэта першы выпадак, калі на маіх вачах сабраныя жабраком грошы напраўду таму дапамаглі. Зазвычай тутэйшыя жабракі з кожным месяцам выглядаюць горш і горш, а потым знікаюць у невядомасці. Гэты ж ацаліўся, нібыта нейкі казачны герой. З безыменнага хворага жабрака ён ператварыўся ў зграбнага Анатоля Шума і нават перастаў выпрошваць грошы пад «Цэнтральным».

**7. Дзіна Бэз і шарыкі**

Дзіна Бэз нарадзілася слабай. Вучоба давалася ёй цяжка. Працаваць яна не змагла. Жыла Дзіна з бацькамі. Яны паціху састарэлі і зрабіліся нямоглымі – і ўсе сямейныя і гаспадарскія справы леглі на Дзіну. І тады яна прыдумала сабе занятак. Штодня Дзіна Бэз выходзіць у цэнтр Мінска.

ЯНА СТАНОВІЦЦА
КАЛЯ ВЯЛІКАЙ КРАМЫ
ЦІ КАЛЯ ПАДЗЕМНАГА
ПЕРАХОДА І ПРАПАНОЎВАЕ
МІНАКАМ ГУМОВЫЯ
РОЗНАКАЛЯРОВЫЯ
ПАВЕТРАНЫЯ ШАРЫКІ.

Нехта іх купляе, нехта проста так дае жанчыне грошы. Большасць праходзіць каля яе і не спыняецца. У кожнага з нас свае праблемы і свае цяжкасці. Ускладаць на сябе дадатковы цяжар нікому не хочацца. Зразумела.

Дзіна Бэз стараецца. Яна стараецца быць чыстай і акуратнай. Стараецца апранацца ярка, каб быць падобнай да дзіцячых шарыкаў. Дзіна

Бэз стараецца быць дарослай, але так і застаецца маленькай дзяўчынкай з наіўнымі спадзевамі на чыюсьці дапамогу, са спадзевамі на чалавечую дабрыню… Глядзіш на Дзіну Бэз – і бачыш, што дабрыня ў людзей ёсць.

### 8. Арына Хрушч і масаж

Арына Хрушч звычайна прыходзіла ў «Цэнтральны» выпіць кубак кавы з вяршкамі і з'есці пірожнае «Бульбіна». Арыне падабалася раніца ў краме, калі там зусім мала наведвальнікаў, калі прадаўшчыцы яшчэ сонныя і ветлівыя, калі ты ведаеш там амаль усіх і амаль што ўсе ведаюць цябе і вітаюцца.

У адзін з ціхіх летніх і будзённых ранкаў Арына Хрушч пазнаёмілася ў «Цэнтральным» з масажыстам Сержам Груздом. Той запрасіў Арыну ў свой салон і зрабіў ёй выдатны масаж усяго цела. Масаж быў такі эфектыўны, што ў Арыны на спіне выраслі вялікія крылы. Арына Хрушч узмахнула гэтымі сваімі белымі крыламі і выправілася ў кругасветны палёт. Серж Грузд на нейкае імгненне разгубіўся, але ўзяў сябе ў рукі, дастаў свой прапелер і паляцеў наўздагон за Арынай Хрушч.

### 9. Сяржук Конь і кветка

Сяржук Конь, ужо знаёмы табе выкладчык фізікі, заходзіў у «Цэнтральны» выпіць. Шмат хто заходзіць туды, каб махануць сотку ці пастаяць з бутэлькай піва. Сяржук заходзіў, каб пасядзець з сябрамі, каб шчыра пагаварыць і добра набрацца. Здаралася, што ён нават засынаў у кавярні «Акварыум». Яго не чапалі, давалі магчымасць крыху адпачыць.

Аднойчы Сяржук Конь патрапіў у трохдзённы запой, які скончыўся трагічна. Конь піў у «Акварыуме». Бліжэйшая прыбіральня была ў кафэ «Кропка», што пад «Макдональдсам». Вяртаючыся з прыбіральні, Конь узняўся па прыступках. Спыніўся. Захістаўся і паваліўся на спіну. Ён ляцеў з самай верхняй прыступкі. Ён трупнуўся патыліцай. Чэрап праламаўся. Конь апынуўся ў коме.

У бальніцы, дзе Сяржук Конь праляжаў тыдзень, да яго тройчы прыходзіў анёл. Ён хацеў забраць душу выкладчыка фізікі. Першыя два разы Сяржук адбіўся і не аддаў душу анёлу. Трэці раз анёл прынёс з сабой кветку з райскага саду. Водар у кветкі быў такі чароўны, што Сяржук Конь ажно захмялеў, расчуліўся і перадаў анёлу сваю спакутаваную душу. Так і скончыў свой зямны шлях Сяржук Конь, адзін з заўсёднікаў універсама «Цэнтральны».

### 10. Алег Струк і здарэнні

Алег Струк прыходзіў у «Цэнтральны», каб прачытаць газету. Ён з тых, хто яшчэ чытаў папяровыя выданні. Любімай газетай у Струка быў тыднёвік «Імя». Пасля чытання Алег выпіваў грам сто каньяку і абмяркоўваў з кімнебудзь прачытанае. Ні каньяком, ні абмеркаваннямі ён не злоўжываў да аднаго здарэння.

Была ў Струка шыкоўная зімовая, пашытая з лісінага футра шапка. У адзін з марозных вечароў Алег выйшаў з «Цэнтральнага» і накіраваўся на плошчу Свабоды. На алейцы да яго падышлі трое хуліганаў і сарвалі з галавы дарагую шапку. Алег кінуўся быў шапку забіраць, ды адзін з рабаўнікоў садануў яму ў вока кастэтам. Удар быў такі моцны, што вока выцекла на снег…

Месяц Струк праляжаў у бальніцы, а потым яшчэ паўгода прахадзіў у чорных акулярах. Калі Алег акуляры зняў, дык усе пабачылі, што на месцы яго старога вока вырасла новае. Яно было крыху меншае за старое і трохі адрознівалася колерам – мела больш светлае адценне. Зрок у Алега не прапаў, нават палепшыўся.

Пасля гэтага дзівоснага здарэння Алег Струк стаў моцна выпіваць. Дайшло да паўлітра гарэлкі ў дзень. Можна было б падумаць, што наш чытач папяровых газет сап'ецца і памрэ, але здарылася яшчэ адно дзіва: Алег лёг у бальніцу, дзе назаўжды развітаўся з выпіўкай і кінуў чытаць газеты. Цяпер ён не ходзіць у «Цэнтральны», бо там яму больш няма чаго рабіць.

**11. Ладак Чмель і мёд**

Ладак Чмель пад крылом праваслаўнай царквы зладзіў продаж башкірскага мёду. Справы ў Ладака пайшлі лепей чым добра. Мёд прадаваўся несупынна. Чмель ладзіў мядовыя кірмашы па ўсёй Беларусі. Зрэдчас Ладак Чмель забягаў у «Цэнтральны» перакусіць. З'ядаў канапку з чырвонай рыбай і запіваў яе зялёнай гарбатай. Аднойчы я там піў чорную каву без цукру, а Ладак еў рыбу і расказваў мне пра сурокі...

«Неяк на мядовым кірмашы да маіх прылаўкаў падышоў смярдзючы бомж. Чорным вокам глянуў той на прылаўкі, пазастаўляныя слоікамі з мёдам, і сказаў: «Кепска ты гандлюеш, гаспадар!» Сказаў і некуды павалокся. Пасля гэтай сустрэчы мае продажы ўпалі ўдвая, а праз нейкі час яшчэ ўдвая. Можна нават сказаць, што прывезены з Башкірыі мёд зусім перастаў прадавацца. Бомж сурочыў мой мядовы гандаль.

Можа, месяц я па ўсіх мінскіх сметніках шукаў таго бамжа. Знайшоў, запрасіў да сябе дамоў. Памыў, апрануў, накарміў і папрасіў зняць сурокі. Бомж тыдзень жыў у мяне і думаў, як тое зрабіць, як вярнуць мне былыя поспехі ў гандлярскіх справах. Ламаць не будаваць! Зламаў ён мой поспех лёгка, а вяртаў яго з невераемнымі цяжкасцямі. Вярнуў! Продажы паціху-патроху пачалі павялічвацца, а бомж са сваім злым чорным вокам сышоў ад мяне ў бязмежны свет».

**12. Вах Барада і трактат**

Адны называюць яго Барада, другія – Вах Барада, а трэція – Вахай Барада. Яшчэ спрабавалі называць яго Хай Барада. Не прыжылося. Як мне здаецца, аднаго слова Барада больш чым дастаткова для мянушкі.

І ўзімку, і ўлетку Барада прыходзіў у «Цэнтральны» з кепкай на галаве і з сумкай на плячы. Раней у ёй хаваліся дзве рэчы: бутэлька чырвонага сухога і «Паэтыка» Арыстоцеля. Каб у Барады на дне сумкі ляжаў том Канта ці Платона, я б з ім не сябраваў. Іншая справа – Арыстоцель. Ёсць у ім рацыя, чысціня і святло. Было нешта чыстае ды светлае і ў Барадзе. Пабыло ды прапала. Месца чырвонага сухога ў сумцы Барады заняла гарэлка. «Паэтыка» Арыстоцеля прадалася і прапілася. З філосафа Барада ператварыўся ў самадзейнага мастака, які малюе зялёнае лета на тонкіх кардонках і прадае іх у камісійных крамах. Але жаданне зрабіць у жыцці вялікую справу ў Барады ўсё яшчэ жыве.

«Я напісаў трактат пра ролю храналагічнай табліцы. Засталося яго адрэдагаваць і адшліфаваць стылістычна. Дараблю і выдам кнігай. Усе пабачаць, хто такі я – Вах Барада! Хто такі Барада. Хто такі Вахай Барада... Ты, вядома, ведаеш, на што я здатны. Хутка і іншыя даведаюцца!» – кажа Барада і запівае сказанае самай таннай гарэлкай. Апошнім часам ён п'е толькі стоячы. Нават калі ёсць месца за столікамі, ён не садзіцца. Выпівае і сыходзіць працаваць над сваім трактатам. У час апошняй нашай, як і заўжды выпадковай, сустрэчы я папытаўся ў яго:

– Хто натхніў цябе, шаноўны Вах Барада, на напісанне трактата пра храналагічныя табліцы?

Ён завагаўся, доўга маўчаў, але адказаў:

– Натхніла рыба. Памятаеш, тут у кавярні стаяў вялікі акварыум, у ім жылі розныя рыбіны? Аднойчы я прыйшоў –

кавярня стаяла пустая, а ў акварыуме плаваў толькі адзін чорны сомік. Ён і сказаў мне напісаць трактат. Чорны сомік загадаў мне пісаць менавіта пра храналагічныя табліцы. Адмовіцца не магу. Пішу. Ты дапаможаш мне з публікацыяй?

Я паабяцаў дапамагчы Барадзе. Хто, калі не мы?

**13. Сяржук Смоўж і мядзведзь**

Сяржук Смоўж адно слова скажа – і абавязкова схлусіць. Ілжэ як дыхае. Натура такая – наскрозь падманная. Спрачацца з Сержуком бессэнсоўна, яго можна толькі слухаць або не слухаць. Праўда, у ягоных ілжывых расповедах трапляюцца цікавыя казачныя сюжэты…

Аднойчы ў кавярні «Акварыум» усе расказвалі пра ўбачаных на свае вочы вялікіх дзікіх звяроў. Саша Рапс сустракаў неяк на дарозе велізнарогага лася. Тодар Лён бачыў у полі дзіка са свіннёй і паласатымі парасяткамі. Алег Струк разглядаў калматага зубра ў загарадцы. Апавяданні гучалі пераканаўча. Тут і ўлез Сяржук Смоўж са сваёй байкай пра мядзведзя...

ВЫБРАЎСЯ НЕЯК СЯРЖУК У ГРЫБЫ. НАРЭЗАЎ КОШ БЕЛЫХ. ВЯРТАЎСЯ З БАРАВІКАМІ ДАМОЎ І ПАБАЧЫЎ НА СЦЕЖЦЫ МЯДЗВЕДЗЯ.

Спужаўся і пачаў звяругу загаворваць: «Мядзведзь. Мядзведзік… Міша, дай прайсці. Сыдзі са сцежкі, Міша! Прапусці мяне, Міша! Прапусці, Мішутка! Прапусці мяне, Мішка…» Загаворваў жывёлу, загаворваў... Язык за зубы зачапіўся і замест «Прапусці мяне, Мішка!» Сяржук сказаў: «Прапусці мяне, мышка». Мядзведзь пазяхнуў і пачаў змяншацца, драбнець. І ў выніку ператварыўся ў маленькую шэрую мышку. Сяржук пераступіў праз гэту мышку і панёс дамоў цяжкі кош, поўны баравікоў.

**14. Сяргей Ціс і дом**

У нейкі момант Сяргей Ціс пачаў добра зарабляць. Ускочыў у рэкламны рынак – і ў яго пакацілa. Талент рэкламшчыка ў Сяргея быў адметны. На зароблены капітал здольны рэкламшчык прыдбаў зямлю каля возера ў Раўбічах і пачаў там будавацца... Па старой завядзёнцы Ціс заходзіў у «Цэнтральны» на каву і распавядаў сябрукам ды знаёмцам пра сваю вялікую будоўлю. Слухаць было цікава, бо казачны талент рэкламшчыка і ў яго апавяданнях пра будаўніцтва ззяў напоўніцу. Адразу скажу, што дом у Сяргея Ціса збудаваўся класны, але не такі, якім ён яго апісваў. З-за гэтага і выйшаў казус.

На ўлазіны ў Раўбічы сабралася шмат гасцей. Яны прыехалі і пабачылі зусім не тое, пра што распавядаў гаспадар новабудоўлі. Пачалася крытыка. Маўляў, ты казаў, што дзверы шырокія, а тут звычайныя, нават, можна сказаць, вузенькія дзверы... Думала, што атрымаецца казачны палац, а ты катэджык паставіў... Дзе басейн? Дом без басейна і домам не назавеш, а ты ж казаў, што дом твой узорны... Крытыкі госці накідалі столькі, што Сяргей Ціс пакрыўдзіўся і зажурыўся. Ён замаркоціўся так моцна, што прадаў той дом і з’ехаў з Мінска. Цяпер ён у Краснадары адкрыў рэкламнае бюро. Кажа, што шчаслівы і будуе сабе новы дом пад горадам Сочы, без басейна, але з казачным відам на Чорнае мора.

**15. Ірына Трыпс і мільён еўра**

Улад прыходзіў у «Цэнтральны» на кубачак ранішняй кавы. Ён сябраваў з афіцыянтам Віктарам. Той прыносіў сябру каву ў падагрэтым, ажно гарачым кубку. Афіцыянт і расказаў мне, што ва Улада знайшлі нейкую невылечную

хваробу з невымаўляльнай назвай. Дактары з Берліна паабяцалі жонцы Улада – Ірыне Трыпс – перамагчы хваробу яе любімага мужа за мільён еўра. Казалі, што змогуць з яго цела прыбраць хворыя клеткі, а з тых, што застануцца, зрабіць цалкам здаровы арганізм.

Ірына Трыпс не пашкадавала грошай і заплаціла дактарам цэлы мільён еўра. І тыя зрабілі ёй здаровага Улада. Толькі яе стары і хворы муж меў сто кілаграмаў вагі і сто восемдзесят сантыметраў росту, а ў новым і здаровым Уладзе было росту адзін метр, а яго вага ледзь цягнула на два пуды. Ірына Трыпс адмовілася забіраць з клінікі палепшаную і легкаважную версію свайго мужа. Яна нават не стала спаганяць з дактароў змарнаваны мільён. Афіцыянт Віктар сказаў мне, што Ірына Трыпс развялася з Уладам. Папросту кінула яго ў Берліне. У Мінску яна выйшла замуж за маладога і перспектыўнага беларускага дыпламата ды з'ехала з ім у Пекін.

**16. Жора Граб і чорны сомік**

Жора Граб зарабляў тым, што вяртаў чужыя пазыкі. Для гэтага ён ламаў мэблю, пагражаў людзям і біў іх. Разоў колькі ён нават падпальваў кватэры. Граба ўсе баяліся. Таму нават горкія п'яніцы і жабракі не хацелі з ім выпіваць. Страшны чалавек, калі вып'е, робіцца проста жудасным. Каму хочацца трапіць у прыгоду з мардабоем? Нікому. Таму Граб выпіваў у «Акварыуме» разам з чорным сомікам. Садзіўся за столік побач з рыбкамі. Чокаўся з акварыумным шклом і піў за здароўе чарнаскурага сябрука.

У свой апошні вечар на волі Жора Граб першыя тры чаркі выпіў за здароўе акварыумных рыбак. Чацвёртую і пятую ён кульнуў са знаёмым алкаголікам Святазарам Клязьмай. Пасля пятай чаркі Граб схадзіў у прыбіральню. Вярнуўся і не знайшоў у акварыуме мяккахвостага любімца.

– Толькі не кажы мне, Клязьма, што ты з'еў соміка! – Граб навіс над алкаголікам навальнічнай хмарай.

– Хацелася гарэлачку закусіць. Ты ж ведаеш, Грабік, я гарэлачку амаль не п'ю, я вінцо люблю. Гарэлачка для мяне жорсткая і пякучая. Абпаліла вантробы. Я рыбіну вылавіў і закусіў ёю… Лёгка пайшла. Праглынуў і нават не жаваў. Ды і няма ў мяне зубоў, каб жаваць жывую рыбу…

– Кажаш – не жаваў?

– Праглынуў!

– Каўтануў – і ўсё? Выдатна! Яшчэ ёсць надзея…

Жора Граб зарэзаў Святазара Клязьму і дастаў з яго жывата чорнага соміка. Той быў напаўмёртвы, але хутка ачуняў у роднай акварыумнай вадзе. Там ён і праплаваў усё сваё доўгае і шчаслівае жыццё.

**17. Віктар Клён і золата**

Віктар Клён прыехаў у Мінск з Гомеля. Ён пасяліўся ў свайго дзеда, які меў прыватны дом у Круглым завулку. Віктар вучыўся на матэматыка, хадзіў на заняткі ва ўніверсітэт. Кожную суботу Клён бегаў з Круглага завулка на Кастрычніцкую ў інтэрнат на танцы. Зімою, каб не рабіць вялікі круг, ідучы на мост, малады матэматык ішоў праз рэчку па лёдзе. Нічым добрым такое лётанне напрасткі скончыцца не магло.

У адліжны вечар Віктар Клён праваліўся пад лёд і пачаў тануць. Ён і ўтапіўся. Ляжаў мёртвы на дне, калі да яго падплыла русалка і ажывіла. «Ты прыгожы, як золата! Таму я вярну цябе ў царства жывых», – і русалка дапамагла Віктару выбрацца на бераг Свіслачы. У той вечар малады матэматык не трапіў на танцы. Ён пераапрануўся ў сухое і прывалокся ў «Цэнтральны» ўніверсам, заваліўся ў бар «Акварыум», дзе ўсіх частаваў гарэлкай з сёмгай і расказваў пра русалку, якая палічыла яго прыгожым, як золата.

лежал снова в кухне, весь красивый и сверкающий, купленный недавно (или давно – смотря от которого семнадцатого октября считать).

Мы сидели, как обычно. Решили снова пойти в беседку, снова пить все то же горькое и не заканчивающееся пиво. Иногда я тянулся за сигаретами и нащупывал в кармане нож – напоминание, что я могу снова все закончить пораньше, не ждать темноты.

– Вот, Костя, скажи мне, что тебе не нравится? – будто обиженно говорил Вова. – Ведь все здесь тебе хорошо, и ни холода особого, ни голода, ни людей. Да ты даже отлить здесь ни разу не ходил, потому что и не надо тебе больше ничего! Многие бы отдали за это – знаешь сколько?

– Слушай, – вдруг до меня дошло, и ответ этот был настолько очевидным, что я даже удивился, как мог не подумать раньше. – А я ведь умер, да? И это что? Лимб? Рай? Ад? Или меня потеряли где-то на учете, и вот поэтому я вообще никуда не гожусь, кроме этого чертового Лошицкого парка, и судьба мне – с теми призраками бряцать оковами?

Вова хрипло рассмеялся и протянул мне бутылку, как всегда наполовину полную.

– Не, ты что? Там другая процедура, да и вообще все не так.

Начало смеркаться. Вова встал и сказал, что сейчас уйдет. Что-то подмыло встать и меня.

– Слушай, проведу тебя хоть чуток.

– Давай, – он сузил глаза. – Но ты ведь не уйдешь, понимаешь?

– Да. Я просто как гостеприимный хозяин, хоть немного.

Мы пошли. Я понимал, что увидит выход и сможет покинуть парк только Вова. Но в голове успевал сложиться какой-то план – ведь если все повторяется день ото дня, то делать можно разное, да?

Вова поглядывал на часы и спешил. Объяснял: надо мне успеть до темноты, иначе проблемы на работе будут, так у нас не делается. Я решил не спрашивать его о работе: зачем, если все равно внятно не ответит?

На одном из поворотов Вова остановился и потянулся ко мне – приобнять.

– Я рад, что ты смирился потихоньку. Все же нормально будет. Ну и до завтра – до сегодня, – сконфуженно сказал он.

На то, чтобы все сделать, мне оставалось несколько мгновений. Я схватил его, но Вова будто бы проходил сквозь, как дымка, рассеивался между руками – хотя я и смог его повалить. Барахтался, пытался отбиться, кричал необычно высоким голосом. А сумерки сгущались.

ВОВА ПОГЛЯДЫВАЛ НА ЧАСЫ И СПЕШИЛ. ОБЪЯСНЯЛ: НАДО МНЕ УСПЕТЬ ДО ТЕМНОТЫ, ИНАЧЕ ПРОБЛЕМЫ НА РАБОТЕ БУДУТ, ТАК У НАС НЕ ДЕЛАЕТСЯ.

– Болван, отпусти меня, слышишь, отпусти! – кричал он и пытался просочиться через меня, увильнуть, но я снова его хватал и кидал на дорожку, сам ползал и чувствовал, что колени все уже ободраны – но не важно.

Нож пришелся кстати. Я никогда не убивал людей – только себя несколько раз, но это не в счет. Полоснул его по руке, потом с хрустом вонзил нож по рукоятку в горло.

Вова больше не был дымкой, нож заходил в него тяжело, будто набит тот был каким-то гравием. Кровь стекала с шеи, заливала воротник куртки и плитку прямо под его головой, вытекала изо рта. Даже глаза, и те покраснели, а он их округлял так, что, казалось, вот сейчас выпрыгнут из орбит, убегут спасаться.

Успел пару раз моргнуть – и весь парк был залит темнотой. Включались круглые фонари – я никогда не видел, чтобы они загорались.

– Ну наконец-то, – раздалось откуда-то из ближайшей кучи листвы. – Я уж думала, ты не допрешь. Убил – отпустил, все дела. Удачки тебе.

Я поднялся с земли, переступил окровавленного Вову, стеклянными глазами таращившегося в темное небо. Сделал несколько шагов, хотел отереть руки о куртку, но на них не было ни капли крови. Оглянулся – и Вовы не было, только нож одиноко лежал на кленовых листьях.

Пахло как в детстве. Я шел прямо по дорожке, пока не уперся в хорошо знакомые ворота, у которых мы каждое семнадцатое октября виделись с Вовой. Стало немного грустно и стыдно, что я так с ним, а ведь он мне компанию составлял, ничего плохого, собственно, и не делал.

Вышел из парка, а уже через пять минут был дома. Надо посмотреть сериал и лечь уже спать – может, хоть в этот раз проснусь не уставшим.

А утром надо было позвонить Диме и позвать его погулять. Приближалось восемнадцатое октября.

# СЯРГЕЙ КАЛЕНДА

## ЦІХАЯ ВУЛІЦА

*Шануй бацьку свайго і маці сваю.*

Адносіны ў сям'і склаліся складаныя. Ніхто ўжо дакладна не скажа, калі гэтае непаразуменне з'явілася… Здаецца, яно было пастаянным, перманентным, нязменным, ад самага заснавання сямейных стасункаў у Каральковых. Толькі малодшы сын, які цяпер гуляў на раёне, захапіўшы з сабой заплечнік, скейт і пакунак з прасам і трыма бутэрбродамі, што яму паспела ўпіхнуць мама, пачуваўся ў сваёй сям'і як рыба ў вадзе.

Паліцэйскі заспеў у доме дзяўчопадлетка ў гістэрыцы, акрываўленага мужчыну і жанчыну, якая акуратна наразала пластыкавую саломку для коктэляў на роўныя маленькія кругляшы з дзірачкамі… Гэты паліцэйскі некалькі гадзін не мог зразумець, куды трапіў і што адбываецца, пакуль не прыйшоў хлопец чатырнаццаці год і сказаў, каб той не браў да галавы, бо дома ўсё добра і сям'я ў яго нармальная, самая лепшая ў свеце, і тады паліцэйскі чамусьці паверыў хлопцу, сеў за стырно і паехаў, а потым, недзе пасярод дарогі, на мосце, спыніўся, асэнсаваў неяк так раптоўна, што ён дарма паехаў з месца відавочнага злачынства, бо там жа быў мужчына ў крыві. Паліцэйскі сядзеў у машыне, глядзеў праз лабавое шкло і вагаўся: вярнуцца ці паехаць далей…

– Мама! Я дома! І я пайду да сябе ў пакой! Не, мне не кепска! Усё добра, я не хачу абедаць! Я проста, бліна, хачу падняцца ў свой пакой!

– А ты ж тваю налева! Я ім кажу, трэба гэта неяк паскорыць!

– Тата! Адчапіся нахран са сваімі праблемамі!

– То ты прыўкрасная, бо паехала, а я зараз лягу тут!

– Я цябе не разумею! У мяне няма ніякіх праблем! Я хачу пабыць адна ў сваім пакоі!

– Дык, можа, табе кампотам у штаны? Направа ці што?!

– Я ж сказала, што не буду абедаць і ў мяне ўсё добра!

– А калі знайду?!

– Слухай, давай я паляжу, адпачну, а потым, калі ў мяне будзе настрой, увечары абмяркуем!

– Квітком памяняцца не можаш? Ці мне самому прыехаць падрэзаць?!

– Я ўсё яшчэ сустракаюся з Мікам, і мне не хочацца табе нічога пра гэта распавядаць!

– Дай, Божа, мне сілы, каб лёгка палётаць па міры!

– А хто мне ўжо можа даць спакойна пабыць адной у сваім пакоі, бліна?!

– Я ўсё чула, Марыя! Што за мацюкі!!!

– Ну мамаааааа, я не мацюкалася! Адчапіцеся ад мяне нарэшце!

Марыя ляснула дзвярыма свайго пакоя, а бацька пайшоў на кухню да жонкі, абняў яе за талію і праз яе руку схапіў тое, што яна старанна наразала – гэта была рознакаляровая пластыкавая кактэйльная саломка.

– М-м-м! Гэта як пераплыць Ля-Манш!

– Ага, скажы гэта Марыі, яна кажа, што гатую я кепска!

– Добра, што ты высокая такая, як вежа міру…

– От ты так заўсёды! Не каб праблему вырашыць, толькі зубы загаворваеш! – прамовіла жанчына, скінула з таліі руку мужа, павярнулася, адчыніла кухонную шафу, дастала пакунак мукі, высыпала яго на стол, наліла зьверху піва з банкі, высыпала парэзаныя пластыкавыя кружочкі і пачала ўсё гэта раскатваць у цеста. – Сёння будзе макарона! І я спадзяюся, усе будуць есці нармальна!!! – апошнюю фразу маці пракрычала так, каб было чутна на другім паверсе, але ў пакоі дачкі толькі зрабілі музыку грамчэй.

«Я ня ведаю, як мне жыць тут, як мяне досталі бацькі! Тупыя жывёлы! У мяне такое адчуваньне, што я зусім не іх!» – пісала Марыя сяброўцы, а сама паралельна гутарыла са сваім хлопцам, які штосьці ёй казаў з невялікага вакенца ў правым куце, але яна не слухала, што казаў ёй Саша. А да ўсяго яшчэ і тэлефон не замаўкаў.

Кліпавае мысленне і немагчымасьць сканцэнтравацца на адной справе замінаці Марыі проста сесці, супакоіцца і падумаць, паразважаць моўчкі. Праз гэта яна яшчэ больш нервавалася.

– Я кажу табе, Саша, што сёння не магу сустрэцца, я стамілася ад нас і ты мяне дастаў. Мне трэба адпачыць. З'ехаць куды падалей! Табе ад мяне толькі адно і трэба! Усё, давай! Гуляй! – Марыя адключыла хлопца і пачала гучна стукаць тэкст сяброўцы:

«Прыходзь сёння да мяне. Я адна звар'яцею тут».

– Марыя! Спускайся на вячэру! – маці пракрычала з кухні, наліваючы з рондаля ў талерку дзіўнае рэчыва: абвараныя кавалкі мукі з расплаўленымі пластыкавымі трубачкамі… зверху яна вырашыла ўсё пасыпаць зямлёй з-пад кактуса, які стаяў пасярод кухоннага стала. – Марыя! Я паўтараць па сто разоў не буду! Хутчэй уніз!

– Як жа вы мяне досталі!!! – закрычала Марыя, спускаючыся ўніз.

– Гэт ты мне тут ня тое! Ведаеш жа ж! Не адразу каб тут! Па жопе надаю! – бацька высунуўся з прыбіральні і вырашыў ізноў насварыцца на дачку.

– Што ты вярзеш?! Я толькі апошнія тры словы зразумела!

– Абанамат! Маць яе за нагу! Зараз вазьму мячык і пакажу табе астэроід!

Бацька схапіўся за рэмень расшпіліў яго і выцягнуў са штаноў. У выніку атрымалася не вельмі, бо замест

МАРЫЯ ЛЯСНУЛА ДЗЬВЯРЫМА СВАЙГО ПАКОЯ, А ЯЕ БАЦЬКА ПАЙШОЎ НА КУХНЮ, ЗАЙШОЎ ЗБОКУ АД ЖОНКІ, АБНЯЎ ЯЕ ЗА ТАЛІЮ І ПРАЗ ЯЕ РУКУ СХАПІЎ ТОЕ, ШТО ЯНА СТАРАННА НАРАЗАЛА – ГЭТА БЫЛА РОЗНАКАЛЯРОВАЯ ПЛЯСТЫКАВАЯ КАКТЭЙЛЬНАЯ САЛОМКА.

таго, каб насварыцца на дачку і запужаць яе рэменем, у мужчыны з’ехалі долу штаны і ён застаўся ў адных сямейных майтках. Марыя, убачыўшы, засмяялася і аўтаматычна пацягнулася па тэлефон, каб сфатаграфаваць бацьку ў смешным становішчы і потым сцябацца з сяброўкамі.

– Ах ты тваю направа! Пакладзі кран, інакш я не адказваю за пераезд!

Пакуль Марыя з бацькам гарлапанілі і бацька, заблытаўшыся ў нагавіцах, спрабаваў да дачкі дацягнуцца рэменем, маці ціхенька сабе памыла замест посуду хлебніцу і тостэр, акуратна іх абцерла ручніком, а потым з усёй моцы ўдарыла яго па галаве лабутэнам. Мужчына закрычаў не сваім голасам, па лбе пацёк тонкі струмень крыві.

– Сядайце ўсе вячэраць! – прамовіла маці і пайшла на кухню.

Бацька яшчэ пакрычаў крыху, але хутка стаміўся і заглух.

– Лёня, пазвані сыну. Няхай ужо дадому едзе. Вячэра стыне, – прамовіла маці.

Лёня выцер рукавом скрываўлены лоб, узяў з тумбачкі мабільны тэлефон набраў Віцю. Марыя села нарэшце за стол, але есці тое, што было ў талерцы, ёй зусім не хацелася.

– Мама, ну мамачка, слухай, не, я цябе шчыра прашу, згатуй што-небудзь нармальнае!

– Татку, можаш мне не званіць! Я ўжо дома! Галодны, як ваўкалак! – на парозе стаяў малады хлопец, трымаючы ў руках тэлефон.

– От мой харошы! – прамовіў бацька і пайшоў насустрач сыну.

– А што гэта ў цябе галава ў крыві ?!

– А гэта нічога!

– Ну то добра!

– Давай за стол! – прамовіла маці і наваляла ў талерку сыну мучнога пластыку, пасыпанага зямлёй.

– Ох, смаката сёння якая! – абрадаваўся Віця.

Усе за сталом. Бацька і сын ядуць і ад задавальненьня аж прычмокваюць. Маці, уся ў сваіх думках, глядзіць кудысьці ў столь.

МАРЫЯ СПРАБУЕ НЕЙКІМ ЧЫНАМ ПАЗБАВІЦЦА ЕЖЫ, НЕВЯЛІЧКІМІ ПОРЦЫЯМІ ХАВАЮЧЫ ЯЕ ТО ПАД КУБКАМ, ТО ПАД СУРВЭТКАЙ, А ТО І ПАД СТОЛ КІНЕ ШТОСЬЦІ.

Не паспелі ўсе як мае быць павячэраць, як раптоўны грукат у дзверы, а потым настойлівы званок выштурхнулі сям’ю з вячэрняй ідыліі.

– Адчыняйце! Гэта паліцыя!

Адчыняць дзверы не трэба было, бо Віця іх не зачыняў. І на кухні перад сям’ёй Каральковых паўстаў высокі і мужны паліцэйскі, які адразу выхапіў з кабуры пісталет, заўважыўшы, што мужчына за сталом увесь у крыві.

– Не варушыцца, усім пакласці рукі на стол, пакласці на стол, я сказаў! Прыборы ўбок, нажы, відэльцы, лыжкі – усё пакласці і потым рукі на стол, каб я бачыў!

Усе зрабілі так, як прасіў паліцэйскі, а Віця, на свой страх і рызыку, павольна і акуратна ўстаў з-за стала і падышоў да паліцэйскага.

– У нас усё добра, пане… усё як мае быць, сэр… вы прыехалі да нас дарма, спадар паліцэйскі, – прамовіў сын, прыхапіўшы па дарозе са стала

батон. – Вось, трымайце, гэта мая дарагая матуленька сама выпякае. Цудоўны на смак! Вазьміце з сабой, я вас правяду да дзвярэй.

Паліцэйскі паволі, але няўхільна падпарадкаваўся падлетку, узяў батон і накіраваўся да дзвярэй, схаваўшы пісталет у кабуру.

– Добрага вам вечара, – прамовіў паліцэйскі і хлопнуў дзьвярыма. І ўжо на вуліцы звязаўся з дзяжурным: гэта быў памылковы выклік.

Так, праехаўшы не адзін кіламетар, паліцэйскі нарэшце спыніўся. Уключыў аварыйныя агні, выключыў рацыю, якая толькі замінала, і закурыў, не адкрываючы акно.

Праз пару хвілін мужчына заўважыў пакладзены на суседняе крэсла батон. Ён узяў яго ў руку, пакруціў… Потым, павагаўшыся, адкусіў.

Не пасьпеў разжаваць кавалак, як на зубы трапілася штосьці вострае. Мужчына выплюнуў хлеб на далонь і заўважыў, што начынне батона складзена з цвікоў – маленькіх цвікоў для мэблі.

Спачатку паліцэйскі нават не здзівіўся, а толькі заўсміхаўся. Ізноў адкусіў кавалак батона, разжаваў, прамовіў: «Гіпноз нейкі», завёў машыну, уключыў мігалкі, разьвярнуў машыну і пагнаў назад, на вуліцу Ціхую, 6.

*Менск*
*2020*

# ДМИТРИЙ КОЛЕЙЧИК

## ТРЕТЬЯ РАКЕТА

Мечтой его жизни было установить истину. Он не помнил, когда именно, но ещё в детстве он почуял, что всё не так в этом мире. Есть какой-то глобальный перекос во всём – социальные, политические и экономические институты, бытовые нравы, показная мораль, улыбки и пожелания «здравствуйте!», «хорошего дня!», милые беседы, в которых все со всеми согласны или, наоборот, спорят, словно кровно заинтересованы, а на самом деле просто… проводят время, что ли?

Конечно, тогда он не знал таких слов, как «социальные институты», и не смог бы сформулировать мысль, но понимал, что ложью или, в лучшем случае, заблуждением поражено всё. И хотел найти единственный ответ – в чём дело? Ему нужна была основная причина.

Он вырос, получил образование инженера, постепенно его амбициозные подростковые претензии к миру померкли. Одна большая ошибка, лежащая в основе мироустройства, распалась на тысячи поменьше. Да, мир неидеален и, возможно, не был лучшим из обещанных. Но всё сложно… И как это всё наладить – поди поломай голову! У него опустились руки – метафизические руки-крылья, которыми только и можно обнять пылающий шар истины. Поэтому он сосредоточился на маленьких скромных истинах, доступных каждому, – дом, семья, работа.

Семью он завёл рано, когда ему исполнилось двадцать три. Работа у него была стабильной, с хорошим доходом и перспективами. Нужно только неспешно поспевать за обстоятельствами, чтобы всё шло своим чередом. Спокойная, размеренная жизнь и достойная старость. Отличное резюме.

Но случилось что-то, что всколыхнуло в нём детские представления о некой фундаментальной ошибке. Он снова стал искать тот неправильный краеугольный камень, из-за которого перекосило всю громаду человеческой цивилизации. И мечтал лишь об одном – установить окончательную правду.

Звали его Макс Хьюз. Этим чем-то, что наполнило его жизнь смыслом, стала парадоксальным образом Теория плоской Земли. Парадоксально – потому что Хьюз был, как говорят, «технарём» – отличным инженером,

специалистом по реактивным двигателям. В своих расчётах он опирался на физику – науку, которую скрупулёзно выстраивали, многократно проверяли и перепроверяли со времён сэра Исаака Ньютона, определившего во главу научного знания эксперимент как принцип. А физика во многом опиралась на положение о том, что Земля имеет форму сфероида.

Отрицать это – значит, поставить под удар непротиворечивое объяснение видимой вселенной. Например, гравитация. Предметы падают отвесно вниз, потому что устремляются к центру массы Земли. А это возможно только, если она шарообразная. Или смена дня и ночи, фазы Луны, свет далёких звёзд… Допустить, что на небе, как на потолке, звёзды-лампочки, Луна – это ночник, а Солнце – мощный прожектор, и он выключается почему-то с разными интервалами, – всё это требует совершенно другой физики, куда более сложной и громоздкой, чем та, которой пользовались повсеместно учёные и инженеры, та, которой пользовался и Макс Хьюз в своих расчетах. Но трудности не пугали его.

Если в нашем понимании вселенной кроется ошибка, её нужно выявить и разоблачить, – полагал он. Необходимо выяснить правду и докопаться, кто и почему её от нас так тщательно скрывает.

Верх и низ абсолютны. Земля плоская и имеет форму диска. Ледяной барьер по краю не даёт воде мирового океана стечь. Это стало верой Хьюза, его вызовом глобальному несовершенству, войной против хаоса. У него появилась простая и понятная цель – опровергнуть господствующие представления о шарообразной Земле. То есть цель непростая, конечно, учитывая, какие силы задействованы, чтобы держать весь мир в заблуждении и скрывать правду, но понятная и масштабная. А потом, когда Хьюз разоблачит обман, пусть уж другие приложат усилия – создают новые разумные научные теории и выясняют, какие именно силы стоят за многовековым заблуждением.

Хьюз стал строить ракету. Он собирался подняться на ней, чтобы увидеть и сфотографировать плоскую Землю. Он построил три ракеты.

На первой он взлетел всего на 20 километров и обрушился вниз. У него был парашют, но поскольку он не имел навыка парашютирования, то сломал ногу при приземлении.

А ПОТОМ, КОГДА ХЬЮЗ РАЗОБЛАЧИТ ОБМАН, ПУСТЬ УЖ ДРУГИЕ ПРИЛОЖАТ УСИЛИЯ – СОЗДАЮТ НОВЫЕ РАЗУМНЫЕ НАУЧНЫЕ ТЕОРИИ И ВЫЯСНЯЮТ, КАКИЕ ИМЕННО СИЛЫ СТОЯТ ЗА МНОГОВЕКОВЫМ ЗАБЛУЖДЕНИЕМ.

От Хьюза ушла жена и забрала детей. Коллеги по работе прознали об увлечении Хьюза и стали над ним посмеиваться. Но он не сдавался и построил вторую ракету, более мощную. Он хотел подняться в мезосферу – на 100 километров от земной поверхности.

На второй ракете он поднялся в верхние слои стратосферы, примерно на 45 километров, и снова рухнул вниз.

Хьюз стал героем смешных роликов на ютубе. Это вредило имиджу компании, на которую он работал, и его уволили. Тогда Макс Хьюз

заложил дом. И на вырученные деньги построил третью ракету. Она была высокой и толстой. Макс хотел подняться на высоту 400 километров.

***

Милосердные инопланетяне давно наблюдают за нашей планетой. Всякого погрязшего в суете и пороках человека они реанимируют как бы в рай без всяких вопросов. Иногда случается, что попавший в рай сам не понимает, как он сюда попал, ведь был всю жизнь сволочью и знает, что рая не заслужил. Тогда он спрашивает:

– Эй, ребята, кто вы такие?

А они отвечают:

– Ангелы мы, расслабься.

Но такой тип не перестаёт сомневаться:

– Какого чёрта, ангелы, чтоб вас чёрт побрал, что я здесь делаю? Я отлично помню, как жил, и по всем раскладам рай мне не светит, так что не надо мне здесь на уши вешать! Ну-ка, уроды, кто вы такие и от кого?

Тогда «ангелы» вздыхают, пожимают плечами и отправляют человека туда, где ему привычней.

***

Когда Хьюз взлетел на высоту 110 километров, на борту начался пожар. В этот момент ещё можно было отстыковаться от ракеты и более-менее безопасно приземлиться. Но скорость приближалась к первой космической, и Хьюз решил, что успеет увидеть плоскую Землю перед тем, как сгореть. И он решил, что это стоит того.

Милосердные инопланетяне, и, несомненно, всемогущие, за этим наблюдали. Они решили, что душевное спокойствие человека превыше истины. В конце концов – каждому по потребностям. И сотворили чудо…

Ракета Хьюза горела. Он завис на высоте 400 километров и увидел плоскую, как блин, Землю, окаймлённую ледяным барьером. Потом потерял сознание, когда его кожа стала пузыриться, как вскипающий кофе…

Макс Хьюз очнулся, его самодельный летательный аппарат, разбитый, лежал в пустыне.

Макс Хьюз выполз из тесной кабины ракеты. Он снял огнеупорный костюм. На его теле не было ни царапины. Он опустился на колени, поцеловал землю:

– И всё-таки она плоская! – прошептал он, глотая ком волнения в горле. Слёзы счастья падали из его глаз на песок пустыни Мохаве.

Вокруг не было ни души, чтобы разделить его радость.

# УЛАДЗІМІР САДОЎСКІ

## Я НЕ ЗНАЮ, ШТО БУДЗЕ ЗАЎТРА

Зоя Камінская, студэнтка пятага курса гістфака БДУ, познім кастрычніцкім вечарам працавала ў Курапатах. Зоя, ці, як яе ласкава называлі сяброўкі, Зойка была валанцёркай. Ужо другі вечар запар яна дапамагала рыхтаваць мемарыял да жалобнай імпрэзы – ночы расстраляных паэтаў, – якая ладзілася не першы год. У гэтую ноч у 1937 годзе бальшавіцкія каты забілі больш за сто прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, сярод якіх былі выбітныя паэты, мастакі, вучоныя. Тут, у Курапатах, яны і былі пахаваныя, дакладней, іх целы былі звалены ў агульныя яміны разам з целамі сотняў і тысяч іншых ахвяр злачыннай улады.

Зойка разам з двума хлопцамі расстаўляла ліхтарыкі – падсветку да крыжоў, якая на ночы паэтаў будзе ствараць адпаведную жалобную і адначасова змрочную атмасферу. Сонца даўно закацілася, і маладыя людзі працавалі ў святле пераносных лямпаў. Дзяўчына мімаходзь глянула час на мабільніку. Аказалася, што ўжо трэба спяшацца на аўтастанцыю. Хутка адпраўляўся апошні патрэбны ёй тралейбус у бок метро. Спазняцца на яго было нельга – Зоя жыла ў прыгарадзе па іншы бок ад Мінска, трэба было яшчэ паспець на электрычку. Каб ехаць дадому на таксі, на такое ў студэнткі проста не было грошай. Зойка развіталася з валанцёрамі і рушыла да выхаду з мемарыяла. Дзяўчыне падалося, што адзін з хлопцаў – хударлявы рудавалосы Грышка – пасля развітальнага рукапаціскання неяк надта ўжо расчаравана апусціў вочы. Можа, сказаць што хацеў? У Зойкі было мала часу, яна падхапіла з зямлі заплечнік і хуткім крокам пайшла ў бок дарогі не азіраючыся.

У гэтым месцы, на вузкай сцяжынцы паміж дрэўцамі і крыжамі, пад пранізліва халодным начным небам Зоя падумала пра смерць. Пакуль працавала, не задумвалася, а цяпер, гледзячы, як міма па кальцавой дарозе праносяцца па сваіх справах аўтамабілі, задумалася. Так часта бывала і калі дзяўчына стаяла ў курапацкай варце каля рэстарана, пабудаванага ў ахоўнай зоне мемарыяла ахвярам рэпрэсій у абыход усіх дзяржаўных і чалавечых норм. Тады часу на розныя думкі хапала. Якімі былі гэтыя людзі, што ляжаць тут? Якія ў іх былі мары, якія планы, якія вершы яны хацелі напісаць? Што яны адчувалі, калі руля пісталета набліжалася да патыліцы?

Зойка ўзгадала радкі:

*Я не знаю, што будзе заўтра:*
*Мне сягоння апошняй мяжой*
*Дні стаяць сталёвай вартай*
*Паміж будучыняй і мной.*

Гэта Алесь Дудар. Зойка ведала, што ён таксама тут, недзе пад адным з дзясяткаў крыжоў, мо пад тым самым, на які яна сёння вешала белачырвона-белую стужку. Алесь Дудар. Дзяўчына вызвалася прачытаць яго вершы на Ночы паэтаў, а ва ўніверы яна пісала курсавую па яго творчасці – у заплечніку дагэтуль ляжаў патрапаны зборнік твораў паэты. Цікава, якім ён быў? Гэты пастаянна недаверлівы позірк на старых фотаздымках. Зойцы заўжды здавалася, што Дудар глядзіць на яе з асуджэннем, нібы расчараваўся ў ёй. Хм, здаецца, гэты Грышка трохі да яго падобны. Дзяўчына ўсміхнулася.

Шум дарогі нарастаў. Зоя выйшла да пешаходнага тунэля пад кальцавой. Ёй ніколі не падабалася гэтая частка маршруту – цесны, часцей за ўсё цёмны, бо ўсе лямпачкі былі паразбіваныя, калідор, які больш нагадваў сутарэнні вязніцы, чым грамадскае месца. Гук абцасаў гулка адбіваецца ад сцен, і здаецца, што гэта не пешаход ідзе, а накіроўваецца да тваёй камеры, чаканячы крок, начны канвой, каб адвесці цябе ў расстрэльны пакой. Зойка мімаволі схамянулася ад налялелых асацыяцый, але хады не сцішыла і зрабіла першы смелы крок у тунэль.

Гэтым разам у тунэлі было надзвычай няўтульна. Унутры гарэла толькі адна лямпачка пасярэдзіне шляху, але ад яе было мала карысці. Там, дзе заслона кволага святла абрывалася, пачынала клубіцца непраглядная цемра – нельга было разабраць, што на тым баку перахода. Зоя яшчэ паскорыла крокі, каб хутчэй прайсці тунэль наскрозь. Калі дзяўчына параўнялася са свяцільняй, лямпачка ўспыхнула на імгненне яскравым агеньчыкам і пагасла. Наваколле паглынула чарната. Зоя ад нечаканасці спынілася. Азірнулася назад, паглядзела наперад – паўсюль адна толькі цемень. Дзяўчына думала, што вочы хутка прызвычаяцца да цемры і яна пачне бачыць хаця б сілуэты выхадаў. Але гэтага не адбывалася, чарната, што запаўняла наваколле, не спяшалася адступаць. Сэрца шалёна закалацілася.

Зоя зразумела, што, апроч цемры, навокал пануе яшчэ і абсалютная цішыня. Дзяўчына знаходзілася літаральна ў пары метраў ад паверхні шумнай шашы, але ў тунэль не залятала ані гуку. Зоя зрабіла крок у бок выхаду. Прынамсі, яна думала, што выхад менавіта там, разабраць, праўда гэта ці не, было немагчыма.

ГУКУ КРОКУ ЯНА ТАКСАМА НЕ ПАЧУЛА, НІБЫ І НЕ СТУПАЛА. ЯШЧЭ КРОК. ЗОЯ ВЫЦЯГНУЛА НАПЕРАД РУКІ, КАБ НЕ СУТЫКНУЦЦА СА СЦЯНОЙ. ЗРАБІЛА ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ КРОКАЎ. СЦЯНЫ НЕ БЫЛО.

На імгненне ёй падалося, што яна пачала разбіраць сілуэты ў цемры. Наперадзе, куды глядзела дзяўчына, з'явіўся згустак, які нейкім незразумелым чынам падаваўся больш цёмным чым навакольная чарната. Зоя спынілася, узіраючыся ў сілуэт. Пляма, што нерухома вісела ў паветры, раптам пачала набліжацца да дзяўчыны. Зоя закрычала, але гуку свайго голасу не пачула. Паспрабавала пабегчы, ды ногі не паслухаліся яе. Дзяўчына закрыла твар далонямі і пачала маліцца, вымаўляючы замест малітвы радкі Дудара:

*Я не знаю, што будзе заўтра…*

***

Яркае святло, што ўрывалася ў пакой з-за прыадчыненых завесаў, рэзала вочы. Зоя інстынктыўна засланіла твар далонню і адвярнулася ў іншы бок.

– Прачнуўся нарэшце, – невядомы жаночы голас напужаў дзяўчыну.

Зоя прыўзняла галаву, каб паглядзець, хто гаворыць. Перад вачыма

ўсё плыло, немагчыма было зачапіцца за нешта пэўнае. Нарэшце позірк сфакусаваўся на светлай пляме, якая паступова праяўлялася ў жаночы твар.

– Хто вы? – сэрца дзяўчыны раптам пакрылася ледзяной коркай – свой голас яна таксама не пазнала. Хоць ён і быў больш падобны да хрыпату, Зоя адразу зразумела, што гэты голас адрозны ад тых гукаў, якія яна прызвычаілася чуць у сваёй галаве.

– Зусім упіўся са сваімі дружкамі, – жанчына адвярнулася. – Падымайся, а то на службу спознішся.

Зоя з цяжкасцю паднялася з ложка і спусціла ногі на падлогу. Галава шалёна круцілася. Дзяўчына ўзялася рукамі за скроні, каб суцішыць хістанні. Пальцы ўперліся ў жорсткі вожык кароткіх валасоў, ад даўгіх локанаў не засталося і следу. Зоя са здзіўленнем адсунула рукі і пачала ўзірацца ў далоні. Гэта былі шырокія мужчынскія далоні з тонкімі, але моцнымі пальцамі. Пакуль Зойка разглядала шматлікія валаскі на тыльным баку, у пакой вярнулася жанчына з медзяным тазам і збанам цёплай вады ў руках.

– На. Прывядзі сябе ў парадак, – кінула тая.

Зоя мімаволі паглядзела на твар жанчыны. Зрок супакоіўся, і дзяўчына нарэшце змагла разгледзець незнаёмку. Гэта была маладая жанчына гадоў трыццаці, з прыемным акруглым тварам і даўгімі русымі валасамі, сабранымі зараз у гульку на патыліцы. На шчацэ ў жанчыны распоўзся чорнай плямай вялікі сіняк.

– Хто гэта вас так? – запытала Зоя. Жанчына толькі зыркнула ў адказ і паспешліва выйшла з пакоя, па дарозе зачапіўшы малога, які стаяў у дзвярах. Праз імгненне з калідора пачуліся ўсхліпванні.

Зойка пабачыла хлопчыка і машынальна яму падміргнула, той у адказ нясмела пасміхнуўся. Дзяўчына абвяла вачыма пакой – абстаноўка была даволі сціплай: шафа, ложак, некалькі тумбачак, пара зэдляў і ўсё. Ніякай тэхнікі. На адной з тумбачак Зоя заўважыла невялікае авальнае люстэрка з металічнай ножкай.

– Калі ласка, падай мне гэта, – звярнулася дзяўчына да хлопчыка, паказваючы пальцам на люстэрка. Той моўчкі падпарадкаваўся.

Сэрца Зоі моцна закалацілася, калі жаданы прадмет апынуўся ў руках. Дзяўчына баялася таго, што яна пабачыць у адлюстраванні. Дрыжачымі рукамі Зоя накіравала авал люстэрка на сябе. З-за шкла на дзяўчыну глядзеў троху выцягнуты мужчынскі твар з тонкім шляхетным носам, вузкай рыскай вуснаў і выразнымі чорнымі вачыма, у якіх, здавалася, сабралася ўся стомленасць свету.

У Зоі пахаладзела ўнутры. Яна пазнала гэтага чалавека. Дзяўчына бачыла яго партрэт у артыкуле, прысвечаным ахвярам сталінскага тэрору. Гэта быў кат, звер, вычварэнец і садыст. Лейтэнант дзяржбяспекі Віктар Быхоўскі.

***

Зоя падумала, што зараз страціць прытомнасць, люстэрка выпала з яе рук, зрок затуманіўся. Дзяўчына заплюшчыла вочы і глыбока ўдыхнула.

«Гэтага не можа быць. Як я тут апынулася? Як я трапіла ў гэтае цела?» Яна ўзгадала Курапаты, працу каля крыжоў, дарогу да аўтобуса і тунэль. Тунэль. Што было ў тунэлі і далей, дзяўчына не памятала.

– Чаго сядзіш? – істэрычны голас жанчыны вырваў Зою з палону цёмных думак. – Хочаш спазніцца? Хочаш як тады? – жанчына адчайна махала рукой. На яе твары яшчэ захаваліся сляды ад нядаўніх слёз.

– Света, Святлана, – Зоя раптам зразумела, што ўзгадала імя жанчыны. Гэтая інфармацыя з'явілася ў галаве нібыта па падказцы суфлёра. Святлана Быхоўская – жонка Віктара.

– Што «Света»? – не супакойвалася жанчына. – Давай збірайся, – яна кінула на калені Зоі льняную кашулю.

Далей Зоя дзейнічала на аўтамаце: абмыла твар у тазе, развяла пену і пагалілася, апранула форму і самастойна зацягнула ўсе зашпількі на партупеі. Ёй не прыйшлося вывучаць усе гэтыя дзеянні з нуля – цяглічная памяць цела Быхоўскага рабіла ўсё сама. Зоя адчувала сябе начальнікам – яна проста давала загады, а цела іх выконвала, паўтарала тое, што рабіла гадамі. Прысутнасці самога Быхоўскага ў сваёй галаве Зоя не адчувала. Не было ніякага ўнутранага голасу, які б крычаў: «Выпусці мяне!» – як гэта любяць паказваць у кіно ці кнігах. Розум дзяўчыны ўзаемадзейнічаў з памяццю цела Быхоўскага наўпрост, без пасярэднікаў.

Зоя пад пільным наглядам раззлаванай жонкі Быхоўскага хутка праглынула прыгатаваную яешню, накінула скураны плашч, узяла з вешалкі фуражку і выйшла з кватэры, не сказаўшы ані слова. Дзяўчына вырашыла, што варта менш размаўляць, каб як мага даўжэй не выдаваць сябе.

КАЛІ ЗОЙКА ВЫЙШЛА З ДОМА НА ДВОР, ТО СПАЧАТКУ ПАДУМАЛА, ШТО ЗНОЎ ВЯРНУЛАСЯ Ў МІНСК СВАЙГО ЧАСУ. АЛЕ РАДАСЦЬ ХУТКА СЫШЛА, КАЛІ ДЗЯЎЧЫНА ПАЧАЛА ЎГЛЯДАЦЦА Ў ДЭТАЛІ.

Быхоўскі жыў на вуліцы Карла Маркса, якая, здавалася, мала змянілася з даваеннага часу. Такі ж асфальт, такія ж невысокія дамы з дробнымі крамкамі на першых паверхах, гэтак жа сама прыпаркаваныя на ўзбочынах аўтамабілі. Толькі калі ўважліва паглядзець, становіцца зразумела, што надпісы на шыльдах крам незнаёмыя. Напрыклад, што гэта за звер такі – «Менхарчгандаль»? Машыны ўсе старых марак і па выглядзе нібы з музеяў узятыя. Дый і дамы на праўду аказаліся не такія ўжо і знаёмыя. Напрыклад, такога шэрага прастакутніка з вялікім надпісам «АТС» пад дахам дзяўчына на вуліцы Карла Маркса прыпомніць не магла.

Зойка зрабіла некалькі няпэўных крокаў па вуліцы і нарэшце дадумалася агучыць у думках загад: ідзі на службу. Цела Быхоўскага падпарадкавалася, і хромавыя боты хутка пакрочылі па маставой у бок будынка Народнага камісарыята ўнутраных спраў. Зойка адчувала сябе пасажырам экскурсійнага аўтобуса і толькі азіралася па баках. Цэнтр гэтага Мінска не надта адрозніваўся ад таго старога Мінска, якім яго ведала дзяўчына. Адзінае што праспект Незалежнасці – называўся ён тут Савецкай вуліцай – быў значна вузейшы, тут хадзіў трамвай і забудавана вуліца была менш маштабнай архітэктурай, чым цяпер.

– Якое цяпер? – Зоя раптоўна абарвала назіранні за горадам. Цела Быхоўскага ад нечаканасці спынілася. – Цяпер, – дзяўчына мімаволі звярнулася да суфлёра ў галаве. – Цяпер трыццаць сёмы год, і як трапіць у тое іншае цяпер, невядома.

Па шчацэ лейтэнанта дзяржбяспекі пакацілася сляза. Зоя змахнула яе рукой у скураной пальчатцы і азірнулася. Яна стаяла перад будынкам, які за дзесяцігоддзі не памяняўся – у яе часы тут размяшчалася міністэрства ўнутраных спраў, а цяпер – наркамат усё тых жа спраў. Дзяўчына рушыла да ўвахода на рагу дома. Над высокімі дзвярыма на ўзроўні даху стаяла статуя жанчыны ў атачэнні двух дзетак. Зойка ведала, што гэта багіня ўрадлівасці Дэметра, усталяваная на будынку яшчэ да рэвалюцыі, калі тут размяшчалася земляробчае таварыства ўзаемадапамогі.

Вартавы ля ўвахода пры набліжэнні Зоі ў целе Быхоўскага адчыніў цяжкую

створку. Дзяўчына павіталася з міліцыянерам і ўвайшла ўнутр. Тут знаходзіўся яшчэ адзін пост аховы. Зоя машынальна дастала з унутранай кішэні пасведчанне НКУС і запісалася ў журнал наведванняў. Мімаходзь яна заўважыла, што почырк, якім выводзіла сваё імя рука Быхоўскага, таксама быў не падобны да яе ўласнага.

Зоя рушыла па вялікім фае ў бок галоўнай лесвіцы. З пралёта ёй насустрач хутка спускаўся малады мужчына ў форме з сяржанцкімі квадратамі ў пятліцах. Пабачыўшы дзяўчыну, мужчына гучна на ўсю залю прамовіў:

– Ты здурэў, Быхоўскі? – амаль крычаў Кунцэвіч – Зоя з дапамогай суфлёра ў галаве ўзгадала прозвішча мужчыны. – Дзе ты швэндаешся? Праз хвіліну нарада ў галоўнага!

– Здароў. Зараз буду, – толькі і адказала Зойка.

– Давай, не затрымлівайся, – Кунцэвіч зло глянуў на Зою – яго акруглы шырокі твар з прыўзнятым носам-бульбінай у гэты момант быў падобны да пысы маладога бульдога.

***

У прыёмнай наркама Зоі стала адразу моташна. З два дзясяткі мужчын у форме моўчкі чакалі пачатку нарады ў даволі цесным памяшканні. Было душна, і ноздры рэзаў густы пах мужчынскага поту. З-за дзвярэй начальскага кабінета даносіўся зычны голас Бермана. Наркам з мацюкамі і пагрозамі прабіраў кагосьці па тэлефоне.

Нарэшце наркам кінуў трубку – адчайны звон апарата пачулі ўсе. Зойка засумнявалася, ці застаўся ён цэлы. Вялікая створка прыадчынілася, і пачуўся голас:

– Усе тут? Давайце.

Мужчыны з прыёмнай гэтак жа моўчкі, як стаялі, перамясціліся ў велізэзны кабінет наркама. Суворыя следчыя ў шэра-зялёных гімнасцёрках і рыпучых партупеях выстраіліся сціпла каля сценкі і нясмела пазіралі на начальніка. Берман жа выглядаў надзіва спакойным, нягледзячы на нядаўнюю лаянку.

– Дазвольце зачытаць даклад па… – быў пачаў Воўчак, непасрэдны начальнік Быхоўскага, але наркам прыпыніў яго жэстам.

– Канчай. Не да гэтага.

Берман паправіў каўнер гімнасцёркі з камісарскімі ромбамі ў пятліцах, азірнуў натоўп следчых прыжмураным вокам і пачаў:

– Хуёва работаеце, таварышы, – спакойны тон наркама не прадвяшчаў нічога добрага. – Зверху сказалі, што наша ардэнаносная рэспубліка, наша родная Савецкая Беларусь адстае! Блядзь, вы ўяўляеце, адстае! І ў чым? У справе выяўлення ворагаў савецкага народа. А гэта значыць, што не рэспубліка адстае, а наш наркамат адстае! Лічбы, блядзь, храмаюць! Таварыш Яжоў даручыў нам лічбы, партыя зацвердзіла, а вы, прыпіздкі, іх не выконваеце. Міндальнічаеце з ворагамі. У джэнтльменаў гуляеце. Думаеце, ворагі б сталі з вам цырымоніцца, калі б іх планы здзейсніліся? Бац і ўсё!

Наркам склаў далонь у імправізаваны пісталет і стрэліў у Воўчака, той нервова хмыкнуў.

– Трэба працаваць, як Быхоўскі, – Берман тыцнуў пальцам у бок Зоі. У дзяўчыны ўнутры ўсё пахаладзела, яна злавіла на сабе некалькі злых позіркаў ад калег Быхоўскага. – О-о-о, я бачыў, як лоўка ён раскалоў аднаго нацдэмчыка, – працягнуў Берман. – Хрусь і папалам, – наркам засмяяўся. – На ордэн ідзеш, Быхоўскі! Толькі трэба яшчэ папрацаваць. Усім вам трэба папрацаваць, інакш мне піздзец. А калі мне піздзец, то вам зусім не пазайздросціш. Там, – Берман махнуў рукой угару, – намякаюць на тое, што, можа, і ў нас у органах засела контра. Можа, таму мы лічбы не даем? Памятайце пра гэта, сакалікі. З сённяшняга дня, з гэтага самага моманту ніхто, блядзь, не выйдзе з канторы,

пакуль не выканае план! Панятна? А цяпер па месцах.

Зашоргалі па дубовым паркеце хромавыя боты – натоўп следчых накіраваўся да выхаду. Зоя пераступала з нагі на нагу, знаходзячыся ў паўшокавым стане. Толькі цяпер яна насамрэч зразумела, у якую пастку патрапіла. Дзяўчына цудоўна ведала, пра якія лічбы казаў наркам. Яна чытала пра іх у кнігах і артыкулах. Лічбы рэпрэсаваных, якія спускаліся зверху. Вінаваты, не вінаваты – нікога не цікавіць. План ёсць план.

Незаўважна каля Зоі з'явіўся Воўчак, узяў пад локаць і пачаў хрыпаватым паўшэптам нагаворваць:

– Быхоўскі, блядзь, не падвядзі. Там твае нацфашысты засталіся, ты ж з імі па-хуценькаму. Прашу, – у голасе начальніка адчуваўся непрыхаваны адчай, – не зробім лічбы – самі туды сядзем. Ён жа разбірацца не будзе. Быў ордэн, стане ордэр.

Зояківала галавой і ліхаманкава думала, што рабіць, як выкруціцца. У мітусні Воўчак адстаў, і да кабінета Быхоўскага дзяўчына ішла адна. У роспачы прайшла невялікі пакой наскрозь і стала каля акна, што выходзіла на галоўную вуліцу Мінска. Па маставой звінелі трамваі і праносіліся легкавікі, але дзяўчына іх не заўважала. Яна паглыбілася ў змрочныя думкі.

– Ну што? Заводзіць першага? – вочы маладзёна гарэлі агнём нецярплівасці.

Філістовіч, узгадала Зоя. Малодшы памагаты з аддзелу Быхоўскага.

– Так, – нясмела адказала дзяўчына.

Хлопец знік у калідоры, пакінуўшы дзверы кабінета адчыненымі. Зоя глянула ў чорны прастакутнік выхаду і зрабіла першы крок у кірунку пакоя для допытаў.

***

Гэты пакой не меў вокнаў. Сцены яго былі пафарбаваныя зялёнай алейнай фарбай, а падлога пакрытая кафляй. Пасярод памяшкання стаяў стол з лямпай, з двух бакоў стала, адно насупраць другога, стаялі два крэслы. На адным з іх сядзеў першы паддопытны.

Зоя пазнала яго, як толькі ўвайшла ў пакой. Гэта быў Алесь Дудар. Ужо не такі малады, як на фотаздымках 1920-х, кудлаты, са шматдзённай шчацінай на шчоках. Чым даўжэй дзяўчына ўглядалася ў твар паэта, там больш халадзела яе нутро. Пад вачыма Дудара набухлі сінія мяшкі, вусны растрэскаліся, нос быў чырвоны і пахілены трохі набок, правае вуха парванае, а з вушніцы да шыі цягнуўся след закарэлай крыві. Рукі былі скручаны за спінай, вочы заплюшчаны, здавалася, што паэт спіць.

ПАСЯРОД ПАМЯШКАННЯ СТАЯЎ СТОЛ З ЛЯМПАЙ, З ДВУХ БАКОЎ СТАЛА, АДНО НАСУПРАЦЬ ДРУГОГА, СТАЯЛІ ДВА КРЭСЛЫ. НА АДНЫМ З ІХ СЯДЗЕЎ ПЕРШЫ ПАДДОПЫТНЫ.

Метады працы Быхоўскага з ворагамі Зоя ведала добра са сведчанняў тых, хто цудам выжыў у віры рэпрэсій. Гэты тып пакінуў пра сябе злавесную памяць. І праз дзясяткі гадоў было жудасна чытаць пра тое, што ён рабіў з вязнямі турмы НКУС, каб выцягнуць з іх прызнанне.

Нечакана дзверы адчыніліся і ў кабінет уварваўся малады белавалосы хлопец у форме канвойнага.

У кроку за крэслам Дудара стаяў Філістовіч. Было бачна, што малады чалавек ледзь не падскоквае ад нецярпення. Так яму хацелася хутчэй пачаць допыт.

Зоя з цяжкасцю прымусіла сябе зрабіць крок да стала, затым павольна апусцілася ў крэсла і ўздыхнула. Філістовіч увесь гэты час не зводзіў

вачэй з твару Быхоўскага – чакаў сігналу, здагадалася Зоя. Дзяўчына апусціла зрок на тэчку, што ляжала на стале ў святле лямпы, і ў гэты момант Філістовіч пачаў дзейнічаць – відаць, прыняў гэты позірк за пачатак допыту.

Хлопец зрабіў крок да Дудара, запусціў далонь у паэтаву шавялюру на патыліцы і з усяго маху даў галавой аб стальніцу. Пачуўся хруст, з носа пырснула густая кроў у перамешку са слізззю.

– Не спаць! – гаркнуў Філістовіч, і на яго твары з'явілася злосная ўсмешка. Ён паглядзеў на Зою, шукаючы адабрэння, маўляў, зірніце, як я яго.

Ад нечаканасці ўчынку канвойнага сэрца дзяўчыны сышло ў пяткі. Ад віду крыві закружылася галава і пацягнула ванітаваць, але Зоя з усяе моцы стрымлівала позыў. Яна пацягнулася да асадкі, што ляжала на стале і пачала яе вярцець у руках, пільна ўглядаючыся ў блікі лямпы на чорным эбанітавым корпусе – абы не глядзець на скрываўлены твар Дудара.

– Выйдзі, – прашаптала Зоя.

– Што? – не адразу пачуў Філістовіч.

– Я сказаў, выйдзі, – цвёрда паўтарыла дзяўчына.

– Так точна, – хлопец перавёў позірк з твару на асадку, якую Зоя круціла ў руках, і падміргнуў. Маўляў, зразумела, як Быхоўскі далей будзе весці допыт.

Цяжкія дзверы зарыпелі, і канвойны выйшаў у калідор. Толькі тады, калі створка з металічным грукатам зачынілася, Зоя дала волю пачуццям і зарыдала. Праплакаўшы хвіліну, яна выцерла вочы рукавом гімнасцёркі Быхоўскага і паглядзела на Дудара.

Той, здавалася, працягваў спаць, апусціўшы галаву долу. Толькі цяпер з растоўчанага носа звісала даўгая нітка крыві.

– Алесь, – Зоя першы раз нясмела звярнулася да паэта. – Алесь Дудар.

Той працягваў ледзь чутна сіпець пашкоджаным носам і, здавалася, не звяртаў ніякай увагі на дзяўчыну.

– Алесь, – гучна шаптала Зоя, – я насамрэч не гэты Быхоўскі, якога вы ведаеце. Я з будучыні, мяне завуць Зоя Камінская, я трапіла ў яго цела выпадкова, – Зоя казала і адначасова разумела наколькі дзіка гэта гучыць: дзяўчына з будучыні ў целе ката. – Мы там, у будучыні, вывучаем вашу творчасць у школах, ва ўніверсітэтах, пішам пра вас кнігі.

Дудар маўчаў.

– Вы… вы мой любімы паэт, – Зоя зноў расплакалася, па твары следчага Быхоўскага адна за адной пацяклі слёзы.

– Я не знаю, што будзе заўтра, – ціха зацягнула дзяўчына, – Мне сягоння апошняй мяжой...

Дудар раптам кашлянуў і захрыпеў:

– Не…

Зоя замоўкла і скіравала ўсю сваю ўвагу на паэта.

– Не іграйце са мной, таварыш следчы. У вас дрэнна атрымліваецца.

– Але я насамрэч не ён… – тыраду Зоі перарваў зацяжны кашаль Дудара – стол перад ім пакрыўся дробнымі кропелькамі крыві.

Дзяўчына замаўчала і ўзялася рукамі за галаву.

– Я вас вызвалю, – прашаптала Зоя, – я вас абавязкова вызвалю.

Некалькі хвілін дзяўчына разглядала Дудара, які зноў вярнуўся да стану паўсну – звесіў галаву на грудзі і павольна сіпеў носам. Затым яна паднялася і адчыніла дзверы.

– Выведзі яго, – сказала Зоя Філістовічу. Радасны хлопец зайшоў у пакой паглядзець на выніку допыту, але хутка вярнуўся і запытальна паглядзеў на дзяўчыну.

– Ён падпісаў?

– Не. Выведзі яго, – у вачах Філістовіча чыталася неразуменне і нават расчараванне. З падказкі суфлёра Зоя ведала, што маладыя канвойныя захапляўся метадамі Быхоўскага і ва ўсім хацеў быць падобным да яго, як кажуць, глядзеў у рот.

Зараз, відаць, кумір расчараваў паслядоўніка.

Філістовіч зло штурхнуў Дудара, так, што той проста вываліўся з крэсла. Маладзён уздзёрнуў паэта з падлогі і пацягнуў да выхаду. Дудар ледзь трымаўся на нагах. Калі паэта правялі міма Зоі, той узняў галаву і паглядзеў на дзяўчыну. Зоі падалося, што ў тым позірку стомленых чырвоных вачэй на імгненне мільганула іскарка надзеі.

***

Наступным паддопытным быў Міхась Чарот. У Зоі апусціліся рукі, калі яна пабачыла змардаванае аблічча паэта, якога ўводзіў у пакой Філістовіч. Усе, каго яна ў апошнія гады ўшаноўвала на вечарах памяці, чые вершы чытала на імпрэзах, усе былі тут, і пакуль што жывыя. Пакуль што.

Канвойны шпурнуў Чарота ў крэсла і з усяго размаху заляпіў аплявуху.

– Павітайся з таварышам следчым, сука!

Паэт прахрыпеў нешта ледзь чутнае.

– Не чую, – Філістовіч пляснуў далонню па твары Чарота другі раз.

У Зоі ад злосці далоні сціснуліся ў кулакі, яна ўжо паднялася з месца каб спыніць памагатага, але раптам дзверы ў пакой адчыніліся і на парозе паказаўся сілуэт наркама.

– Быхоўскі, блядзь, я цябе не пазнаю – ужо гадзіна прайшла, а ніводнага пратакола не падпісана. Што за хуйня, Быхоўскі? – тон Бермана быў яшчэ паблажліва-спакойны, але ў ім ужо праскоквалі ноткі ярасці.

– Стараюся, – Зоя расціснула кулакі.

– Хуёва стараешся. Мне тут далажылі, – наркам зірнуў на Філістовіча, – што ты нават не выкарыстоўваеш свае метады ўздзеяння, за якія я цябе хваліў перад усімі. Паўтараю другі раз: што за хуйня, Быхоўскі?

– Я… – Зоя адчувала, што ходзіць па краі. – Учора…

– Што ты ўчора нажраўся, я ведаю. Але твае дружкі, з якімі ты паддаваў, ужо закрылі па дзве-тры лічбы. Кунцэвіч і той траіх ужо апрацаваў, а ты з гэтым цацкаешся.

Берман нечакана падышоў да Чарота і з адцяжкай ударыў таму кулаком у твар. Галава паэта бязвольна хіснулася.

– Вось так трэба працаваць, Быхоўскі! – наркам пацёр выцятыя касцяшкі пальцаў. – Давай, блядзь, працягвай допыт, а я пагляджу.

ЗОЯ ПАД ПОЗІРКАМІ БЕРМАНА І ФІЛІСТОВІЧА НАБЛІЗІЛАСЯ ДА СТАЛА. ЯНА НЕ ДУМАЮЧЫ СТАЛА ПЕРАБІРАЦЬ ТЭЧКІ СА СПРАВАМІ ЗНЯВОЛЕНЫХ. ТАНЮТКІЯ КАРДОНКІ ЎТРЫМЛІВАЛІ Ў САБЕ ЛІТАРАЛЬНА ПА НЕКАЛЬКІ ПАПЕРАК: САНКЦЫЮ ПРАКУРОРА НА АРЫШТ, ПРАТАКОЛ АРЫШТУ І ВОБШУКУ, ПРАТАКОЛ ДОПЫТУ.

Звычайна апошні дакумент быў пусты. Справа Чарота была такая ж танюткая, як і астатнія.

– Ты што, хочаш яму ў жопу паперу засунуць, блядзь? – прарычаў Берман. – Я не поняў, цябе вучыць трэба, як весці допыты? Быхоўскі, блядзь, у мяне мала часу.

Зоя паклала тэчку на стол і падышла да Чарота. Паэт прыўзняў галаву, каб паглядзець, хто засланіў святло лямпы. На пасінелым ад пабояў твары прарэзалася няўлоўная ўсмешка.

– Таварыш следчы, – ледзь чутна прахрыпеў Чарот, – я не вінаваты.

Зоя азірнулася на Бермана. Той глядзеў на дзяўчыну, зло насупіўшы бровы, у позірку Філістовіча, які стаяў побач з наркамам, чыталася зларадства. Дзяўчына адчула, як у глыбіні яе галавы нараджаецца тоненькі галасок:

«Дай толькі загад – і я ўсё зраблю. Адзін загад – і ўсё скончыцца», – пішчэў гэты галасок, у якім чыталіся інтанацыі Быхоўскага. Зоя разумела, што, сапраўды, варта ёй толькі падумаць – і цела следчага, натрэніраванае за сотні допытаў, зробіць усё як мае быць. Апрацуе Чарота да паўсмерці, выдрапае з яго прызнанне на пацеху Берману і Філістовічу. Адзін знак – і на яе не будуць глядзець як на ворага, зразумеюць, што яна свая.

Зоя страсянула галавой і адкінула думку як мага далей у глыбіні розуму.

– Блядзь, Быхоўскі, хуй з табой, – разарваў цішыню наркам. – Канчай гэты цырк. Бачу, ты сапраўды стаміўся за гэтыя дні. Бывае. Адпачні гадзінку – і за справу, – Берман па-бацькоўску пахлопаў Зою па спіне. – Толькі далей без фокусаў.

– Выведзі яго – і свабодны на гадзіну, – кінула дзяўчына Філістовічу, калі наркам выйшаў за дзверы. – Ты ўсё чуў.

Зоя выйшла на калідор і накіравалася ад допытных камер у бок адміністрацыйнай часткі будынка. За паваротам яна ледзь не наляцела на Кунцэвіча. Той мыў скрываўленыя рукі ва ўсталяваным на калідоры ўмывальніку. Дзяўчына выбачылася, але калега ў адказ прамаўчаў і, зло ўсміхнуўшыся, праводзіў Зою позіркам. Злавеснасці яго ўхмылцы дадавалі дробныя плямкі крыві, што пакрывалі твар следчага.

***

Як толькі Зоя аказалася ў кабінеце Быхоўскага, то адразу зачыніла за сабой дзверы на засаўку. Пра адпачынак не было гаворкі, дзяўчына ліхаманкава думала, што рабіць далей. Яна пачала аглядаць паліцы шафаў і шуфляды стала, што стаялі ў кабінеце. Можа, што-небудзь знойдзенае дасць адказ, як дзейнічаць?

У першай жа шуфлядзе стала ляжаў чорны рэвальвер – узнагародны «наган», аб чым сведчыла медзяная таблічка на рукаятцы. Зоя ўзважыла зброю ў руцэ. Унутраны суфлёр падказаў ёй, што Быхоўскі быў неважнецкім стралком. Да таго ж у барабане рэвальвера было толькі сем патронаў, і не факт, што ўсе баявыя. Тым не менш дзяўчына паклала наган у кішэнь галіфэ. На ўсялякі выпадак.

Зоя працягнула пошукі, і ў гэты момант зазвінеў тэлефон на стале. Дзяўчына аслупянела, некалькі імгненняў вагалася, браць трубку ці не, але затым падумала, што гэта можа быць начальства, і падышла да апарата.

– Слухаю.

– Віця, гэта ты? – запытаў незнаёмы жаночы голас на тым баку. Зоя зразумела, што гэта была не жонка Быхоўскага. – Я цябе ўчора ўвесь вечар чакала, а ты не прыйшоў. Віцечка, давай ты сёння прыйдзеш. Я вельмі сумую.

Унутраны суфлёр нарэшце адкапаў для дзяўчыны інфармацыю – званіла палюбоўніца Быхоўскага, былая машыністка з наркамата Марыся.

– Я казаў: не звані мне на службовы, – адрэзала Зоя і кінула трубку. Затым агледзела апарат і вырвала з яго шнур, які звязваў тэлефон з сеткай. Больш ніхто не пазвоніць.

Дзяўчына працягнула пошукі па кабінеце. На паліцы знайшоўся стос розных афіцыйных бланкаў, які зацікавіў Зою. Яна раскідала паперы па стале і пачала ліхаманкава шукаць патрэбнае. Вось! Бланк перавода вязня з турэмнай камеры на допыт. НКУС быў надзвычай бюракратызаванай структурай, любы крок павінны быў мець папяровае пацверджанне.

Зоя адкінула лішнія паперы, узяла асадку, абмакнула ў чарніла і ў графе «імя паддопытнага» вывела: Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч. Сапраўднае імя Алеся Дудара. Паставіла роспіс. Намацала ў шуфлядзе скрынку з пячаткай і зрабіла адбітак. Заставалася адна дробязь – роспіс начальніка. Дзяўчына пачала корпацца ў паперах на стале і нарэшце вывудзіла

